КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 33 (305) ◂ 31 жніўня ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



**АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ**

Стар. 5

**РАБСТВА АБРАНАЕ ДОБРААХВОТНА**

Беларускія парламентарыі маюць «сяброўскую групу ў эстонскім парламенце». Кіраўнік гэтай групы Уладзімір Вельман. Сваімі высновамі спадар Вельман дзеліцца з журналістам НЧ Вольгай Хвоін

Стар. 4

**КАЛІ МЕДАЛЬ НЕ Ў РАДАСЦЬ**

Алімпіяда ў Лондане стала для Казахстана самай лепшай у гісторыі. Аднак усё гэта амаль толькі за кошт легіянераў, што заканамерна выклікала дыскусію, ці патрэбны нацыі такія перамогі

Стар. 28

**ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ**

Стар. 9–24

ISSN 2218-2144



**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ДЗВЕ ЦЫТАТЫ**

Артыкул Сяргея Нікалюка з цыклу «Азбука паліталогіі»

▸ **З НАГОДЫ**

# ПАЛАНЭЗ ЗАМЕСТ БАЛЕТА

Вольга ХВОІН

**Выбарчая кампанія ўступіла ў самую цікавую фазу — пачаўся перыяд агітацыі за кандыдатаў. Але ў рэчаіснасці і кампанія па сутнасці не выбарчая, і размова зусім не пра агітацыю. Хто меў ілюзіі — з імі развітаўся. І нават па-за межамі краіны ўжо ніхто не чакае пабачыць нешта адрознае ад гадамі абкатаных сцэнараў.**




Як люстэрка часу і падзей, якія адбываюцца ў краіне, агітацыйныя плакаты ў падтрымку кандыдата ў «дэпутаты» папугая Яшкі ў Светлагорску. «Я не ўмею хлусіць і красці, не замешаны ў карупцыі», «заўсёды кажу праўду, і любога магу пасласць», «ем і п'ю мала — вялікая эканомія сродкаў, мне не патрэбен асабісты транспарт», «халасты, таму ўвесь час гатовы аддаць працы», «паколькі «парламент» нічога не вырашае, я наогул лепшая кандыдатура» — апісвае папугай свае характарыстыкі для электарату. Па вялікаму рахунку, выбарцам насамрэч ужо фіялетава — Яшка ідзе ў парламент ці хтосьці Іваноў.

Як паказваюць сацыялагічныя апытанні, працэнт людзей, якія вераць, што ад іх голасу і выбару нешта яшчэ залежыць, невысокі. Уладам гэта аморфнасць толькі на руку. Бо чалавек абыякавы не ідзе разбірацца, чаму не зарэгістравалі патэнцыйнага кандыдата ў дэпутаты, якому ён аддаў свой подпіс, чаму не прайшоў у парламент кандыдат, за якога прагаласавалі ўсе знаёмыя, а ў выніках агучваюць мізэрныя лічбы.

Гэтая абыякавасць і дазваляе круціць паланэз Агінскага (якая непрыемная паралель з трансляцыяй па тэлебачанні «Лебядзінага возера», калі ў Маскве стралялі ў людзей!) замест няўгоднага выступу кандыдата ў дэпутаты, цэнзураваць, забараняць, збіваць і ў выніку саджаць у турму. Але ўладам невыгодныя папросту абыякавыя людзі. Трэба паслухмяная абыякавая маса, якая дазваляе легалізаваць уладу хаця б унутры краіны, паказаць яўку, распавесці пра падтрымку.

Каб адбіць ахвоту ісці супраць генеральнай лініі, ЦВК забараняе весці ў эфіры агітацыю, што супярэчыць дзяржаўным інтарэсам. Напрыклад, за байкот. Сакратар ЦВК Мікалай Лазавік падкрэсліў, што бясплатны эфірны час даецца толькі для перадвыбарнай агітацыі. «Гэта значыць, калі ласка: агітуйце за Іванова, за Пятрова, супраць Сідарава, супраць Якаўлева, але агітацыя супраць дзяржаўнага мерапрыемства, на якое дзяржава траціць велізарныя грошы, пад назвай «выбары» не прадугледжана», — заявіў Лазавік.

Пры гэтым сакратар Цэнтрвыбаркама падкрэсліў, што «заканадаўства не забараняе байкот выбараў». «Можаце праводзіць гэтую працу, але не за кошт дзяржавы», — сказаў ён. Пагаджаецеся граць у дзяржаўны спектакль за бюджэтныя грошы — выконвайце ролі паводле раздадзеных сцэнараў, а не цытуйце адсябяціну! Разам з тым, цікава, што далей вербальнай незадаволенасці такім парадкам ніхто не рушыць.

І гэта зноў-такі дазваляе павялічваць ціск. На гэтым тыдні быў затрыманы намеснік старшыні Беларускай партыі левых «Справядлівы свет», кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Валерый Ухналёў. Ухналёў правёў у міліцыі Гродна каля шасці гадзін. «Так мяне даўно не правяралі, — цытуе словы палітыка БелаПАН. — Дапытвалі мяне і дачку — у іншым кабінеце. Бліжэй да паўночы мне сказалі, што прэтэнзій няма». Пакуль Ухналёў сядзеў у пастарунку, шэсць чалавек з сабакам правялі ператрусы ў кватэры яго сваякоў у Гродна і ў іх суседзяў. «Ператрусы былі названы аглядамі, на якія нібыта не патрэбна санкцыя пракурора», — сказаў Ухналёў.

Апошнія электаральныя кампаніі, асабліва ў 2010 годзе, на перадвыбарчай стадыі давалі знак на хвалю пацяплення. Тады былі знешнія перадумовы, гульні ў «лібералізец», і ўлады вымушана прыпускалі лейцы. Сёлета ж нават спробаў згуляць у экспартны варыянт дэмакратыі няма. Так, у апошнія дні жніўня Глыбоцкі раённы суд на закрытым выязным пасяджэнні ў калоніі №13 Глыбокага прызнаў палітвязня Змітра Дашкевіча вінаватым у «злосным непадпарадкаванні патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы» (частка 1 артыкула 411 Крымінальнага кодэкса) і прысудзіў яго да года пазбаўлення волі. Выйсці на свабоду Зміцер зможа 28 жніўня 2013 года, а не ў снежні гэтага.

І вось на тле гэтых падзей і аморфнасці грамадства, адсутнасці цвёрдай кампаніі байкоту ці ўдзелу, адсутнасці моцнай альтэрнатыўнай стратэгіі ў апазіцыі застаецца хіба спадзявацца, што аднойчы прыйдзе нейкі добры дзядзька і ўсё вырашыць, прэзентаваўшы гатовы вынік шчаслівага жыцця. Але калі такога дзядзькі на гарызонце няма, улады могуць абсалютна спакойна адмяніць нікому не патрэбную і нічога не варту працэдуру выбараў. І грошы бюджэтныя будуць цалейшыя, і страту мала хто заўважыць.

## ВЫБАРЫ

### МАГІЛЁЎ. АБСКАРДЖВАЮЦЦА ЗАТРЫМАННЕ І КАНФІСКАЦЫЯ ПРАДУКЦЫІ КАМПАНІІ «ЗА СПРАВЯДЛІВЫЯ ВЫБАРЫ–2012»

Адпаведныя скаргі Юрый Новікаў і Галіна Лісіцына накіравалі ў Пракуратуру Ленінскага раёна Магілёва, Пракуратуру Магілёўскай вобласці, начальніку УУС аблвыканкама і начальніку аддзела аховы правапарадку Магілёва. У сваіх скаргах яны адзначаюць, што інцыдэнт, які адбыўся з імі без усялякіх на тое падстаў, парушае выбарчае заканадаўства.

Юрый Новікаў кажа, што ўжо вядома пра тое, што іх скаргі перанакіраваныя ў Ленінскі РАУС Магілёва — тую ўстанову, супрацоўнікі якой праводзілі затрыманне лідараў магілёўскай кампаніі «За справядлівыя выбары–2012» і канфіскацыю ў іх друкаванай прадукцыі.

На 28 жніўня Новікаў і Лісіцына былі позвамі выкліканы ў Ленінскі РАУС для далейшага разбіральніцтва па дадзенай справе. Юрый Новікаў мяркуе, што справа можа скончыцца судовым разбіральніцтвам.

Нагадаем, што 23 жніўня на вуліцы Грышына ў раёне Чыгуначнага вакзала супрацоўнікамі ДАІ была спынена машына Юрыя Новікава. Для разбіральніцтва яго папрасілі праехаць у Ленінскі РАУС, дзе адбыўся дагляд машыны. У багажніку былі знойдзены «Метадычныя рэкамендацыі для назіральнікаў» у колькасці 293 асобнікаў, «Рабочы сшытак назіральніка» — 291 асобнік, інфармацыйны бюлетэнь кампаніі «За справядлівыя выбары» ў колькасці 905 асобнікаў. Уся друкаваная прадукцыя была канфіскавана міліцыянтамі.

Трэба таксама адзначыць, што пратакол канфіскацыі рэчаў і дакументаў старэйшы міліцыянт Загорскі, які праводзіў канфіскацыю, складаць адмовіўся.

### СЛУЦК. АЛЯКСАНДРА СОЛАПА ПАПЯРЭДЗІЛІ, ШТО ЯМУ ПАДКІНУЦЬ НАРКОТЫКІ ЦІ ЗБРОЮ

Пасля скандалу ў Цэнтрвыбаркаме і адмовы ў рэгістрацыі кандыдатам слуцкаму прадпрымальніку Аляксандру Солапу перадалі інфармацыю аб аперацыі, якая рыхтуецца супраць яго з удзелам праваахоўных органаў.

Нагадаем, 29 жніўня ЦВК не задаволіў скаргу незарэгістраванага дэпутатам па Слуцкай выбарчай акрузе № 67 Аляксандра Солапа. Юрыдычных падстаў для адмовы ў рэгістрацыі не было. Цэнтрвыбаркам прыняў гэтае рашэнне «па маральна-этычных меркаваннях».

Сакратар ЦВК Мікалай Лазавік заявіў у прысутнасці журналістаў, што ён кожны дзень атрымлівае лісты з просьбамі «не рэгістраваць Солапа, таму што ён злачынец».

Прапанову Лазавіка пакінуць рашэнне акруговай камісіі ў сіле падтрымалі дзевяць чалавек. «Супраць» прагаласавала толькі Лідзія Ярмошына.

Рашэнне ЦВК Аляксандр Солап мае намер аспрэчыць у Вярхоўным судзе.

Праз некалькі гадзін пасля пасяджэння ЦВК да Аляксандра Солапа і яго жонкі ў скверы каля будынка КДБ у Мінску падышоў невядомы. Мужчына назваўся добразычліўцам і сказаў, што валодае інфармацыяй аб аперацыі, якая рыхтуецца супраць Аляксандра з удзелам праваахоўных органаў. Па словах незнаёмца, Аляксандра Солапа збіраюцца затрымаць у аўтамабілі і прыператрусе знойдуць наркотыкі ці зброю.

### КРЫЧАЎ. АКТЫВІСТА ІНІЦЫЯТЫЎНАЙ ГРУПЫ ЗВОЛЬНІЛІ З ПРАЦЫ

Пятра Басейку, актывіста ініцыятыўнай групы кандыдата ў дэпутаты ад партыі БНФ па Крычаўскай выбарчай акрузе №83 Валерыя Каранкевіча, звольнілі з працы.

Пётр Басейка працаваў вартаўніком у Хоцімскім жылкамгасе, у час перадвыбарчай кампаніі ён стаў начальнікам штаба кандыдата ад партыі БНФ, актывіста кампаніі «Гавары праўду» з Хоцімска Валерыя Каранкевіча.

«Мой апошні працоўны дзень быў 24 жніўня, з 25-га я застаўся беспрацоўным, — кажа Пётр Басейка. — Працоўную кніжку і канчатковы разлік у жылкамгасе пакуль не атрымліваў, бо збіраюся абскарджваць рашэнне працадаўцы. Зараз кансультуюся з праваабаронцамі, як гэта лепш зрабіць. Канешне, звальненне «ў сувязі са сканчэннем працоўнай дамовы» выглядае смешна, бо Хоцімскаму жылкамгасу, наадварот, пастаянна патрабуюцца працаўнікі, з-за нізкіх заробкаў людзі звальняюцца і з'язджаюць у Расію. Лічу сваё звальненне цалкам палітычна матываваным, мы пастаянна турбавалі мясцовую ўладу, узнімаючы праблемныя пытанні. Ну а мой актыўны ўдзел у ініцыятыўнай групе за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Валерыя Каранкевіча стаў апошняй кропляй. Звольніўшы з працы, улады проста фактычна выжылі мяне з раёна, бо зараз давядзецца ехаць у Расію. Як кажуць, няма чалавека — няма праблемы. Аднак у гэтай выбарчай кампаніі я ўсё роўна адпрацую да яе заканчэння, а ўжо пасля займуся асабістымі праблемамі».

Валерый Каранкевіч таксама лічыць гэта звальненне палітычна матываваным: «Пётр Басейка актыўна працаваў у маёй камандзе, таксама ён пастаянна ўздымаў перад чыноўнікамі разнастайныя грамадскія праблемы. Дарэчы, на працы сціснулі і на жонку Пятра Басейкі, каб яна на яго паўплывала. Пётр Басейка мае вышэйшую адукацыю, сем гадоў адпрацаваў майстрам у нашым ліцэі, актыўна ўдзельнічаў у цэлым шэрагу выбарчых кампаній, а зараз за яго актыўную палітычную дзейнасць пазбавілі нават працы вартаўніка ў Хоцімскім жылкамгасе, які пастаянна вывешвае аб'явы: «патрабуюцца працаўнікі».

**Матэрыялы падрыхтаваны паводле інфармацыі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары»**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

## МАЦІ ПАЛІТВЯЗНЯ ВЫМУСІЛІ ЗВОЛЬНІЦЦА

**Паўтара гады Таццяна Францкевіч адпрацавала прыбіральшчыцай тэрыторыі ў Наваполацкім УП «Водаканал».**

Праца, вядома, не прэстыжная, да таго ж і заробак далёкі ад сярэдняга ўзроўню аплаты працы.

Тым не меней, штодзённае цкаванне сталася прычынай таго, каб 4 жніўня жанчына вымушана была напісаць заяву на звальненне «па ўзгадненні бакоў».

Непрыемнасці на працы пачаліся яшчэ вясной, калі Таццяна Францкевіч, насуперак прымусу кіраўніцтва прадпрыемства, адмовілася ўдзельнічаць у суботніку. Намеснік дырэктара УП «Водаканалу «Аляксандр Кляменцьеў тады так і заявіў, што, маўляў, вы не маеце права абуракца, у вас ёсць толькі абавязкі».

Пасля гэтага для Таццяны Францкевіч пачалі ствараць невыносныя ўмовы працы, часта пасылаць на іншыя аб'екты за межамі прадпрыемства, хаця гэта і не прадугледжвалася працоўнымі абавязкамі.

Таццяна Францкевіч некалькі разоў брала дні без аплаты, каб патрапіць на спатканне з сынам, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі. Урэшце кіраўніцтва папярэдзіла, што заяву больш не падпішуць, паколькі Таццяна працягвае адстойваць свае працоўныя правы.

Неўзабаве начальнік цэха Сяргей Калашнікаў запатрабаваў напісаць тлумачальную запіску за нязначнае — на 5 хвілінаў — спазненне на працу. Праз пэўны час, нібыта за чарговае парушэнне працоўнай дысцыпліны, прымусілі напісаць яшчэ адну тлумачальную.

Увогуле, як распавяла Таццяна Францкевіч: «З «Водаканалу» працаўнікі нярэдка звальняюцца менавіта з-за таго, што рабочых пасылаюць на працу на іншыя аб'екты Наваполацка. Працаваць у такіх умовах, за мізэрныя грошы, вельмі цяжка. Але зараз нават не ведаю, ці змагу знайсці новую працу. Да пенсіі застаўся адзін год, а ў такім узросце працаўладкавацца няпроста».

**Паводле spring96.org**

БЕЗЗАКОННЕ

## АСЦЯРОЖНА, ЧЫНОЎНІЦТВА!

**Марат ГАРАВЫ**

**Міліцыя папярэджвае грамадзян, якія звяртаюцца па дапамогу да чыноўніцтва.**

Пра гэта НЧ паведаміла актывіста Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры, жыхарка горада Бабруйск Валянціна Каваленка.

28 жніўня яе выклікалі па тэлефону на прафілактычную гутарку да намесніка начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Бабруйскага гарвыканкама, палкоўніка міліцыі Аляксандра Сяргеева ў сувязі са скаргамі жанчыны ў Адміністрацыю прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Пры гэтым Валянціне Каваленка спачатку не назвалі прычыну выкліку і зрабілі гэта толькі пасля таго, як яна адмовілася прыйсці без матывіровкі.

Жанчыне было вынесена афіцыйнае папярэджанне. Ёй забаронена парушаць парадак у грамадскіх месцах і нецэнзурна лаяцца, выказваць у адносінах да чыноўнікаў падчас выканання імі службовых абавязкаў абразлівыя і паклёпніцкія довады, што не пацвярджаюцца дакументальна, а таксама прымаць удзел у незаконных мітынгах, дэманстрацыях і пікетаваннях, якія парушаюць правапарадак і правы другіх грамадзян.

Пры невыкананні гэтых палажэнняў папярэджання жанчына будзе прыцягнутая да адказнасці. На папярэджанні Каваленка напісала, што яна з'яўляецца законапаслухмянай грамадзянкай, не парушала і не парушае законы Рэспублікі Беларусь.

Падобнае адбылося і з актывісткай ініцыятывы, жыхаркай Мазыра Галінай Герасімавай. На працягу жніўня яе спачатку выклікалі да начальніка аддзела ўнутраных спраў Мазырскага райвыканкама, падпалкоўніка міліцыі Пятра Зыкуна, а потым жанчыну наведаў участковы міліцыянер, капітан міліцыі Анатоль Кубскі.

Прычынай гэтых сустрэч таксама сталі лісты з Адміністрацыі прэзідэнта з інфармацыяй пра тое, што Герасімава зневажала супрацоўнікаў адміністрацыі і службы бяспекі кіраўніка дзяржавы. На пратаколе апытання, складзеным участковым, Герасімава напісала, што абвінавачванні, якія інкрымінуюцца ёй, з'яўляюцца паклёпніцкімі, і прапанавала апытаць сведак з ліку ўдзельнікаў ініцыятывы, а таксама дала іх адрасы і тэлефоны.

Каментуючы гэтыя падзеі, юрыстка Тамара Сяргей адзначыла, што ў адносінах да ўдзельнікаў ініцыятывы пачалася чарговая кампанія запалохвання. «Замест таго, каб вырашаць праблемы грамадзян, некаторыя чыноўнікі пагражаюць людзям, выкарыстоўваючы праваахоўныя органы, а таксама імкнуцца падмануць грамадзян. Але падмануць хаду гісторыі нікому і ніколі не ўдавалася. Бо хітрасць — толькі пачатак розуму, а да яго вянца — мудрасці — вельмі доўгі шлях, на які здольны не кожны», — сказала юрыстка.

СУД

## ЗАБАРОНА АБГРУНТАВАНАЯ

**28–29 жніўня ў судзе Ленінскага раёна Брэста разглядалася скарга Уладзіміра Вялічкіна на забарону пікета 4 жніўня.**

Пікет меркавалася правесці на знак салідарнасці са зняволеным год таму старшынёй Праваабарончага цэнтра «Вясна» Алесем Бяляцкім і іншымі палітзняволенымі.

Уладзімір Вялічкін прасіў прызнаць адмову намесніка старшыні гарвыканкама Вячаслава Хафізава неправамоцнай, парушаючай правы на свабоднае выказванне меркавання.

Суддзя Андрэй Канючка пакінуў скаргу Вялічкіна без задавальнення, а адмову Брэсцкага гарвыканкама прызнаў законнай і абгрунтаванай.

Нагадаем, што падставай для адмовы ў правядзенні пікета ў складзе пяці чалавек у парку воінаў-інтэрнацыяналістаў стала правядзенне мерапрыемстваў у гэты час і ў гэтым месцы воінамі-дэсантнікамі. Другая прычына адмовы — адсутнасць пагадненняў з міліцыяй, бальніцай і камунальнай службай.

Праваабаронца лічыць падставы цалкам надуманымі. Па-першае, па словах Вялічкіна, у парку хапіла б месца і пяці пікетоўцам, і воінам-дэсантнікам. Па-другое, пагадненні з вышэйзгаданымі службамі пяці пікетоўцам не патрэбны: яны ўсе законапаслухмяныя грамадзяне, мелі б пры сабе аптэчку і тэлефоны на выпадак патрэбы медычнай дапамогі і не збіраліся пакідаць пасля сябе горы смецця. Не ўлічваючы таго, што ўсе гэтыя службы існуюць за кошт падаткаў грамадзян, у тым ліку — тых пяці, якія збіраліся правесці пікет.

Рашэнне суда Ленінскага раёна будзе абскарджана ў Брэсцкім абласным судзе.

**Паводле spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# БРАТЫ — У ХАТУ, А ВОРАГІ — ЗА КРАТЫ

Генадзь КЕСНЕР




**Нечакана багатымі на падзеі выдаліся апошнія сем дзён. Ахапіць усё адбытае не дазваляе абмежаваная газетная плошча, але ўсё ж паспрабуем абняць неабдымнае. Ці хаця б засяродзіцца на больш адметным.**

Уладная рэпрэсіўная машына не спыняе свае абароты. 28 жніўня яшчэ год няволі атрымаў лідар зарэгістраванай у Чэхіі Міжнароднай моладзевай арганізацыі «Малады фронт» Зміцер Дашкевіч. Калі ва ўладаў не надарыцца яшчэ адзін «прыступ правасуддзя», то юнак убачыць белы свет не праз «клетачку» толькі 28 жніўня 2013 года.

Тым часам следчыя органы працягнулі тэрмін расследавання крымінальнай справы сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Андрэя Пачобута. Інфармацыю пра працягненне расследавання прэсслужбе ГА «БАЖ» пацвердзіў следчы па справе Арсень Нікольскі. Андрэй Пачобут па-ранейшаму знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе і абвінавачваецца ў паклёпе на Аляксандра Лукашэнку.

Нагадаем, што карэспандэнта польскай «Gazety Wyborczej» і аднаго з лідараў незарэгістраванага Саюза палякаў у Беларусі затрымалі ў ягонай кватэры ў Гродна 21 чэрвеня бягучага года. Перад гэтым у памяшканні правяліператрус і забралі кампутары журналіста. Андрэй Пачобут знаходзіўся ў СІЗА Гродна да 30 чэрвеня, пасля чаго пад ціскам грамадскасці быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Сам журналіст мяркуе, што следства вернецца да ягонай справы пасля выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

Дарэчы, пра выбары. Калі тое, дарадца па баршчах днямі заявіла, што на выбары прыйдуць 67% выбаршчыкаў.

Цікава, адкуль гэтая інфармацыя? Бо, да прыкладу, палітолаг Алесь Лагвінец схіляецца да думкі, што тая агучаная з вуснаў Лідзіі Ярмошынай лічба папросту прыдуманая. Але не проста так. А каб ніжэйшыя выбаркамы зразумелі, колькі беларусаў павінныя прыйсці на ўчасткі для галасавання. І адлюстраваць гэтыя лічбы. Ну і што, калі насамрэч яны могуць быць іншыя. Галоўнае — пратакол з подпісамі сяброў выбаркамаў. І патрэбнымі лічбамі. Бо ў сённяшняй Беларусі, як і шмат гадоў таму, жыве — прычым жыве стала — выслоўе вядомага генералісімуса: «Галоўнае, не як галасуюць, а як лічаць».

Але нават і тут узнікае праблема. Аказваецца, улада чамусьці вельмі баіцца слова «байкот». Бо з якога інакш пераляку ЦВК забараняе выступы кандыдатаў у дэпутаты ПП НС РБ у выпадку, калі ў іх прамовах — каротких, пяціхвілінных, да таго ж у запісе — прысутнічае гэтае слова «байкот»? На думку экспертаў, яўка на галасаванне ёсць ступенню вымярэння даверу электарату да ўлады. Якая яўка — такі і давер. А як жа можна дапусціць нізкую яўку, калі нават самы галоўны чыноўнік заяўляе, што яна будзе годнай? Непарадак атрымаецца. Па галаве можна атрымаць. Ад яго ж, таго чыноўніка.

> Як лічыць старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта Алег Гулак, ніякі закон не забараняе весці агітацыю за байкот выбараў

што адбываецца (ці не адбываецца?) можна назваць выбарамі. А калі яшчэ і абстрагавацца ад прафесіі журналіста і зірнуць на ўсё вокам звычайнага абывацеля, то вырвецца толькі шчырае: «Воечкі, ды што вы?!» Дзе вы бачылі тыя выбары? На рэдкіх стэндах з адзінокім тварам наменклатурнага кандыдата, ды і тое хіба што ў цэнтры сталіцы?

Але, не. Яшчэ на экранах беларускіх (паводле паходжання) тэлеканалаў. Асабліва калі яны ў прайм-тайм ганяць апазіцыю, пра якую многія гледачы даведваюцца менавіта з гэтых тэле- (пардон) праграмаў. Выліваючы пры гэтым тону бруду з нагоды і без. Але не будзем марнаваць час і газетную плошчу. Дык вось, кіраўніца самага прагрэсіўнага і дэмакратычнага ў свеце Цэнтрвыбаркаму і па сумяшчальніцтву непараўнальная

Апроч таго, як лічыць старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта Алег Гулак, ніякі закон не забараняе весці агітацыю за байкот выбараў. Па словах праваабаронцы, зарэгістраваныя кандыдаты ў дэпутаты парламента самі ў праве вырашаць, як ім паразумецца са сваімі выбаршчыкамі. І ніякі Цэнтрвыбаркам не ў праве ўмешвацца ў гэтыя дачыненні. Але, відаць, Ярмошына і кампанія не ў курсе спраў. Хаця забарона выступаў кандыдатаў толькі з той прычыны, што яны выказваюцца наконт байкоту выбараў, — наўмыснае самапашырэнне паўнамоцтваў ЦВК, лічаць юрысты.

А вось у самай адказнай асобы краіны нават гэтым часам рыторыка памянялася. І не такі ўжо страшны, аказваецца, Захад. І не такая ўжо небяспечная тая Еўропа. Таму і новы прызначэнец на пасаду міністра замежных спраў былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Макей можа пачувацца ў сваёй стыхіі. Ён жа — былы дыпламат, да таго ж германіст. І са спісу неўязных у краіны Еўрасаюза яго выкрасляць. Так што еўрапейскі вектар прагледаецца.

Але і ўсходні не забываецца. Толькі вось не столькі ў накірунку «Першапрастольнай», колькі ў бок іншых братоў па былым СССР. Скандал выклікала публікацыя ў сеціве фота малодшага брата скінутага з пасады прэзідэнта Кыргызстану Курманбека Бакіева Жаныша. Калі «брат» па постсавецкай прасторы беларускага кіраўніка мае нашае грамадзянства, пашпарт і, калі верыць СМІ, нават пабудаваў дом на ўскрайку сталіцы Беларусі, то Жаныбек Бакіеў, што, як і старэйшы ягоны брат, знаходзіцца ў вышуку не толькі па лініі Інтэрполу, але і па лініі СНД. Але ці валодае такім жа статусам — беларускага грамадзяніна і ўцекача — няясна. Хаця што тут няснага на прасторах былой савецкай імперыі? Аднак жыць трэба па законах цывілізацыі, а не па паняццях асобных «валадароў сусвету».

І не абмінуць, на жаль, тэму фатальных сыходаў. Сыходаў з жыцця людзей, вартых згадвання. Нейкі нелюдзь забіў у Севастопалі народнага артыста Беларусі Якава Навуменку, развітанне з якім у сераду, 29 жніўня, прайшло ў Дзяржаўнай філармоніі ў Мінску. Якаў апошнім часам заняўся зборам фанатэкі беларускамоўных песень. Не паспеў ён, аднак, ажыццявіць такі цікавы і важны праект.

23 жніўня адышоў у Вечнасць драматург і публіцыст, пісьменнік Алесь Петрашкевіч. Гэтымі ж днямі не стала і вельмі добрага журналіста ды публіцыста Яўгена Казюкіна.

У мінулую нядзелю ўспаміналі з нагоды пяцідзесяцігоддзя Таццяну Сапач (Дубавец) — цудоўную паэтку і журналістку, якая загінула ў аўтакатастрофе 27 снежня 2010 года. І, натуральна, калегі памятаюць Змітра Завадскага — зніклага без вестак 7 ліпеня 2000 года тэлежурналіста, аператара, якому 28 жніўня споўнілася б 40 гадоў. Памяць пра людзей, знаёмых і незнаёмых, але вядомых, сагравае сэрцы і дае прагу да жыцця.

А ўсё астатняе — дробязь. Якой бы важнай яна ні падавалася на першы погляд.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### МАРЫЯНА ШЧОТКІНА



Улады Беларусі расселяць мігрантаў у дэмаграфічна дэпрэсіўных раёнах краіны для кампенсацыі натуральнага змяншэння насельніцтва. Пра гэта паведаміла міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна. Па словах міністра, пры рассяленні будзе ўлічвацца не толькі колькасць жыхароў, але і мясцовыя патрэбы ў кадрах і магчымасці сацыяльнай інфраструктуры, перадае Gazeta.ru.

Апошнія дзесяцігоддзі прырост насельніцтва ў Беларусі ідзе за кошт мігрантаў, уласны дэмаграфічны баланс застаецца адмоўным. У мінулым годзе ў краіну прыехалі 8 434 чалавекі. Прыбылыя замежнікі пераважна занятыя ў якасці будаўнікоў, сельгасрабочых, трэнераў, кухараў.

Па дадзеных на 1 снежня 2011 года, насельніцтва рэспублікі Беларусь складае 9 466 000 чалавек. Ад 1994 года ў краіне назіраецца няўхільнае скарачэнне колькасці насельніцтва.

### ПЁТР ЯНОЎСКІ



Трэнер-выкладчык Бабруйскага вучылішча алімпійскага рэзерву Пётр Яноўскі распавёў «Белгазеце», у якіх умовах гадуюць алімпійскіх чэмпіёнаў: «Наша база — гэта фактычна будка: душавых кабін няма, у раздзявальнях батарэі не грэюць, — распавёў першы настаўнік братоў Аляксандра і Андрэя Багдановічаў, якія заваёўвалі на Алімпіядах і золата, і срэбра. — Сядзім на пячным ацяпленні: зіма прыходзіць — дровы даставай. А печка цяпла дае ледзь-ледзь. Мы даўно гаворым кіраўніцтву горада: нам шмат чаго не трэба — правядзіце да базы цэнтральнае ацяпленне і зрабіце душавыя».

Спадар Яноўскі распавёў, што аднойчы на базу прыехала камісія і паабяцала пабудаваць новую. Аднак трэнер да іх абяцання паставіўся скептычна, і сапраўды — прайшоў год, а ні рамонту на старой базе, ні новай базы няма. Няма і душавых для спартоўцаў — мыюцца яны старым метадам — у рацэ.

«Дык вось, хацелася б, каб кіраўніцтва горада ўсё ж знайшло грошы для нашай базы. А то алімпійскіх чэмпіёнаў гадуем, а душа няма, і раздзявальні халодныя», — рэзюмаваў трэнер-выкладчык Бабруйскага вучылішча алімпійскага рэзерву Пётр Яноўскі.

### МІХАІЛ ПАШКЕВІЧ



Непрыемны выпадак здарыўся з актывістам кампаніі «Гавары праўду» Міхаілам Пашкевічам. Вечарам Міхаіл адпачываў у рэстаране з сябрамі і атрымаў ад невядомага чалавека запіску з «прывітаннем» ад Бакіева. За тыдзень да гэтага Міхаіл Пашкевіч на вуліцы Карла Маркса ў Мінску зрабіў фатаграфіі Жаныбека Бакіева і людзей, якія яго суправаджалі. Выявілася, што брат былога прэзідэнта Кіргізіі знаходзіцца ў вышуку Інтэрпола па падазрэнні ў выкраданні людзей, нанясенні шкоды жыццю і здароўю, нацыянальных і міжнародных злачынствах. Яшчэ ў 2010 годзе часовы ўрад Кіргізіі прызначыў грашовую ўзнагароду за рэальнае садзейнічанне ў вышуку гэтых злачынцаў у суме ад 20 да 100 тысяч долараў ЗША. Фотаздымкі, апублікаваныя Пашкевічам у facebook, выклікалі міжнародны скандал.

Міністэрства замежных спраў Кыргызскай Рэспублікі накіравала ў МЗС Беларусі вербальную ноту «аб прыняцці вычарпальных мер для хутчэйшага затрымання грамадзяніна Бакіева Жаныша Саліевіча і наступнай яго экстрадыцыі ў Кыргызскую Рэспубліку». Не дачакаўшыся рэакцыі на свае патрабаванні, Міністэрства замежных спраў Кыргызстана з 24 жніўня адклікала ў Бішкек свайго надзвычайнага і паўнамоцнага амбасадара ў Беларусі Эрыка Асаналіева для правядзення кансультацый.

Міхаіл Пашкевіч мяркуе, што запіска з «прывітаннем» можа быць пагрозай. «Калі мы кітайскім паркам займаліся ў Смалявічах, нам таксама ўвесь час перадавалі паведамленні тыпу «сцеражыцеся за сваё жыццё». Магчыма, мяне ратуе тое, што я доўгі час займаюся грамадскай дзейнасцю і на відавоку і ў журналістаў, і ў праваабаронцаў... Бо калі б на маім месцы быў нейкі новы «Антон Сурапін», які проста атрымаў фатаграфіі, то, магчыма, праз пяць хвілін пасля таго, як я апублікаваў гэтыя фатаграфіі, я ўжо апынуўся б добра калі ў «амерыканцы». Спецыяльна ў мяне не было ніякай задумы супраць Жаныша Бакіева. Я паўтараю, што думаў, што гэта Курманбек Бакіеў, які ўжо мае беларускі пашпарт і яму больш нічога не пагражае. Я больш спалохаўся, калі даведаўся, што тыя людзі, якіх я сфатаграфаваў, прама абвінавачваюцца ў забойствах», — патлумачыў Радыё «Свабода» прычыны сваіх хваляванняў Міхаіл Пашкевіч.

▸ БЕЛАРУСЬ–ЕС

# 10 МІЛЬЁНАЎ ЕЎРАПЕЙЦАЎ

Вольга ХВОІН

**Пасля прызначэння Уладзіміра Макея кіраўніком знешнепалітычнага ведамства некаторыя аналітыкі пачалі казаць пра магчымасць новага этапу дыялогу Беларусі з Еўрасаюзам. Маўляў, новыстары перамоўшчык можа знайсці чарговы ключык да сэрца суровай Еўропы. Праўда, еўрапейскія палітыкі афіцыйна заяўляюць, што, хаця і думаюць пра дзесяць мільёнаў еўрапейцаў у Беларусі, гэта не адмяняе ранейшых патрабаванняў.**

Так, на сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай грамадзянскай супольнасці, журналістамі міністр замежных спраў Польшчы Радаслаў Сікорскі адзначыў, што ў Польшчы ёсць свае гістарычныя падставы ўважліва сачыць за падзеямі па ўсходні бок мяжы. «Калі ў Польшчы глядзяць на Беларусь, то бачаць там 10 мільёнаў еўрапейцаў, якія заслугоўваюць такога ж узроўню свабоды і дэмакратыі, як і ў Еўропе», — сказаў дыпламат.

Сікорскі адзначыў важную ролю Форуму грамадзянскай супольнасці праграмы ЕС «Усходняе партнёрства» для развіцця кантактаў паміж Еўропай і ўсходнімі краінамі-суседкамі. Ён выказаў спадзеў, што беларуская грамадзянская супольнасць змажа зрабіць больш, каб ідэі «Усходняга партнёрства» і «Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі для Беларусі» знайшлі водгук у жыхароў краіны.

Дыпламат паведаміў, што ўжо зарэгістраваны створаны пад эгідай Еўрасаюза Фонд падтрымкі дэмакратыі. Праз яго ў тым ліку плануецца і аказваць дапамогу беларускім арганізацыямі, што працуюць у трэцім сектары. Сікорскі адзначыў, што Польшча ўжо зрабіла першы ўнёсак у 5 мільёнаў еўра. На аналагічную суму можна разлічваць і ад Брусэлю. Агулам плануецца, што фонд будзе фінансавацца сумесна краінамі ЕС і Еўракамісіяй. Кіраўнік знешнепалітычнага ведамства таксама распавёў, што ў Польшчы ў хуткім часе адкрыецца ўніверсітэт, дзе змогуць атрымаць дыпламатычную адукацыю ў тым ліку і прадстаўнікі краін «Усходняга партнёрства».

У сваю чаргу эстонскі калега Сікорскага — міністр замежных спраў Урмас Паэт падкрэсліў, што Еўрасаюз, і Эстонія ў прыватнасці, хоча бачыць Беларусь свабоднай і дэмакратычнай краінай. «На жаль, у Еўропе застаецца «шэрая зона», дзе абмежаваныя свабоды, ёсць палітвязні, — сказаў Урмас Паэт. — І ва ўмовах напружанасці паміж Брусэлем і афіцыйным Мінскам, што стварае цяжкасці для знешняй палітыкі, Еўрапейскі саюз будзе імкнуцца максімальна падтрымліваць грамадзянскую супольнасць Беларусі».

Цікава, што прыкладна месяц таму дарадца прэзідэнта Літвы Далі Грыбаўскайтэ Дарыюс Сямашка заявіў журналістам, нібыта патрабаванні ЕС аб дэмакратызацыі, выкананні правоў і свабодаў у дачыненні да Беларусі прывялі да краху палітычнай лініі. У часе візіту Грыбаўскайтэ ў Мінск у 2010 годзе, зазначыў Сямашка, Лукашэнку перадалі, што ён павінен на выбарах прытрымлівацца стандартаў ЕС і правесці адпаведныя выбары — тады крокі ў адказ распачне і ЕС. «На жаль, гэта не спрацавала. Можа, са свайго боку мы былі занадта нецярплівымі. Працуючы з апазіцыяй, можа, занадта шмат надзей з ёй звязвалі. Цяпер лягчэй гаварыць з пазіцыі часу, але, можа, іншая тактыка больш бы сябе апраўдала. Калі б было менш амбіцый, можа, можна было дамовіцца з Лукашэнкам аб дыялогу», — падкрэсліў Сямашка. Паводле яго слоў, ЕС хацеў «усё і адразу». «Лукашэнка спалохаўся, пачаў паводзіць сябе нерацыянальна, і мы канчаткова зачынілі дзверы. І што здарылася: ён паехаў у Расію. Ён прадаў частку маёмасці, але стаў больш залежаць ад Расіі», — сказаў Сямашка.

Гэтае выказванне Сямашкі раскрытыкаваў еўракамісар па пытаннях пашырэння і палітыкі добрасуседства Штэфан Фюле, падкрэсліўшы, што змякчаць знешнепалітычную лінію ў адносінах да Беларусі ЕС не будзе да таго часу, пакуль у краіне ёсць палітычныя вязні.

«Сёлета адносіны са Швецыяй абвастрыліся, і гэта ўплывае на адносіны з ЕС у цэлым. Але мы спадзяёмся, што сітуацыя выправіцца, хаця цяпер з Беларусі ідуць сігналы, якія нас хвалююць: арышты людзей, рэпрэсіі, узмацненне ўплыву КДБ, — пацвярджае афіцыйную лінію ЕС Малгажата Васілеўска, прадстаўніца Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў ад Эстоніі. — У верасні ў Беларусі прайдуць парламенцкія выбары, і мы разумеем, што яны не будуць адрозніваіцца ад выбараў 2010 года. Там будуць парушэнні, не будзе празрыстасці, мы мусім на гэта сур'ёзна глядзець. ЕС не мае намеру змяніць сваю палітыку ў адносінах да афіцыйнага Мінска, пакуль усе палітвязні не будуць вызваленыя. Але мае намер інтэнсіфікаваць адносіны з людзьмі, адносіны з людзьмі становяцца ўсё больш і больш важнымі».

Васілеўска адзначыла, што прапанаваны сёлета «Дыялог з Беларуссю дзеля мадэрнізацыі» найперш скіраваны на грамадскія арганізацыі, «каб падрыхтаваць іх для будучыні, для дэмакратычнага праўлення». Ужо адбыліся два этапы працоўных сустрэч. Адна з ідэй гэтай праграмы палягала ў тым, каб запрашаць да ўдзелу ў працы рабочых груп малодшых чыноўнікаў. «Гэты сегмент адміністрацыі, калі звязваецца з грамадскімі арганізацыямі, у будучыні прыносіць сінэргію», — падкрэслівае Малгажата Васілеўска.

Аднак застаецца адкрытым пытанне, як чыноўнікі могуць быць уключаныя ў праграму, калі ёсць інфармацыя пра распаўсюджаны па дзяржаўных інстытуцыях цыркуляр, які забараняе ім гэта. А таксама хто можа гарантаваць, што атрыманыя веды будуць скіраваныя ў канструктыўнае рэчышча? Свежы прыклад: журналіст Белтэлерадыёкампаніі Гусачэнка ўдзельнічаў у адукацыйнай праграме шведскага медыяінстытута ў Кальмары. Што не перашкодзіла яму зняць паклёпніцкі сюжэт для тэлебачання пра пасла Швецыі ў Беларусі Стэфана Эрыксана. Таму заканамернае пытанне: ці ў каня корм?



Міністры замежных спраў: Польшчы — Радаслаў Сікорскі, Эстоніі — Урмас Паэт

▸ МЕРКАВАННЕ

# РАБСТВА АБРАНАЕ ДОБРААХВОТНА

**Беларускія парламентарыі маюць «сяброўскую групу ў эстонскім парламенце». Кіраўнік гэтай групы Уладзімір Вельман некалькі разоў сустракаўся з калегамі, на свае вочы бачыў былых палітвязняў і выбары, размаўляў у піўной пра «бацьку» і альтэрнатыву. Сваімі высновамі спадар Вельман дзеліцца з журналістам НЧ Вольгай Хвоін.**



Фота аўтара

**Даведка:**

Уладзімір Вельман. Дэпутат парламента Эстонскай Рэспублікі. Нарадзіўся ў Таліне. Сябра Цэнтрысцкай партыі Эстоніі ад 1994 года. Скончыў Талінскі політэхнічны інстытут. Працаваў інжынерам, журналістам. Член саюза журналістаў Эстоніі. Валодае рускай, эстонскай і англійскай мовамі.

## Прэтэнзіі да эстонскіх выбараў

Я — дэпутат парламента з самым вялікім стажам. За гэты час парламент істотна змяніўся. Ён цяпер усё больш і больш штампуе рашэнні, прынятыя ўрадам. Дыскусій у залі амаль няма. Амаль усе законапраекты, якія прапануюць сацыял-дэмакраты, звычайна адмятаюцца ў першым чытанні. У нас ёсць паліцыя бяспекі, якая займаецца праслухоўваннем, вобшукамі. Нядаўна ў нас быў вобшук з такой «паказальнай поркай», з прыцягненнем СМІ.

У нас выклікае насцярогу сістэма выбараў. Электронныя выбары не дазваляюць прасачыць, хто, як і дзе галасаваў. Пазіцыя нашай партыі — людзі мусяць удзельнічаць у адзіным працэсе праз выбарчыя ўчасткі. Раз на чатыры гады можна ўстаць з канапы і прыйсці прагаласаваць персанальна. Цяпер электронным галасаваннем карыстаецца прыкладна 25 працэнтаў выбарцаў. Агулам яўка на выбары складае 65 працэнтаў. Такую высокую яўку ў тым ліку дае і электроннае галасаванне.

Але я мяркую, што Эстонія найбольш з усіх постсавецкіх краін прасунулася ў плане рэформаў.

(Памочнік Вельмана Дзяніс Барodзіч прызнаўся, што на апошніх парламенцкіх выбарах таксама карыстаўся электронным галасаваннем. «Зручна», — рэзюмаваў аднапартыец Вельмана. Варта адзначыць, што ў Эстоніі надзвычай прасунутая сістэма электронных паслуг: праз сваю ID-картку і інтэрнэт можна і кантракт падпісаць, і рэцэпт у доктара ўзяць, і на выбарах прагаласаваць. Самі эстонцы жартуюць, што гэта стала папулярным у тым ліку і з-за надвор'я, маўляў, яно часта падводзіць).

## Змена лідара — не галоўнае

Трэба з розумам правесці працэс прыватызацыі, каб, не дай Бог, не паўтарыць досвед Расіі, і ў некаторай ступені эстонскі. У нас, напрыклад, спачатку прадалі чыгунку, а потым дзяржава яе выкупіла, але ўжо за іншыя грошы. Цяпер столькі накапілася на постсавецкай прасторы розная досведу, яго трэба ўзважыць. Варыянт украінскай мітусні для Беларусі не падыходзіць.

Калі Беларусь, дай Бог, прыйдзе да дэмакратыі, то важна, які будзе зроблены выбар у геапалітычным вымярэнні. Вы ведаеце, якія праблемы цяпер у Расіі, яна сама свой геапалітычны выбар зрабіла. А калі яшчэ кінуць на Беларусь расійскіх алігархаў, то ў вас будзе горш, чым у Расіі. І я, дарэчы, згодны ў гэтым з Лукашэнкам. Пытанне змены лідара важнае, але не галоўнае. Калі народ будзе разадраны на часткі, то ці той гэта вынік, якога хацелася дасягнуць у жаданні пазбавіцца ад ненавіснага чалавека?

## Каб не парвалася

Рэформы трэба вельмі тонка адчуваць, каб не парвалася. Эстонскі прыклад з пераносам у 2007 годзе помніка воінам, якія загінулі ў часы Вялікай Айчыннай вайны. Помнік рэальна трэба было перанесці, быў сабраны круглы стол, мы дамовіліся, што зробім гэта летам, пасля Дня Перамогі, годна. І ўсе былі з гэтым згодныя. Але ішла перадвыбарная барацьба, і было прынята сілавое рашэнне. Гэтую сітуацыю можна было вырашыць нармальна, бо той канфлікт у выніку прывёў да некаторых супярэчнасцяў унутры нашага грамадства.

Мы ўсё ўразалі свае расходы, каб нас узялі ў зону еўра, разлічвалі на плынь інвестыцый. А ў выніку інвестыцый мы не атрымалі, ды яшчэ і мусім удзельнічаць у стабілізацыйных праграмах. Усе гэтыя рэформы былі неабходнымі, правільнымі. Але пытанне хуткаснага рэжыму, часавага адрэзку.

## Свабода — гэта...

Калі вы думаеце, што ў свеце недзе ёсць сілы, якія будуюць сваю пазіцыю з прынцыпаў вялікай дэмакратыі, то вы глыбока памыляецеся. Вы кажаце пра нелегітымны беларускі парламент, але я быў назіральнікам на вашых парламенцкіх выбарах у 2008-м годзе ў складзе місіі БДІПЧ АБСЕ. І гэта выбар вашага народа. Што такое легітымнасць — тое, што падабаецца ЕС, ці што падабаецца вам? Мы гаварылі сваім беларускім калегам, што вам патрэбная шматпартыйнасць, доступ да СМІ, вам ужо трэба да гэтага рыхтавацца. І ў прыватных шчырых размовах яны пагаджаюцца, усё разумеюць. Нашы калегі ў Беларусі — людзі не дурныя, але хутчэй яны не зацікаўленыя ў тым, каб гэта адбылося пры іх актыўным палітычным жыцці. Мой дзядзька, які з'ехаў у эміграцыю ў Парыж яшчэ ў 1930-я, сказаў мне, што свабода — гэта рабства, абранае добраахвотна. А я тады ведаў толькі пра «асэнсаваную неабходнасць...». І чым больш я жыву, тым больш разумею, што яго словы былі правільныя.

Пакуль людзі знізу не будуць разумець і хацець пераменаў, яны не пільныя. Я не прыхільнік таго, каб навязваліся нейкія пазіцыі. У часе назіральнай місіі я стараюся не сядзець на ўчастку, а наадварот — пахадзіць па горадзе, недзе ў піўной пагаварыць з людзьмі. І беларусы кажуць: так, «бацька» — не падарунак, але ніхто не прапануе лепш. Я з'ехаў з Беларусі ў 2010 годзе праз дзень пасля прэзідэнцкіх выбараў. Калі быў мітынг, я не быў на плошчы, але ўсё ведаю. Кажуце, амапавец ударыў дыпламата? Можа, у яго былі нейкія асабістыя прэтэнзіі да дыпламата, рэўнасць ці што...

Мы сустракаемся і з прадстаўнікамі апазіцыйнага руху. Напрыклад, з людзьмі Саннікава, з Аляксандрам Мілінкевічам, Аляксандрам Казуліным. Карыстаючыся легітымнасцю нашага мандата, мы можам пачувацца даволі свабодна. Мы не ведаем, назірае хто там за намі ці не. У прыватных размовах у часе візітаў у Беларусь тэма вызвалення палітвязняў падымалася, але афіцыйна не.

ТРЭЦІ СЕКТАР

# АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Прэмія «Дэбют», на мой погляд, адна з самых крэатыўных у дзейнасці беларускага ПЭН-цэнтра, бо дазваляе невядомым паэтам і празаікам выдаць сваю першую кнігу. Мой аповед пра жыццёвыя і творчыя дэбюты аднаго з кіраўнікоў гэтай структуры — Андрэя Хадановіча — магчыма, дапаможа зразумець, чаму ён так «рухае наперад» іншых.**



## Жыццёвы дэбют

Ён адбыўся 13 лютага 1973 года ў Мінску ў знакамітым раддоме насупраць Пішчалаўскага замку. Некалі там пакутаваў Якуб Колас. Напэўна, некаторыя экстрасэнсы ўбачылі б тут нейкі таямнічы сэнс. Мы ж папросту канстатуем факт.

Андрэй Хадановіч жартуе, што ўсё яго дзяцінства прайшло пад «знакам Бураціна», бо пасля пераезду яго сям'я жыла на вуліцы Альшэўскага, у доме, дзе размяшчалася цацачная крама «Бураціна». Яго вітрына і стала для хлопчыка асабістым Дыснэйлэндам.

У сямейнай памяці жыве гісторыя пра тое, што аднойчы, ва ўзросце двух-трох гадоў, ён убачыў за шклом плюшавага мішку і зладзіў сапраўдны скандал, патрабуючы цацку купіць. Высветлілася, што ў продажы мішкаў няма, а за шклом вітрынны экспанат. Дзіцячыя слёзы паставілі на вушы ўсю краму і спыніліся толькі тады, калі цацку пагадзіліся прадаць.

Спачатку Андрэй Хадановіч вучыўся ў сярэдняй школе №113, якая апроч французскай мовы мела яшчэ і спартовы ўхіл. З апошнім былі пэўныя праблемы, бо па жыцці ён аддаваў перавагу кнігам і канапе, а не футбольным мячам і спартовым прыладам.

Бацьку, Валерыя Фёдаравіча, гэта даволі моцна раздражняла — той меў шэраг спартовых разрадаў. Зразумела, хацеў бачыць у сваім сыне, як мінімум, прыхільніка алімпійскага лозунга: «Citius, Altius, Fortius», але быць «хутчэй, вышэй, мацней» у Андрэя ніколі не атрымлівалася.

Пакуль не ўмяшалася першае каханне.

Кнігі і спевы ў дзіцячым хоры Беларускага радыё і тэлебачання (ёсць у біяграфіі Андрэя Хадановіча і такі момант) заступілі месца жаданню падабацца дзяўчынкам. Юнак стаў абіраць тыя віды спорту, дзе патрэбна перш за ўсё неверагодная вынослівасць.

## Рамантычны дэбют

Спартовая хадзьба дапамагла скінуць лішнія кілаграмы, акадэмічнае веславанне — дадаць мускульнай масы. Дарэчы, разам з ім веславала старэйшая на год дзяўчынка з вельмі адметным (што не раз выклікала адпаведныя жарты) прозвішчам — Кацярына Хадатовіч. Пазней яна стане шматразовай алімпійскай чэмпіёнкай, выйдзе замуж і стане вядомай як Хадатовіч-Карстэн.

У самога ж Андрэя са спортам не склалася, бо прыблізна ў 17 гадоў у яго пачаўся канфлікт з трэнерамі. Па дзвюх прычынах. Па-першае, ён быў занадта самастойны і задаваў зашмат пытанняў. Зразумела, тым, хто патрабаваў безумоўнага (і безгалосага) падпарадкавання, гэта не магло падабацца. Па-другое, падчас чарговых спартыўных збораў у яго жыцці адбыўся рамантычны дэбют. Як звычайна, першае каханне падаецца падлеткам чымсьці бязмежным, вечным і самым галоўным.

Хутка ён стаў злосным парушальнікам спартыўнага рэжыму… У выніку на ўсесаюзныя спаборніцтва (нягледзячы на перамогу на рэспубліканскіх) яго банальна не запрасілі. У каманду ўзялі іншага чалавека, што вельмі моцна пакрыўдзіла Андрэя. Са спартовай секцыі ён сышоў.

Што адразу станоўча паўплывала на паспяховасць у школе. Апошнія дзве чвэрці выпускнога класа ён скончыў на ўсе «пяцёркі», імгненна ператварыўшыся з сераднячка ў выдатніка. Выйшаў нават на медаль. На срэбны, бо раней былі чацвёркі.

## Літаратурны дэбют

У той час гэта яшчэ азначала пэўныя льготы. Паспяхова здаўшы адзін экзамен, у 1990 годзе ён паступіў на філалагічны факультэт БДУ. Чаму? Напэўна, гэтаму выбару паспрыяла атмасфера, у якой Андрэй Хадановіч рос.

Літаратурны дэбют пачаўся з дзіцячага верша, што наўрад ці можна лічыць нечым неардынарным. А вось пра абставіны, пры якіх гэта адбылося, варта сказаць.

Андрэю было тады чатыры гады. На Новы год у іх сям'і, як заўсёды, упрыгожвалі ялінку. Цікаўны хлопчык выцягнуў з цацкі металічныя «вусы» і ўсунуў іх разетку, да якой яны, на яго разуменне, так ідэальна падыходзілі… Дзеўбанула токам добра… Выратавала, што трымаўся ён за «вусы» толькі двума пальчыкамі, інакш бы не было першага верша.

Цытаваць гэты верлібрык не буду, найперш па той прычыне, што сам Андрэй Хадановіч сёння крытыкуе яго сінтаксічную канструкцыю і выказвае намер сур'ёзна адрэдагаваць тэкст.

Як не буду цытаваць і яго вершаванай публіцыстыкі для школьнай насценгазеты, вершаў-прысвячэнняў сябрам і сяброўкам на філфаку БДУ.

Бацька будучага паэта быў журналістам, працаваў у розных газетах (у «Знамя юности», напрыклад) і сам складаў вершы. Праўда, не выдаў ніводнага зборніка, бо не пісаў пра «Леніна, партыю, камсамол». Напэўна, нейкі «ген творчасці» ад бацькі перадаўся сыну, бо той засынаў і прачынаўся пад грукат друкарскай машынкі.

## Пратэстны дэбют

Маці Андрэя, Ірына Алегаўна, нарадзілася ў Вялікіх Луках. Дзяцінства і юнацтва яе прайшлі ў рускамоўнай частцы Казахстана, а сталенне — у Маскве. У беларускую сталіцу яна пераехала амаль перад самым каханнем і шлюбам.

Гэта я да таго, што яна цалкам абгрунтавана з'яўляецца (адной з нямногіх), з кім Андрэй Хадановіч сёння размаўляе на рускай мове. І было б вельмі дзіўна, калі б было па-іншаму…

Магчыма, гэта некаму падасца спрэчным, але я не разумею людзей, якія пачынаюць успамінаць «сваю трасянку», каб паказаць прыналежнасць да беларускамоўнай эліты, альбо робяць з гэтага нейкі модны брэнд-фэціш. І ў той жа час не прымаю, калі вядучыя дзяржаўных тэлеканалаў пачынаюць размаўляць з беларускамоўнымі гасцямі на «великом и могучем», а тыя кан'юктурна пераходзяць на яго ж.

Менавіта па гэтай прычыне мне і падабаецца шчырасць, з якой Андрэй расказвае пра тое, што пэўны час пісаў вершы на рускай мове. А рускую філалогію ў БДУ абраў па той прычыне (юнацкі снабізм), што на рускае аддзяленне конкурс быў разы большы, чым на беларускае.

…Студэнцкі перыяд жыцця, па словах Хадановіча, з'яўляецца, акрамя іншага, «формай уцёкаў ад беларускага войска». Сапраўды, якраз падчас яго паступлення, на філфаку БДУ скасавалі вайсковую кафедру, і толькі па атрыманні дыплома выпускнікоў чакаў год «кірзавых ботаў».

Разам са сваімі аднакурсніцамі Андрэй Хадановіч старанна праходзіў медычныя курсы. Тыя сталі медсёстрамі, а ён медбратам. Навучыўся накладаць павязкі, і нават (толькі тэарэтычна) прымаць роды.

Калі пасля абароны дыплома пачалі прыходзіць ваенкаматаўскія позвы, ён «уцёк» у другое месца — аспірантуру пры БДУ. Адначасова яму прапанавалі выкладаць французскую літаратуру, чым ён займаецца ўжо больш за дзесяць год.

А беларускамоўны дэбют у яго творчасці адбыўся ў 1996 годзе. Паспрыялі яму шмат фактараў, найперш — эстэтычны, але не ў апошнюю чаргу — і рамантычна-палітычны чыннік.

Нагадаю, у траўні 1995 года адбыўся сумна вядомы рэферэндум, які «абакраў Беларусь на нацыянальныя сімвалы і стварыў юрыдычна законную сітуацыю для лінгвістычнай дыскрымінацыі беларусаў у Беларусі».

Гэта не толькі цытата з маёй размовы з паэтам і грамадскім дзеячам Андрэем Хадановічам. Гэта яго прынцыповая пазіцыя!

## Палітычны дэбют

Першая кніга паэта Андрэя Хадановіча называлася «Старыя вершы». Выйшла яна ў 2003 годзе і была цалкам беларускамоўнай. Сёння на яго рахунку ўжо 9 паэтычных кніжак. Шэсць выдадзены на беларускай мове, тры — у перакладзе на ўкраінскую, польскую і шведскую. Колькасць асобных публікацый яго вершаў і перакладаў вымяраецца ўжо трохзначнымі лічбамі.

Для тых, хто любіць статыстыку, удакладню: Андрэй Хадановіч — уладальнік многіх прэстыжных (у тым ліку і замежных) прэмій, першай з якіх была прэмія часопіса «Крыніца». З 2002 года ён сябра беларускага ПЭН-цэнтра, а з 2008 года — яго кіраўнік.

І яшчэ. 5 снежня 1998 года ён пабраўся шлюбам з былой аднагрупніцай і каляжанкай па аспірантуры Марынай, якая 10 траўня 2006 года нарадзіла цудоўную дачку Алену. Андрэй Хадановіч не вельмі любіць форму імені па бацьку, але сваю шасцігадовую дачку часта іранічна называе Аленай Андрэеўнай. Мабыць, таму, што яна да яго вельмі падобная…

А яшчэ ён вельмі любіць паўтараць словы Іосіфа Бродскага: пісьменнік не мае права лезці ў палітыку, пакуль палітыка не лезе ў яго справы. На жаль, сённяшняя палітыка ў справы Андрэя Хадановіча «лезе». Хаця, па вялікім рахунку, ён чалавек цалкам апалітычны.

Пры даволі скептычных адносінах да айчынных палітыкаў (дзяржаўных і апазіцыйных) Хадановіч цвёрда перакананы ў тым, што, калі ў грамадскім жыцці наступае «Час Х», ніхто не можа заставацца ў баку. У тым ліку і паэты.

Такімі момантамі сталі прэзідэнцкія выбары 2006 і 2010 гадоў. У 2006-м ён выступаў на Кастрычніцкай плошчы і кожны дзень потым (да разгону) хадзіў у намётавы гарадок. У 2006-м чытаў і спяваў вершы, а ў 2010-м на плошчы Незалежнасці праспяваў у сваім перакладзе знакамітую песню каталонскіх змагароў за свабоду з франкісцкім рэжымам 1960-х гадоў. Напісаў «Слуп» (першая назва) паэт Луіс Льяк. Падчас польскай «Салідарнасці» паэт і бард Яцэк Качмарскі перарабіў яе ў «Муры».

Гэты варыянт і абраў асновай для сваёй песні-верша Андрэй Хадановіч. Вобраз «муроў» ужо часткова згубіў сваю актуальнасць, бо Берлінскі мур даўно разбурылі, і таму да слова «муры» беларускі паэт дадаў слова «турма» і «свабода».

«Разбуры турмы муры! Прагнеш свабоды — то бяры!» — спяваў на плошчы паэт і грамадзянін Андрэй Хадановіч.

**P.S.** Не так даўно ў інтэрнэце з'явіўся ролік, дзе арыштаваныя малады расійскі паэт Кірыл Мядзведзеў у аўтазаку спявае свой рускі пераклад гэтай славутай песні. Накіраваны ён супраць таго, што зараз робіцца ў Расіі…

▸ МАРАЛЬ

# ПАЛЯВАННЕ НА ПЕДАФІЛАЎ

**Скандальная гісторыя «палявання» на педафілаў, у якую трапіў у ліпені грамадска-палітычны актывіст нетрадыцыйнай арыентацыі з Ваўкавыску Віталь Гуляк, атрымала свой працяг. «Паляўнічых» выклікалі ў пракуратуру па заяве аб нападзе, але нікому з іх нават не выпісалі штраф. Журналіст НЧ Алена Барэль сустрэлася з адным з арганізатараў і ўдзельнікаў суполкі «Скураны мікрафон» Аляксеем Чугнадзэ, каб высветліць далейшыя планы маладзёнаў: ці не распаўсюдзіцца «паляванне» пасля выпадку з Гуляком не толькі на педафілаў, але і на сэксуальныя меншасці?**



Адзін з «паляўнічых» на педафілаў Аляксей Чугнадзэ

Аляксей Чугнадзэ прыйшоў на сустрэчу ў кавярню з маскай Гая Фокса ў руках, больш вядомай як маска «Vendetta» з коміксу, а потым і з фільма «V — значыць вендэта». Адметна, што там таямнічы чалавек у масцы вядзе падпольную барацьбу супраць улады і, паміраючы, вызваляе краіну ад таталітарызму, становіцца нацыянальным героем.

Аляксей сціпла замовіў шклянку вады і пачаў распавядаць.

— Мы ствараем на сайце знаёмстваў анкету дзяўчынкі ці хлопчыка 11–14 гадоў. Чакаем, пакуль паступіць прапанова ад дарослага дзядзькі сустрэцца для сэксу. Пры гэтым мы неадназавона нагадваем яму пра «свой» узрост. Калі ж, нягледзячы на гэта, перапіска і непрыстойныя прапановы працягваюцца, мы згаджаемся на сустрэчу. Гэта лоўля на жыўца.

***— На сустрэчы вы хапаеце педафіла, здымаеце на відэа, а потым выкладаеце ў сеціва?***

— Мы прыходзім, каб расчараваць педафіла і трохі з ім пагутарыць.

***— «Пагутарыць» — гэта збіць?***

— Гвалт не ўжываецца ні ў якім разе. Мы толькі здымаем сустрэчу на відэа, патрабуючы прызнанняў і выбачэнняў. Мы проста хочам, каб яго калегі, сям'я, суседзі, знаёмыя ведалі, хто жыве побач з імі.

***— Месяц таму, 27 ліпеня, вы ў сеціве ад імя 16-гадовага мінскага падлетка дамовіліся на сустрэчу з геем Віталем. Навошта?***

— Спачатку мы вялі перапіску з ім ад імя 18-гадовага хлопца. Потым «прызналіся» ў 16-гадовым узросце, але ж Віталя гэта не спыніла (у нас ёсць усе раздрукоўкі размоў). Вось і трапіў на спатканне не з хлопчыкам, а з намі. Мы нікога не збіраліся абразіць, не было ніякай палітычнай афарбоўкі.

***— А навошта было махаць перад носам чалавека на камеру фалаімітатарам, які ў сеціве пабачаць падлеткі?***

— Было шмат спрэчак з-за гэтага. Мяркую, што з часам гэта зменіцца. Увогуле, важны сам змест відэа, а не антураж. Не бачу тут нічога страшнага.

***— Хто звычайна вядзе перапіску ад імя непаўнагадовых?***

— Усе патроху. З Віталікам мы перапісваліся некалькі тыдняў. Яго адвакатка, дарэчы, збіраецца судзіцца з намі. А вось у пракуратуры нам сказалі, што мы змагаемся за правую справу, і калі з нашага боку не будзе ніякага гвалту, агрэсіі і пераследу з нейкіх палітычных мэтаў, яны толькі вітаюць гэта.

Сярод нас няма ні алкаголікаў, ні наркаманаў, усе дастаткова дужыя, многія — спартоўцы. Шмат хто, як і я, займаецца бізнэсам. У мяне частка бізнэсу тут, а частка ў Расіі.

***— Прагледзеўшы старонку і фота аднаго з асноўных удзельнікаў «Скуранага мікрафона» Аляксандра Барадзіна, я адзначыла тату з рунамі, сонцазваротам і надпісы на саколках «Говори со мной на РУССКОМ языке!». Ці не рухаюць вамі ідэі РНА?***

— Не, вы што! Тату — для прыгажосці, ён любіць усе славянскае. Тату — маё хобі (дэманструе «размаляваныя» рукі), імі ў мяне пакрыта каля 60 адсоткаў цела, сам раблю эскізы. Усе мы — звычайныя хлопцы і да ніякіх груповак не належым. Што датычыцца рускай ідэі, то я, напрыклад, напалову грузін, і нікому з хлопцаў гэта не замінае.

***— Знятыя тры ролікі. Гэта значыць, што вы арганізаваліся адносна нядаўна?***

— Так, з вясны. Вырашылі з прыяцелямі, касцяк — шэсць чалавек, у вольны ад працы час рабіць добрую справу. Ведаеце, маёй сястрычцы 12 гадоў, і яна актыўна карыстаецца сецівам. А ў гэтым узросце дзіцё нескладана падмануць. І аднойчы я ўявіў, што яна таксама можа трапіць у лапы педафілу, які зруйнуе ёй жыццё. Абмеркаваў з хлопцамі, як і што ў гэтым напрамку можна зрабіць, так усё і пачалося.



Фота ўзятыя з сацыяльнай сеткі «Вконтакте»

Касцяк «Скуранога мікрафона»: Грыневіч, Барадзін, Чугнадзэ

***— Гэта была цалкам ваша ідэя, ці ваша дзейнасць каардынуецца кімсьці звонку?***

— Мы працуем па аналагу з арганізацыямі, якія ёсць у Расіі, Украіне дый іншых краінах СНД, аб'яднаных рухам «СТОП Ублюдки», да якога мы і далучыліся. Перапісваліся з расійскімі хлопцамі, дасылалі ім відэа для апрацоўкі і аналізу. Працуем усе па агульных базах дадзеных, якія змяшчаюць інфармацыю аб педафілах і ўвесь час абнаўляюцца.

***— Дык чаму на вашай старонцы vk.com/didloTV значыцца «Скураны мікрафон»?***

— «Скураны мікрафон» — назва для нашага «тэлеканала» аб педафілах на старонцы «ВКонтакте». А ўвогуле мы завёмся «ОМП» — «Отлов минских педофилов».

***— Колькі ў вас людзей?***

— Некалькі дзясяткаў чалавек, ва ўсіх буйных гарадах. На сустрэчу з педафілам у Мінску могуць прыехаць каля 30–40 чалавек.

***— А што канкрэтна, якія словы вы яму кажаце?***

— Стаю над вухам і душу маральна: «Ты — хворы» і г.д. Пытаюся, ці былі ў яго эпізоды з дзеткамі дагэтуль. Апошні, Віталік, адказаў, што былі… І яшчэ невядома, ці ведаюць пра гэта бацькі тых малых. Дарослы ж, дастаткова разумны і адукаваны чалавек, выдатна ведаў, што ягоныя дзеянні ў адносінах малалеткі будуць насіць супрацьпраўны характар. Самае цікавае, што ён лічыць сябе правым: паведаміў мне, што ён — гей. Арыентацыя — асабістая справа кожнага, але калі дарослы мужчына ломіць псіхіку дзіцяці, гэткі чалавек небяспечны. І небяспечным ён будзе да таго часу, пакуль яго не выкрыць. Таму мы прыкладаем максімум высілкаў, каб усе навокал разумелі, што гэта за чалавек. Зараз мы збіраем грошы на якасную відэаапаратуру для здымак.

***— Колькі педафілаў у Беларусі вы зараз адсачылі і з кім ведзяце перапіску?***

— Зараз мы валодаем матэрыяламі на цэлы гурт беларускіх педафілаў, трымаем кожнага з іх у распрацоўцы. Не хачу афішаваць лічбы, яны жудасныя, вельмі шмат дарослых людзей перапісваецца з 11–12 гадовымі хлопчыкамі і дзяўчынкамі. База будзе папаўняцца, ролікі выкладваць у сеціва, усё ўбачыце самі. Хачу звярнуцца да бацькоў: калі ласка, праглядайце старонкі сеціва, на якія заходзяць вашы дзеці!

***— Ці адсочваеце вы жыццё выкрытых вамі педафілаў?***

— Так, перыядычна. У кожным буйным горадзе ў нас ёсць свае інфарматары.

***— Які сэнс укладаеце ў маску Гая Фокса, ці «Vendetta», якую апранаеце на сустрэчах з педафіламі?***

— Аблічча Гая Фокса сімвалізуе, у першую чаргу, свабоду. Гэта рэвалюцыянер, якога ўлады спрабавалі пакараць смерцю, але нічога не атрымалася. З гэтай маскай я браў удзел у акцыях барацьбы супраць наркотыкаў на фэсце «Global Gathering», для мяне яна вельмі шмат значыць. Яна не для таго, каб схаваць твар як злачынцу. Нас шмат крытыкуюць, але мне неабыякавы лёс дзяцей, якія становяцца ахвярамі педафілаў. Не ўсе з пацярпелых кажуць родным. У мяне ёсць знаёмая, якую ў дзяцінстве заманіў нібыта для гаворкі і згвалтаваў дарослы мужык. Пра гэтае яна распавяла толькі ў 23 гады і аднаму чалавеку.

## Дэ-юрэ

Міліцыя не можа выкарыстоўваць вынікі дзейнасці «паляўнічых» за педафіламі, бо сабраныя ўдзельнікамі матэрыялы не маюць доказнай сілы ў судзе. Паводле беларускага заканадаўства, асобным грамадзянам не прадстаўлена права на ажыццяўленне аператыўна-вышуковай дзейнасці. З пункту гледжання крымінальнага заканадаўства, узнікаюць пытанні па кваліфікацыі дзеянняў супольнасці. Акрамя таго, існуе прэзумпцыя невінаватасці: ніхто не можа быць прызнаны вінаватым у здзяйсненні злачынства, акрамя як па выраку суда.

Удзельнікі групы «СТОП Ублюдки» могуць панесці адказнасць за прычыненне шкоды гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі, але толькі ў выпадку звароту пацярпелага ў суд з позвай. Існуе таксама адміністрацыйная і крымінальная адказнасць за паклёп — распаўсюд загадзя ілжывых звестак, якія б ганьбавалі іншага чалавека.

Па цяперашнім заканадаўстве, педафілам за адзін толькі намер спакусіць малалетніх нічога не пагражае. Крымінальная справа распачынаецца толькі пасля таго, як адбудзецца пацалунак, ці пакуль педафіл не пакажа дзіцяці свае палавыя органы. Справа распачынаецца толькі пасля здзяйснення злачынства.





Гей Віталь Гуляк трапіў у пастку «паляўнічых»

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 3 ВЕРАСНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.05** Час Саюза.
**11.00** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**16.45** «Кандрат Крапіва». Дак. фільм.
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Арэна.
**18.45, 23.45** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Серыял «Я цябе нікому не аддам».
**21.00** Панарама.
**21.45** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**22.55** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Моладзевая камедыя «Тое, што завуць каханнем» (ЗША).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Тэорыя неверагоднасці.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Ералаш.
**16.30** Камедыя «Дзелавыя людзі».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.05** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адчынены фармат».
**22.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.15** «Яўген Міронаў. Прозвішча абавязвае».
**00.15** Прэм'ера. «Без сведак».
**00.45** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.35** «Вялікі сняданак».
**10.10** «Зялёны агурок. Карысная перадача».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Будзьце здаровыя».
**13.50** «Цэнтральны рэгіён».
**14.20** Канцэрт М.Задорнава.
**16.50** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.10** «Наша справа».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Пяць гісторый».
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Пякельная кухня».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Серыял «Пацалунак Сакрата».
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.40** Бітва экстрасэнсаў.
**11.45** Камедыя «Напалеон Дынаміт» (ЗША).
**13.30** Прыгодніцкі фільм «Вось і лета мінула.» («Беларусьфільм»).
**14.35** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.15** Серыял «Гуманоіды ў Каралёве».
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Серыял «Гуманоіды ў Каралёве».
**22.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.00** Авертайм.
**23.30** Футбол. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весці.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** Тэлесерыял «Тэрмінова ў нумар. На службе закона».
**22.15** Тэлесерыял «Руская спадчынніца».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Дзяжурны па краіне». Міхаіл Жванецкі.



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**14.15** «Сярод белая дня» з Віктарам Набутавым.
**15.05** «Справа густу».
**15.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Галоўная дарога».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.35** «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.20** Серыял «Глушэц. Вяртанне».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Рэаліці-шоў «Званок лёсу».
**00.25** «Сцервы».



**02.00, 04.00, 06.00, 08.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Дзень 7.
**09.30** Велаcпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі – 15-ы этап.
**10.30** Мотаспартыўны часопіс.
**10.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Дзень 7.
**14.30** Прыгоды: марафон Ultra-Trail du Mont-Blanc.
**15.00** Велаcпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі – 15-ы этап.
**16.00** Велаcпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі - 16-ы этап.
**18.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Дзень 8.



**07.00** Размовы эксперта.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак.
**07.35** «Школа на санцапёку», серыял: 4, 5 серыі.
**08.30** «Мой родны горад», серыял: 26 серыя.
**08.55** Басанож па свеце.
**09.20** Дакументальная гадзіна: «Піянеры зменаў. Аргентына», дак. фільм, 2010 г.
**10.15** Euromaxx.
**10.40** «Цуд на Пурым», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**11.40** Дакументальная гадзіна: «Піянеры зменаў. Аргентына», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**12.35** Форум (ток-шоу).
**13.20** Размовы эксперта.
**13.45** «Дэкалог, пяць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**14.40** «Малая Масква», серыял: 4 серыя.
**15.25** «Дзеці і рыбы», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**17.05** Дакументальная гадзіна: «Піянеры зменаў. Аргентына», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 1 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Басанож па свеце.
**19.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Еўропа сёння.
**20.40** Размовы эксперта.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Свіцязь, горад на дне возера», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**21.50** Фільматэка майстроў: «Кэндзі», маст. фільм, 2006 г., Аўстралія.
**23.40** Аб'ектыў.
**00.05** «Дэкалог, адзін», маст. фільм, 1989 г., Польшча.
**01.00** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 4 ВЕРАСНЯ, АЎТОРАК



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**10.15** Арэна.
**11.05** Серыял «Я цябе нікому не аддам».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША-Паўднёвая Карэя).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**16.30** Здароўе. Ток-шоў.
**17.20** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Серыял «Я цябе нікому не аддам».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Спартовая камедыя «Злосная машына» (Вялікабрытанія-ЗША).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Захоўваемыя лёсам». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Ганна Герман».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.30** «Ніна Вусатава. Мне прапаноўвалі ролю Афеліі».
**00.30** Прэм'ера. «Без сведак».
**01.00** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Далёкія сваякі».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Будзьце здаровыя».
**13.50** Фільм «Усё жыццё наперадзе». Італія, 2008 г.
**16.00** «Ваенная таямніца».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Пяць гісторый».
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Радня». СССР, 1981 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Забойная сіла 6». Серыял.
**00.20** «Механічны апельсін».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Футбол. Прэм'ер-ліга. Агляд тура.
**10.00** Серыял «Пацалунак Сакрата».
**11.30** Авертайм.
**12.00** Школа рамонту.
**13.05** Рэпарцёр «Беларускай часіны.
**14.00** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**15.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.15** Серыял «Гуманоіды ў Каралёве».
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Серыял «Гуманоіды ў Каралёве».
**22.05** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.00** Камедыя «Трыста гадоў пасля» (Расія).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Оперы. Хронікі забойнага аддзела. Почырк забойцы».
**11.00, 14.00, 17.00, 20.00** Весці.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Лектар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.30** «Тэрмінова ў нумар. На службе закона».
**22.15** «Руская спадчынніца».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** Кузькіна маці. «Атамная восень 57-га». Фільм Аляксандра Сладкова.



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.05** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**14.15** «Сярод белая дня» з Віктарам Набутавым.
**15.05** «Справа густу».
**15.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Бывае ж такое!».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.20** Серыял «Глушэц. Вяртанне».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** «Званок лёсу».
**00.25** Дэтэктыўны серыял «Сцервы».



**04.00, 06.00, 08.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Дзень 8.
**09.45** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**10.00** Футбол: Кубак свету да 20 гадоў. Жанчыны. Японія.
**12.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Дзень 8.
**13.30** Футбол: Кубак свету да 20 гадоў. Жанчыны. Японія.
**15.30** Ралі.
**16.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Дзень 8.
**18.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі – Дзень 9.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.35** «Незалежныя», дак. фільм, 2006 г.
**08.25** «Quo Vadis», тэлесерыял: 1 серыя.
**09.15** Басанож па свеце.
**09.40** Еўропа сёння.
**10.10** Размовы эксперта.
**10.25** Гісторыя – на вакацыі: «Свіцязь, горад на дне возера», дак. фільм, 2010 г.
**10.50** МакраФон: «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 1.
**11.25** «Тата», маст. фільм, 1995 г., Польшча.
**13.15** Дак. гадзіна: «Піянеры зменаў. Аргентына», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**14.10** «Дэкалог, адзін», маст. фільм, 1989 г.
**15.05** Басанож па свеце.
**15.30** Еўропа сёння.
**16.00** Размовы эксперта.
**16.15** Гісторыя – на вакацыі: «Свіцязь, горад на дне возера», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**16.45** «Незалежныя», дак. фільм, 2006 г.
**17.35** МакраФон: «Minsk-Mixt–2008»: канцэрт гурта «B:N:».
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 2 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Навігатар.
**19.25** Паляванне на дзівосы.
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах.
**20.40** Прыватная калекцыя.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Беларусы ў Польшчы.
**21.40** Форум (ток-шоу).
**22.25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Жыццё цудоўнае», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**23.30** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.10** «Дэкалог, два», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**01.05** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ 8

## 5 ВЕРАСНЯ, СЕРАДА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**10.05** Сфера інтарэсаў.
**10.35** Каробка перадач.
**11.05** Серыял «Я цябе нікому не аддам».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША- Паўднёвая Карэя).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.35** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**16.35** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**17.00** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Зямельнае пытанне
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.50** Серыял «Я цябе нікому не аддам».
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Меладрама «Мол Флэндэрс» (ЗША).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Захоўваемыя лёсам». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Ганна Герман».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.30** «Дар'я Данцова. Вар'яцкая аптымістка».
**00.30** Прэм'ера. «Без сведак».
**01.00** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Радня». СССР, 1981 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Будзьце здаровыя».
**13.50** «Рускі сродак». Серыял.
**14.40** «Забойная сіла 6». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Гучная справа».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Пад знакам Панны». Украіна
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Дабро пажаліцца».
**23.20** «Забойная сіла 6». Серыял.
**00.20** «Дзіўная справа».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Наперад у мінулае.
**09.40** Цела чалавека.
**10.15** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**11.25** Лірычная меладрама «Цётка Маруся» («Беларусьфільм»).
**12.50** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**13.55** Еш і худзей.
**14.25** Дакументальны фільм «Сонечны Травень».
**15.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.15** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйна-фантастычны серыял «Гуманоіды ў Каралёве» (Расія).
**22.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**23.05** Крымінальны баявік «Стралок» (ЗША).




**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Оперы. Хронікі забойнага аддзела. Почырк забойцы».
**11.00** Весці.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Лектар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Тэрмінова ў нумар. На службе закона».
**22.15** «Руская спадчынніца».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Жыццё ў пазыку. Ламбарды. Вяртанне».



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Развод па-руску».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**14.15** «СяроД белая дня» з Віктарам Набутавым.
**15.05** «Справа густу».
**15.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем».
**18.10** Выратавальнікі.
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.20** Дэтэктыўны серыял «Глушэц. Вяртанне».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** «Званок лёсу».
**00.25** Дэтэктыўны серыял «Сцервы».



**02.00, 04.00, 06.00, 08.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Дзень 9.
**10.00** Прыгоды: марафон Ultra-Trail du Mont-Blanc.
**10.30** Алімпійскі часопіс.
**11.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі - 16-ы этап.
**12.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Дзень 9.
**17.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі – 17-ы этап.
**18.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу. Мужчыны.




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** Форум (ток-шоу).
**08.25** «Quo Vadis», тэлесерыял: 2 серыя.
**09.10** Навігатар.
**09.25** Паляванне на дзівосы.
**09.40** На колах.
**10.10** Прыватная калекцыя.
**10.25** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.35** Беларусы ў Польшчы.
**10.55** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Жыццё цудоўнае», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**11.55** Форум (ток-шоу).
**12.40** «Дэкалог, два», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**13.35** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**13.50** Паляванне на дзівосы.
**14.05** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**14.35** Прыватная калекцыя.
**14.55** Беларусы ў Польшчы.
**15.10** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**15.25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Жыццё цудоўнае», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**16.25** МакраФон: «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 2.
**17.00** «Чэслаў Немэн», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 3 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Чацвёра вушэй у пералеску».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Праект «Будучыня».
**20.35** «Амазонкі глыбокіх крыніц», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Побач з намі.
**21.40** «Кароль-вінароб», серыял: 12 серыя.
**22.30** «Рок назаўжды–2», дак. фільм, Беларусь: ч. 1.
**23.00** Аб'ектыў.
**23.25** «Дэкалог, тры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**00.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 6 ВЕРАСНЯ, ЧАЦВЕР



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.05** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**10.15** Зямельнае пытанне.
**10.45** Мультфільм «У краіне невывучаных урокаў».
**11.00** Серыял «Я цябе нікому не аддам».
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дакументальны серыял «Мудрагелістыя светы» (ЗША- Паўднёвая Карэя).
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Мультфільмы.
**15.35** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**16.35** Медычныя таямніцы.
**17.00** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**17.15** Серыял «Маруся. Вяртанне».
**18.15** Сфера інтарэсаў.
**18.45, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Серыял « Я цябе нікому не аддам» (Расія-Украіна). 4-я серыя, заключная.
**21.00** Панарама.
**21.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**21.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-3».
**23.05** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**00.25** Дзень спорту.
**00.35** Авантурная камедыя «Завадатар» (ЗША).



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Захоўваемыя лёсам». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Серыял.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсер. фільм «Ганна Герман».
**22.15** АНТ прадстаўляе: «Тэма дня».
**22.25** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**23.30** «Юльян Сямёнаў. Ён занадта шмат ведаў».
**00.30** Прэм'ера. «Без сведак».
**01.00** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Дабро пажаліцца».
**08.50** Фільм «Пад знакам Панны». Украіна, 2008 г.
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Будзьце здаровыя»: «Прыгажосць».
**13.50** «Рускі сродак». Серыял.
**14.40** «Забойная сіла 6». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Пяць гісторый».
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Апошні паварот». Канада, 2006 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Аўтапанарама».
**23.20** «Забойная сіла 6». Серыял.
**00.20** «Яшчэ не вечар».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Вышэй за дах.
**09.40** Еш і худзей.
**10.10** Серыял «Пацалунак Сакрата».
**11.25** Лірычная меладрама «Цётка Маруся».
**12.50** Страсці па культуры.
**13.30** Дэтэктыўны серыял «Лігаўка».
**14.40** Еш і худзей.
**15.10** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.15** Серыял «Гуманоіды ў Каралёве».
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**20.00** Хакей. КХЛ. У перапынку.
**21.25** КЕНО.
**22.05** Тэлебарометр.
**22.10** Серыял «Гуманоіды ў Каралёве».
**22.50** Час футболу (прамы эфір).
**23.30** Камедыйная меладрама «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**00.20** Камедыя «СВ. Спальны вагон» (СССР).




**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Оперы. Хронікі забойнага аддзела. Шукай грошы».
**11.00** Весці.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Лектар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Тэрмінова ў нумар. На службе закона».
**22.15** «Руская спадчынніца».
**23.55** Навіны - Беларусь.
**00.05** «Смага».



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.35** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** Серыял «Марскія д'яблы».
**14.20** «СяроД белая дня» з Віктарам Набутавым.
**15.10** «Справа густу».
**15.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «У зоне адмысловай рызыкі».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.20** Серыял «Глушэц. Вяртанне».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** «Званок лёсу».
**00.25** Дэтэктыўны серыял «Сцервы».



**02.00, 04.00, 06.00, 08.00, 10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу. Жанчыны.
**09.30, 16.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі - 17-ы этап.
**13.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу. Мужчыны.
**17.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі - 18-ы этап.
**18.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу. Мужчыны.




**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак.
**07.40** «Чэслаў Немэн», дак. фільм, 2007 г.
**08.35** Побач з намі.
**08.55** «Quo Vadis», тэлесерыял: 3 серыя.
**09.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.05** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.15** Праект «Будучыня».
**10.45** «Амазонкі глыбокіх крыніц», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**11.05** «Кароль-вінароб», серыял.
**11.50** «Рок назаўжды–2», дак. фільм, ч. 1.
**12.25** «Чэслаў Немэн», дак. фільм, 2007 г.
**13.20** Побач з намі.
**13.40** «Дэкалог, тры», маст. фільм, 1990 г.
**14.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**15.00** «Амазонкі глыбокіх крыніц», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**15.20** Праект «Будучыня».
**15.50** «Кароль-вінароб», серыял.
**16.35** «Рок назаўжды–2», дак. фільм, ч. 1.
**17.10** «Від з дзясятага паверху», 2011 г., Польшча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 4 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** «Тэра постсаветыка. Габрэі ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**19.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**19.45** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** Euromaxx.
**20.40** «Віктар Скарабагатаў», рэпартаж.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Рэпартэр.
**21.55** «Жоўты шалік», маст. фільм, 2000 г.
**22.55** «Рок назаўжды–2», дак. фільм, ч. 2.
**23.30** Аб'ектыў.
**23.55** «Дэкалог, чатыры», маст. фільм, 1990 г.
**00.50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

# ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ

Выпуск №8 (72) (жнівень)

www.lit-bel.org www. novychas. org

Культурна-асветніцкі праект Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага часу»


Анонс



**МЕРКАВАННЕ**

# РУСКАМОЎНАЯ БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА?

Вячаслаў РАКІЦКІ



**У апошні час вельмі актыўна, а з майго пункту гледжання, нават агрэсіўна, некаторыя СМІ (першым чынам tut.by намагаецца) пачалі навязваць грамадству меркаванне, што мова не з'яўляецца вызначальнай для развіцця нацыянальнай культуры. Маўляў, беларускую культуру можна ствараць і на расійскай мове. Нават тэрмін з'яўляецца — «рускамоўная беларуская культура».**



Я выдатна разумею, што паняттак «культура» не атаясамляецца толькі з мовай. Складнікаў культуры шмат. Але мова ёсць вызначальным. Мясцовыя ж апалагеты «расейшчыны», на маю думку, дайшлі да абсурду, скарыстаўшыся вельмі складанай сітуацыяй з беларускай мовай у сучасным беларускім грамадстве, якое так і не можа па зразумелых прычынах пазбавіцца каланіяльнай залежнасці ад Расіі.

З гэтай нагоды я не збіраюся тэарэтызаваць дзеля таго, каб пераканаць і тых, хто свядома ці за грошы працуе на расійскую культурную акупацыю Беларусі, і тых, хто ў надзеі на неабсяжны расійскі рынак наіўна спрабуе штосьці стварыць па-расійску, і тых, хто проста ад ляноты ніяк не хоча далучыцца да сапраўднай беларускай культуры, што патрабуе інтэлектуальных і маральных высілкаў.

Я проста прапаную некалькі тэзаў, якія для мяне ёсць ісціна.

За ўсю гісторыю беларускай літаратуры (і беларускага тэатра таксама, маю на ўвазе драматургію, якую я вывучаю) не было створана ніводнага выбітнага твора па-расійску. Магчыма, у якасці выключэння можна назваць мастацкую публіцыстыку Алеся Адамовіча, якая ствараліся ва ўмовах імперска-камуністычнай краіны СССР і мела адчайную мэту дастукацца і да людзей, і да вышэйшай маскоўскай улады, каб абараніць беларускую нацыю і ідэі гуманізму. Што да драматургіі, ніводнай п'есы па-расійску, якая б стала здабыткам нацыянальнай літаратуры і сцэны, НЕ БЫЛО СТВОРАНА НІКОЛІ! Купала, Крапіва, Макаёнак, Дудараў і менш значныя, але цікавыя драматургі, пісалі толькі па-беларуску!

Сучасныя расійскамоўныя мясцовыя (НЕ беларускія) літаратары боўтаюцца паміж дзвюма вельмі рознымі культурамі і знаходзяць аўдыторыю хіба што на сібірскіх абшарах, бо на тыя абшары і арыентуюцца, але чамусьці (па месцы нараджэння і пашпартнай рэгістрацыі?!) завуць сябе беларускімі аўтарамі. І хай яны не злуюцца на беларускіх рэжысёраў, якія не ставяць іх п'есы, напісаныя на слабенькай расійскай (а адкуль беларус можа ведаць глыбінныя плоскасці і нюансы расійскай мовы???) мове на падставе свайго асабістага дробнага жыццёвага досведу і комплексаў, але з прэтэнзіяй на агульначалавечае разуменне. Дзеля чаго пастаноўшчыкам марнаваць час, калі ёсць звычайная сусветная (уключаючы расійскую) драматургія? Гэта факт!

А праўда ў тым, што агульначалавечы змест нараджаецца толькі на нацыянальнай глебе (і мове першым чынам). Англелец Шэкспір, расеец Чэхаў, француз Мальер не дадумаліся б і не змаглі пісаць, маляваць сваю рэчаіснасць на чужых мовах. Таму яны цікавыя ўсяму свету! А нашыя расійскамоўныя "творцы" — на абочыне і сваёй культуры, і расійскай, да якой яны так імкнуцца, і наогул агульначалавечых каштоўнасцяў. Яны, хто вырас у беларускай рэальнасці, хай і ў нібы расійскамоўным асяроддзі, але без глыбіннай моўнай традыцыі, наўрад ці стануць новымі Чэхавымі. Але і Купаламі ўжо не могуць быць.

Так, сапраўды ў Мінску ставяць і нібы публічна (насамрэч для сябе) чытаюць так званых беларускіх драматургаў, якія пішуць па-расійску, але толькі ў адным тэатры краіны — у РТБД. Але як ставяць? Слабенькія п'есы ў слабенькіх перакладах на беларускую мову. Якія творчыя вынікі? Нулявыя! Колькі тыя спектаклі ідуць? Пяць, дзесяць разоў? Ці не адзіны раз, калі я пагадзіўся з міністрам культуры Латушкам: дзяржаўныя грошы на вецер! Ідзя «Вольнай сцэны» для сапраўды беларускай драматургіі пахавана ўжо дзясятак гадоў назад. Між іншым, доўгажыхарамі цяперашняга РТБД застаюцца менавіта п'есы, напісаныя па-беларуску і пастаўленыя яшчэ ў часы Валерыя Мазынскага. Вось адзін з мясцовых «рускамоўных аўтараў» з месяца ў месяц на сваім сайце ганарліва публікуе афішу сваіх спектакляў, пастаўленых дзесьці за Уралам. Як жа далёка ступіла «рускамоўная беларуская культура»!

І апошняе. Пісаць сёння па-расійску ў Беларусі — значыць гуляць на полі акупацыйнай культуры, якая свядома ўкараняецца і якая руйнуе нацыянальную культуру. Найглыбокая акупацыя — культурная акупацыя. Свядома ці не, але многія так званыя стваральнікі «рускамоўнай беларускай культуры» ўдзельнічаюць у далёка не бяскрыўдным для нацыі працэсе.

**rakicki.jimdo.com**

## ПАЛІЦА

### «КНІГАРНЯ ПІСЬМЕННІКА»

**Ірына БАГДАНОВІЧ. Душа лістападу: вершы, пераклады. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 100 с. / Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 28.**




У новай кнізе вершаў Ірыны Багдановіч — паэтычны роздум аўтара аб сутнасці творчасці і чалавечага быцця ў няпростым і зменлівым часе, аб вечных духоўных арыенцірах, якія задаюць высокі нябесны вектар зямному чалавечаму існаванню. А яшчэ — незгасальныя патрыятычныя ідэалы ў паліфаніі сучаснасці і гісторыі. Адмысловы раздзел кнігі — пераклады аўтараў беларуска-польскага культурнага памежжа канца XVIII–XIX стагоддзяў.




**Паліна КАЧАТКОВА. Матылі: навэлы. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 144 с. / Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 29.**

Першая кніга мастацкай прозы Паліны Качатковай, якая вядомая як аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў і даследаванняў творчасці Максіма Багдановіча — своеасаблівы гербарый уражанняў і назіранняў, згадак і экскурсаў.

Навэлы вызначаюцца запамінальнымі сюжэтамі, «спружыністым» стылем і адкрытай аўтарскай пазіцыяй-выяўленнем.

ПАЛІЦА

# ДЗІЦЯЧЫ «ПРАЙДЗІСВЕТ»

**Выйшаў дзясяты нумар часопіса перакладной літаратуры «ПрайдзіСвет», прысвечаны дзіцячай літаратуры. Ён мае назву «Дарослым уваход забаронены».**




У нумары змешчаныя творы 25 аўтараў, а таксама некалькі падборак казак розных народаў свету, у перакладах 21 перакладчыка з 13 моваў, у тым ліку даволі рэдкіх: дацкай (Ханс Крысціян Андэрсэн), нідэрландскай (Тон Тэлеген), хіндзі і японскай (народныя казкі).

На старонках часопіса малады чытач знойдзе сабе творы па гусце і па ўзросце, бацькі ж змогуць пазнаёміцца з карыснымі і не вельмі парадамі па выхаванні дзяцей і стварэнні дзіцячых кніг, якія пісьменнікі розных краінаў даюць у мастацкіх творах, зыходзячы са свайго карыснага і не вельмі досведу.

Асаблівай увагі заслугоўваюць такія культавыя творы дзіцячай літаратуры, як «Прыгоды Тома Соера» (М. Твэн), «Пітэр Пэн» (Дж. М. Бары), «Казка пра трусіка Пітэра» (Б. Потэр), «Чараўнік краіны Оз» (Ф. Баўм), «Max і Шэбестава ў школе» (М. Мацоўрак) і іншыя прадстаўленыя ў нумары.

Таксама ў новым нумары «ПрайдзіСвета» змешчаныя анкеты-інтэрв'ю з сучаснымі замежнымі знакамітымі пісьменнікамі, чые дзіцячыя творы бацькі маюць магчымасць пачытаць дзецям пабеларуску: У. Старк, Ю. Вісландэр і М. Віўэг.

**«ПрайдзіСвет»**

# НАША ЕЎРАПЕЙСКАЯ ГІСТОРЫЯ

**Уладзімір Арлоў і Зміцер Герасімовіч прэзентавалі ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі сваю новую кнігу «Вялікае Княства Літоўскае. Ілюстраваная гісторыя».**

Нягледзячы на айчынныя праявы глабальнага пацяплення, паводле трапнага выразу Уладзіміра Арлова, зала была пад завязку запоўненая людзьмі. «Дзень для нашай прэзентацыі абраны невыпадкова. 495 гадоў таму, 6 жніўня 1517, у Празе Францішак Скарына выдаў першую беларускую друкаваную кнігу «Псалтыр». Я ўпэўнены, што прыйдзе час, калі ў Беларусі гэты дзень будзе святкавацца як Дзень друку. Гэты фаліянт з'яўляецца своеасаблівым працягам знаёмай шмат каму з вас кнігі «Краіна Беларусь», якая пабачыла свет амаль 10 гадоў таму», — пачаў імпрэзу спадар Арлоў.

Паводле аўтараў, задача гэтай кнігі — «сканцэнтравацца на надзвычай важным для нас этапе — на эпосе Вялікага Княства Літоўскага, той магутнай еўрапейскай дзяржавы, у якой кансалідаваўся беларускі народ, у якой нашыя землі адыгрывалі важную дзяржаватворчую ролю, наша культура панавала, а старабеларуская мова была дзяржаўнай».




«Мы не спыніліся на 1795 годзе. Мы выходзілі з таго, што хоць гэтая дзяржава спыніла сваё існаванне, хоць нашыя продкі сілаю расійскіх штыкоў былі вырваныя з еўрапейскай цывілізацыі, ідэя Вялікага Княства працягвала жыць, яна натхняла новыя і новыя пакаленні патрыётаў ВКЛ, і зноў і зноў рабіліся спробы адраджэння дзяржаўнасці, — падкрэсліў адну з галоўных асаблівасцяў кнігі Уладзімір Арлоў. — Напэўна, нямногія з сённяшніх чытачоў ведаюць пра такую дзяржаву, як Сярэдняя Літва, якая хай сабе і не доўгі час, але існавала на пачатку XX стагоддзя. Ці шмат хто ведае пра тое, што ў 1939 годзе Вільня 40 дзён знаходзілася ў складзе Беларусі?»

Аўтары імкнуліся пазбягаць сухога акадэмічнага стылю, кнігу час ад часу аздабляюць гістарычныя анекдоты. Да прыкладу, размова Напалеона і беларускай бабулі пад Віцебскам у 1812 годзе. На пытанне, каму бабуля зычыць перамогі, апошняя дае недвухсэнсоўны адказ: «Мы б хацелі, каб вы гналі расейцаў так далёка, каб не вярнуліся ні яны, ні вы».

Вельмі істотны падзагаловак кнігі — «Ілюстраваная гісторыя». Кніга адбылася дзякуючы мастаку і дызайнеру Зміцеру Герасімовічу, які знайшоў і апрацаваў велізарную колькасць ілюстрацый (у кнізе іх 2000). А мастак Павел Татарнікаў адмыслова для гэтай кнігі зрабіў бліскучыя мастацкія рэканструкцыі старажытных беларускіх гарадоў і замкаў.

Кніга выйшла ў брацілаўскім выдавецтве «Kalligram» і была надрукаваная ў «Neografia», адной з найлепшых друкарняў у Еўропе.

На развітанне спадар Арлоў падзякаваў прысутным: «Мы спадзяемся, што ў гэтай кнізе нам удалося ўваскрасіць вельмі важныя старонкі нашай гісторыі. Дзякуй усім, хто пашырыць кола яе чытачоў. Будзем разам уваскрасаць як еўрапейская нацыя. Наша еўрапейская гісторыя — гэта пропуск у нашу еўрапейскую будучыню».

**Зарына Кандрацьева, budzma.org**

# «МОЙ ЛІСТАПАД...» АЛЕСЯ УСЕНІ

**Успаміны Алеся Усені «Мой лістапад», якія часткамі друкаваліся ў часопісе «Дзеяслоў», нарэшце выйшлі асобнай кнігай у серыі Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» (выдавецтва «Медысонт»).**




«Кніга беспрэцэдэнтная па сваёй шчырасці і справядлівасці, — гаворыцца ў анатацыі. — Сярод пісьменнікаў пануе думка: «Калі напішаш успаміны, дык адразу памрэш...» Аўтар вырашыў правесці эксперымент на сабе».

Ва ўступе да кнігі ўспамінаў аўтар расказвае пра тое, чаму вырашыў яе напісаць, назва ў тэксце красамоўная: «Эксперымент». «Напэўна, мала каго зацікавяць нататкі пра маё жыццё: адно што пражыў усяго пяцьдзясят з невялікім хвосцікам, а другое — не такая ўжо я выбітная асоба, каб выклікаць у кагосьці інтарэс, — спавядальна прызнаецца А. Усеня. — Аднак я ўсё ж зраблю спробу выкласці нешта на паперу... Мае запісы — не зусім успаміны ў традыцыйным сэнсе. Чалавечая памяць непрадказальная. То яна выхапіць яркі фрагмент з дзяцінства, то азорыць зусім нядаўні эпізод жыцця. Так і ў мяне. Падкажа памяць — запішу, а не — дык, мусіць, так і трэба, бо не гэтак важна...».

## ВЕРАСНЁВЫЯ ЮБІЛЯРЫ

**У наступным месяцы адзначаюць юбілеі сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў:**

13.09.1937 — Содаль Уладзімір Ільіч
15.09.1947 — Кудраўцаў Яўген Аляксандравіч (Кастусь Травень)
16.09.1952 — Лапцік Вячаслаў Віктаравіч
20.09.1937 — Каўка Аляксей Канстанцінавіч
25.09.1962 — Бяляцкі Аляксандр Віктаравіч



Жадаем усім радасці, натхнення і дабрабыту!

# КНІГІ ЖАЛЮ І СВЯТЛА

**Паэтка Марыя Баравік прэзентавала ў Падсвільскай бібліятэцы (Глыбоцкі раён) свае новыя кнігі «Камень смутку» і «Прымі, душа, таямніцу».**

Пра «Камень смутку» яна сказала: «Гэтая кніжка — свабода болю, споведзь душы ў жалобе па мужу. Нахлынуў, заліў усё ўнутры смутак па чалавеку, які быў у лёсавай бядзе і не выбраўся з яе. І другая душа (я) аказалася бездапаможнай. Прыйшоў магутны жаль, але праз яго прыйшло і святло.

*І дзякуй — шлях былы*
*не агрубеў.*
*І, мабыць, гэта нам наканаванне:*
*Табе — мяне ж ударыць*
*развітаннем,*
*А мне — малітвай промніць*
*за цябе.*

Некаму ж дадзена прыйсці да прасветласці, веры і малітвы. Для перамянення, для думкі і слова, што «жыццё — дзень сённяшні». Будучыня — мара чалавечая. І чалавеку трэба так мала — любіць і множыць любоў у бліжнім. А найперш у самім сабе: да бліжняга («Чуйце адзін аднаго», «жыццё — час падзення знічкі»), бо жыццё дадзена для росту душы і пазнання Бога. А мы яго часта грэшна трацім».

Кніга «Прымі, душа, таямніцу» на першы погляд камусьці магла падацца рэлігійнай, але гэта не так. У ёй сапраўды ёсць вершы-малітвы, і Бог паўстае як суразмоўца, да якога звернута пытанне і разважанне Марыі Баравік. Але гэта хутчэй пошук адказаў у сабе, «рэнтген» свайго сумлення. «Мая душа адкрытая да веры, да лагічнага, жывога Бога. Няпраўда, што розум не ўдзельнічае тут. Бо разумная душа здагадваецца, выяўляе праз асабістыя лёс. Яна павінна быць уважлівай. Плача заўсёды ў нашай душы Бог любові. Таму прымі, душа, таямніцу!» — так паэтка ахарактарызавала сутнасць гэтай кнігі.

Слухалі Марыю Баравік і выступалі з водгукам на кнігі і яе творчасць чытачы бібліятэкі, сябры суполкі ТБМ і пісьменніца Вольга Ігатава.

Марыя Баравік вельмі ўдзячная выдаўцам — Яраславу Берніковічу, Зміцеру Лупачу, Таццяне Смоткінай, рэдакцыі рэкламнай газеты «Прэфект-інфо». У Год Кнігі ў Глыбокім яны адзіныя выпусцілі ў свет прэзентаваныя кнігі.

**Марыя Новікава**



ПОСТАЦЬ

# ЯНКА КУПАЛА І ГРОДЗЕНШЧЫНА

Сяргей ЧЫГРЫН

**Жыццё і дзейнасць вялікага нацыянальнага паэта Беларусі Янкі Купалы было звязана і з Гродзеншчынай. Упершыню сюды ён завітаў напачатку кастрычніка 1909 года. А да гэтага часу жыў у Вільні, працаваў у рэдакцыі газеты «Наша Ніва». Янка Купала ўладкаваўся таксама ў бібліятэку-чытальню «Веды». Гаспадаром бібліятэкі быў грамадскі і культурны дзеяч, актыўны ўдзельнік беларускага руху ў Вільні Барыс Даніловіч. Менавіта Барыс Даніловіч прапануе Янку Купалу паехаць у яго маёнтак Бенін Наваградскага павета і стаць упраўляючым. Купала ахвотна пагаджаецца. У кастрычніку 1909 года пясняр ужо ў Беніне. Там ён піша вершы «Памаліся», «З кірмашу», «Прад світаннем». 23 кастрычніка паэт стварае верш «Ноч за ночкай», дасылае некалькі допісаў у «Нашу Ніву» пад рознымі псеўданімамі. І ўсё гэта было створана за нейкіх дзевяць дзён у Беніне.**




Жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч (за сталом другая справа) на 30-годдзі Вялікакракоцкай бібліятэкі імя Янкі Купалы Слонімскага раёна, 1957 г.

У лістападзе прафесар Эпімах-Шыпіла прапанаваў Янку Купалу пераехаць у Пецярбург і паступіць вучыцца на агульнаадукацыйныя курсы Чарняева. Усе выдаткі на вучобу, утрыманне і кватэру прафесар узяў на сябе. І Купала паехаў…

Другі раз Янка Купала разам з Міхасём Лыньковым пабываў у Наваградку 29 кастрычніка 1940 года. Яны прысутнічалі на пасяджэнні камісіі, якая рыхтавала юбілейны вечар па ўшанаванні памяці Адама Міцкевіча. 4 лістапада пісьменнікі наведалі Дом-музей Адама Міцкевіча…

У 1927 годзе пры гуртку Таварыства беларускай школы моладзь вёскі Вялікая Кракотка Слонімскага павета заснавала бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. *Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой было нададзена імя песняра.* Сваю працу кракоцкая моладзь пачала з таго, што сабрала кнігі і грошы на набыццё літаратуры і інвентару. Знайшлося для культурнай установы і памяшканне — хата Данілы Грасевіча, які не вярнуўся з бежанства. На заклік вялікакракоцкіх сялян адгукнуліся і жыхары суседніх вёсак Рудаўка і Малая Кракотка.

Праіснаваўшы некалькі гадоў, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы была зачынена паліцыяй, а кнігі канфіскаваны. Праўда, тыя выданні, якія знаходзіліся ў чытачоў і ў перасоўках у вёсках Рудаўка, Малая Кракотка, яшчэ доўга хадзілі па руках і чыталіся вяскоўцамі.

Затым пачаліся рэпрэсіі супраць актывістаў, многіх без суда і следства кінулі ў канцлагер Картуз-Бяроза. У верасні 1939 года слаўную купалаўскую бібліятэку ў вёсцы Вялікая Кракотка зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена — ужо Другой сусветнай вайной.

Дата новага нараджэння Вялікакракоцкай бібліятэкі — жнівень 1946 года. Аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты «Вольная праца» паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна вырашана прызначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. Трыццаць гадоў адпрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы…

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957-м прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі. Сустрэчы з гэтай жанчынай Аляксандр Жыткевіч (у 1999 годзе яго не стала) заўсёды ўспамінаў з вялікім хваляваннем, радасцю і цеплынёй.

Дзякуючы цётцы Уладзі, для бібліятэкі прыслалі свае кнігі з аўтографамі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак і многія іншыя вядомыя пісьменнікі.

У 2005 годзе бібліятэка ў Вялікай Кракотцы набыла новы статус і стала Бібліятэкай-музеем імя Янкі Купалы. А ў 2007 годзе яна адзначыла сваё 80-годдзе. Але гэта быў апошні юбілей бібліятэкі ў Кракотцы. У 2008-м яе закрылі, а каштоўныя кнігі і фотадымкі перадалі ў іншыя бібліятэкі Слонімшчыны, а таксама ў Сяліцкую сельскую бібліятэку — суседнюю з Вялікай Кракоткай. Усе акупацыі і войны перажыла слаўная Купалаўская бібліятэка, а вось сённяшні час перажыць не змагла…

У самім Слоніме Янка Купала пабываў толькі адзін раз. Пасля Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку ён 15 лістапада 1939 года вяртаўся ў Мінск. Па дарозе вырашыў заехаць у Слонім, дзе ў гэты час жыў беларускі паэт Гальяш Леўчык, каб сустрэцца з ім. «Шаўрале», на якім ехаў пясняр, спынілася на вуліцы 3 Мая (цяпер гэта вуліца Чырвонаармейская. — С.Ч.) каля невялікай хаткі № 73 (зараз яе ўжо няма, тут знаходзіцца Слонімскі аўтарамонтны завод. — С.Ч.). Убачыўшы Купалу, Гальяш моцна ўзрадаваўся. Яны абняліся, і гаспадар хаткі запрасіў госця ў свой пакой. Пасля гутаркі яны паехалі ў першы беларускі рэстаран, які знаходзіўся ў цэнтры Слоніма. Паабедаўшы за кошт Купалы (ён частаваў), Гальяш Леўчык паказаў, як праехаць на Мінск па Маставой вуліцы (цяпер гэта вуліца ў Слоніме носіць імя Янкі Купалы. — С.Ч.), і яны развіталіся. Больш сустрэцца ў жыцці Янку Купалу і Гальяшу Леўчыку не давялося.

Другі раз Янка Купала наведаў Беласток у кастрычніку 1940 года. А ў верасні гэтага года газета «Літаратура і мастацтва» паведамляла, што члены праўлення ССП БССР і група пісьменнікаў — Я. Купала, Я.Колас, М.Лынькоў, П.Броўка, К.Крапіва, П.Глебка, З.Аксельрод, М.Танк, П.Пястрак, Г.Камянецкі, М.Модэль, А.Кучар — на днях выязджаюць у Беласток, дзе будзе працягнута работа праўлення ССП БССР па прыёму лепшых пісьменнікаў заходніх абласцей, якія творча выявілі сябе, у Саюз савецкіх пісьменнікаў БССР. Некаторыя пісьменнікі ў Беласток выехалі на цягніку, а Купала з Коласам паехалі на машыне Коласа. Разам яны прынялі ўдзел і ў пасяджэнні выязной сесіі Акадэміі навук БССР у Беластоку, дзе абмяркоўваліся пытанні і праблемы развіцця культуры і эканомікі заходніх абласцей Беларусі. Пасля сесіі беларускія песняры сустрэліся са студэнтамі і выкладчыкамі Беластоцкага педінстытута. У сваім хатнім архіве знайшоў згадку ўспамінаў пра сустрэчу Коласа і Купалы ў Беластоцкім педінстытуце, якую некалі мне даслаў краязнавец і музейшчык з Дзятлава Міхась Петрыкевіч (1913–1999), тады студэнт гэтага інстытута.

Яскравым доказам таго, што Янку Купалу на Гродзеншчыне любілі і лічылі духоўным правадыром, стала тое, што пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР у 1940 годзе жыхары Лідчыны (рабочыя і службоўцы Лідскага чыгуначнага вузла на сваім перадвыбарным сходзе) аднагалосна прапанавалі вылучыць кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР народнага паэта. Гэту прапанову з запалам падтрымалі ўсе працоўныя Ліды і Лідскага раёна. І дружна выразілі: «Вылучыць таварыша Луцэвіча Івана Дамінікавіча (Янку Купалу) кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР і прасіць яго даць згоду балатавацца па Лідскай-Слабадской выбарчай акрузе № 306 Беларускай ССР». 13 сакавіка 1940 года Янка Купала прыехаў у Ліду на сустрэчу з выбаршчыкамі. Разам з ім прыехалі з Менска пісьменнікі Пятро Глебка, Алесь Кучар, Зэлік Аксельрод. Спыніліся госці ў гасцініцы па вуліцы Сувальскай (цяпер вул. Савецкая), у былой гасцініцы «Брыстоль». Да прыезджых далучыліся гарадзенскія паэты Валянцін Таўлай, Ніна Тарас, Анатоль Іверс, Пятрусь Граніт. У час прыезду любімага паэта была адліга, макрата такая, што ў туфлях цяжка было прайсці па тратуарах, каб не замачыць ногі. І тады паэт Валянцін Таўлай, які быў супрацоўнікам лідскай газеты «Уперад», збегаў на гумавую фабрыку «Ардаль» і прынёс дарагому госцю падарунак рабочых: пару новенькіх галёшаў. Гэты факт добра памятаецца ў Лідзе і выклікае сціплае пачуццё гонару ў лідчан (пра гэты выпадак хораша напісаў у сваім вершы «Галёшы для Купалы» беларускі паэт Станіслаў Суднік).

Краязнавец з Валеўкі Наваградскага раёна Уладзімір Урбановіч (1921–1999) даслаў неяк мне ўспамін пра сустрэчу з Янкам Купалам тады ў Лідзе. Уладзімір Аляксандравіч у пісьме прыгадваў: «Я ў той час вучыўся ў Лідскай сярэдняй школе № 3, што за чыгункай была, якую лідчане тады называлі чыгуначнай. А паколькі Янка Купала балатаваўся па Лідскай чыгуначнай выбарчай акрузе, то і сустрэча адбывалася ў клубе чыгуначнікаў. Таму нашай школе было даручана пасля сустрэчы наладзіць канцэрт... У Ліду Янка Купала прыехаў 13 сакавіка 1940 года. Сустрэча адбылася назаўтра, 14 сакавіка. Як сёння памятаю — гэта быў чацвер. Цэлы дзень у школе тыя, хто ўдзельнічаў у канцэрце, рэпеціравалі, рыхтаваліся. Гучалі беларускія, польскія і рускія песні і вершы, былыя гімназісткі ладзілі танцы, фізкультурнікі — свае нумары... Мне запомніўся доўгі стол, засланы чырвоным палатном. За ім сядзелі людзі ў гімнасцёрках і ў чыгуначнай форме. Сярод іх у цэнтры ў цёмным касцюме, белай сарочцы і гальштуку сядзеў Янка Купала, такі ж самы, як на партрэтах у школьных падручніках: гладка прычасаныя валасы, добры, лагодны пагляд і нешта такое, што рабіла яго блізкім, родным і дарагім для лідчан. Нешта казалі людзі ў гімнасцёрках, чыгуначнай форме, нешта прамаўляў і Янка Купала, а пасля ён чытаў свае вершы. Упершыню я пачуў «Накарміліся панскаю ласкай», «З новай думкай» і яшчэ нешта. Зала апладзіравала, паэт кланяўся, пасля пайшоў на сваё месца, узмахнуў рукой, мабыць, каб спыніць воплескі, яшчэ раз пакланіўся і сеў за стол. Пасля выступіла Ніна Тарас, яна чытала свае вершы. Запомнілася яшчэ выступленне Валянціна Таўлая. Ён і Ніна Тарас працавалі тады ў лідскай газеце «Уперад»... Яшчэ не заціхлі воплескі пасля выступлення Таўлая, як на сцэну паднялася малая дзяўчынка і стала побач з паэтам. Яна была такая маленькая, што галоўка яе дасягала краю стала. Дзяўчынка пачала нешта гаварыць. Раптам Янка Купала падняўся са свайго месца, выйшаў з-за стала, узяў дзяўчынку пад пахі і паставіў на стол. Дзіця неяк разгубілася. Валянцін Таўлай нешта сказаў ёй (гэта была яго родная сястрычка), жэстам рукі падбадзёрыў. І яна пачала чытаць нейкія вершы. А калі скончыла, павярнулася тварам да прэзідыума і пакланілася. Янка Купала абняў яе і пацалаваў. Дзяўчынка саскочыла са стала і пабегла ў залу, якая грымела воплескамі…».

15 сакавіка Янка Купала з Ліды прыехаў у Менск. А 24 сакавіка 1940 года адбыліся выбары, наш пясняр стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Праз тры дні ў маскоўскай газеце «Ивестия» з'явіўся яго артыкул «Моим избирателям», у якім паэт пісаў: «Какая это великая радость для меня, писателя, который 35 лет писал песни о родном белорусском народе! Я глубоко благодарен моим избирателям — трудящимся Лидского района, оказавшим мне высокую честь избранием в депутаты Верховного Совета БССР. До конца моих дней я буду верно служить народу…».

АБРАЗКІ

# ПОШУКІ ІСЦІНЫ

Лідзія АРАБЕЙ

## Новае вока

Мая знаёмая зрабіла аперацыю на воку — памяняла крышталік, які затуманіла катаракта.

Прыйшла дадому і ўсцешылася:

— Божа мой, як па-новаму свет убачыла, усё так ясна відаць!

Потым глянула на сябе ў люстэрка і засумавала:

— Я ж не думала, што я такая старая, такая маршчыністая...

## Слабы пол

Цяпер слабым полам лічацца ў нас мужчыны, і ў аўтобусах, у тралейбусах жанчыны павінны саступаць ім месцы.

## Кіно

Яшчэ на памяці ў нас фільмы пра вайну, дзе нашы калашмацілі немцаў — стралялі, забівалі, і мы іх не шкадавалі, забіць немца было не грахом, а гераізмам, бо яны агрэсары, захопнікі, акупанты.

Цяпер з немцамі сябруем, а ў фільмах паказваюць, як душаць, рэжуць, забіваюць свае сваіх.

## Ганарар

Стаялі ў доўгай чарзе да касы ў выдавецтве па ганарар, які плацілі раз у месяц. І раптам Аркадзь Куляшоў, не без гумару, прадэкламаваў:

«Приятно и радостно знать, что чернила, обильно пролитые на бумагу, не пропали даром и дали свои результаты».

Ён перафразіраваў Сталіна, які некалі сказаў:

«Приятно и радостно знать, что кровь, обильно пролитая народом, не пропала даром и дала свои результаты».

## Дзверы

Перад тым, як легчы спаць, я правяраю — ці замкнёныя ў мяне дзверы. Мала што... І часам успамінаю, як зімою 1942 года ішла я цёмным лесам з Узды ў Нізок. Выйшла з Узды — было яшчэ светлавата, а як увайшла ў лес — зусім сцямнела. Ішла і не ведала — ці туды ж я іду. Але вось выплылі з цемры стрэхі нізаўскіх хат, дзе-нідзе свяціліся вокны.

Датупала да хаты, у якой нарадзілася, узялася за язычок клямкі. Дзверы ў сенцы былі адчыненыя. І далей, у хату, не замкнёныя. І гэта познім вечарам, у час вайны.

Як потым я ўбачыла, дзверы ў хату ніколі не замыкаліся, ні ў дзень, ні ўначы. Гэта цяпер на іх вісіць вялікі замок, бо цяпер тут ніхто не жыве.

## Шнурочак

Па жыцці мы ідзем, як па шнурочку, нацягнутым на двух высокіх слупках — і раптам ці сам аступішся, ці нехта тузане за той шнурочак, і ты бразнешся вобзем і моцна пабʼешся. І ад таго падзення не ўсцеражэшся, бо яно непрадбачанае, прыходзіць знянацку і з таго боку, адкуль ніяк не чакаў.

Мне, напрыклад, найбольшыя подласці рабілі людзі, якім я рабіла дабро.

## Расчараванне

Некалі мы верылі і дактарам, і праваднікам. З цягам часу аказалася, што нельга верыць ні дактарам, ні праваднікам.

## Прарочылі

З'явілася фатаграфія — і пачалі прарочыць, што зьнікне жывапіс, бо навошта маляваць карціны, калі пстрыкні апаратам — і вось табе пейзаж, нацюрморт, партрэт...

Але жывапіс не знік.

З'явілася тэлебачанне. Пачалі прарочыць: зачыняцца кінатэатры ды ўсялякія оперы, бо навошта туды хадзіць, калі ўсё можна паглядзець дома, седзячы на канапе.

Але і тэатры выжылі.

Цяпер з'явіўся інтэрнэт, і зноў прарочаць: знікне кніга, бо ўсё можна прачытаць у тым інтэрнэце.

Але не знікне кніга, бо калі яна, не дай Бог, знікне, надыдзе канец цывілізацыі.

## Дуэлі

У далёкім мінулым свой гонар мужчыны адстойвалі на дуэлях, падстаўлялі свае грудзі пад кулі, каб у паядынку сустрэцца са сваім крыўдзіцелем.

Цяпер дуэлі забароненыя, і іх месца занялі нагаворы, кляўзы. І выкарыстоўваюцца цяпер не кулі, а брыдкае слова, ды яшчэ сказанае праз прэсу. А слова часта раніць мацней за кулю.

## Зарок

У першы год сумеснага маладога жыцця муж часам узвышаў на жонку голас. І яна крыўдзілася, плакала. Тады ён не ведаў, як яе супакоіць, прасіў прабачэння і нарэшце на сцяне іх маленькага пакойчыка, на шпалерах, пісаў зарок: «Бажуся, што больш ніколі не буду ўзвышаць на цябе голас».

Калі часам забываўся на свой зарок ды зноў пачынаў сварыцца, маладая жонка падводзіла яго да сцяны і паказвала: «Паглядзі, што ты тут напісаў...».

Прысаромлены муж заціхаў.

Але тымі зарокамі былі спісаны ўсе шпалеры на сценах.

## Класікі не выпендрываюцца

Каб паказаць свой незвычайны талент, сваё ўменне пісаць вобразна, некаторыя аўтары пішуць так мудрагеліста, так напышліва, што кожны сказ у іх падобны на шараду, трэба добра пакруціць галавою, каб зразумець, што хоча сказаць той пісака. Такія творы чытаць цяжка і нецікава, бо аўтар выпендрываецца.

Пасля яго чытаць класіка — нібы дыхаць свежым паветрам, усё тут так зразумела і проста, і ў гэтай прастаце яго геніяльнасць.

Класікі не выпендрываюцца.

## Без віны вінаватыя

Жыццё ў час вайны на акупаванай немцамі тэрыторыі лічылася раней цёмнаю пляміаю ў біяграфіі чалавека. А за што?

Начальства, якое мела машыны, уцякала ад немцаў, пакідаючы свой народ, пакідаючы часам жонак і дзяцей. А потым, калі вызвалілі Беларусь, вярнулася і ўвесь народ узяло пад падазрэнне.

І да сённяшняга дня на тых, хто жылі ў акупацыі, узводзяць паклёпы. І няма ў каго і дзе шукаць праўды.

## SOS!

Ратуйце нас ад тэлебачання! Яно ўрываецца ў нашы кватэры як злы дух, як разбойнік, яно калечыць маладыя душы! Яно ўрываецца ў нашы кватэры з нажамі, з пісталетамі, са звярыным аскалам на твары і вабіць у гэты дзікі свет маладых і дурных, якія ў зверстве бачаць рамантыку. І гэта робіцца знарок, каб выхоўваць з моладзі зомбі.

## Вораг наш

Час — наш вораг. Мы сядзім ці стаім, спім ці гуляем, а ён ідзе. Ідзе і робіць сваю работу. «И каждый миг уносит частицу бытия», — як сказаў паэт. Не паспелі азірнуцца — і ўжо час пакідаць гэты свет. І адзін лёс чакае караля і чарвяка, цара і халопа, усе ператвараюцца ў пыл і круцяцца з планетаю Зямля ў космасе.

## Мая тэорыя

Яшчэ з самага зачацця ў лоне мацеры фармуецца асоба чалавека, ужо там вырашаецца, якога колеру будуць вочы, якога колеру валасы, якога будзе росту, якімі хваробамі хварэць і колькі гадоў пражыве. Усё гэта вынікае са спадчыны, але не толькі маці і бацькі, а бабак і прабабак, дзядоў і прадзедаў, і яшчэ далейшых прашчураў. Мацярынскае лона, як той кампутар, складае, адымае, множыць, дзеліць той спадчынны матэрыял, вылічвае, што ўключыць у асобу, якая яшчэ не нарадзілася.

А калі той кампутар памыліцца, не так падзеліць ці памножыць, то нараджаецца дзіця-калека.

А мы кажам — лёс...

## Тэатр

Чалавек прыходзіць у жыццё, як у тэатр, нагледзіцца розных спектакляў чалавечых камедый, сам пабудзе артыстам — і вяртаецца туды, адкуль прыйшоў. Здаволіўся. Больш у гэты бяздарны тэатр не прыйдзе.

## Праз нейкі час

Спачатку чалавека арыштоўваюць, шальмуюць у друку, а праз нейкі час называюць яго імем вуліцы і плошчы горада.

## Абследаванне

Мая сяброўка праходзіла ў бальніцы абследаванне. Ну, розныя там аналізы, прасвечванні ды праслухванні. Пасля таго абследавання доктар сказаў, што арганізм у яе не такі ўжо, як у васямнаццацігадовай. І пячонка пастарэла, і ныркі не так працуюць, а пра сэрца і казаць няма чаго. Назначыў, якія таблеткі глытаць, якую ежу ўжываць, і пад канец параіў:

— І не запашвайце грошай.

Здаецца мне, што гэта парада найлепшая. Бо вечна мы тыя грошы ашчаджаем, эканомім, а прыходзіць час, калі гэтага рабіць не варта.

## Пыл

І трыста, і пяцьсот гадоў таму назад жылі людзі, а сёння ад іх застаўся адзін пыл, ды і той, мусібыць, развеяў вецер. А некалі ж тыя людзі хваляваліся, перажывалі, нечага дабіваліся.

І сёння, калі на мяне навальваецца нейкая згрызота, непрыемнасць, я кажу сама сабе:

— Сціхні, супакойся, не хвалюйся, пройдзе якіх пяцьсот гадоў — а час хутка ляціць, і ад цябе, ад тваіх праблем і пылу не застанецца.

## Ахвяры

Некаторыя жанчыны ахвяруюць сям'ёю, дзецьмі дзеля кар'еры альбо дзеля мастацтва.

Іншыя ахвяруюць кар'ераю, мастацтвам дзеля сям'і.

А ў выніку ахвярамі робяцца самі, дажываючы жыццё ў адзіноце.

## Вырасці чалавекам

Прайшла інфармацыя: мужчына загінуў, ратуючы двухгадовага хлопчыка. Ён выкінуў дзіця праз акно з ахопленага полымем дома, а сам не паспеў уратавацца.

Якім чалавекам павінен вырасці той хлопчык, каб аддзячыць мужчыне, які аддаў за яго сваё жыццё?

## Чорны дзень

Яму было ўжо за трыццаць. Працаваў на будоўлі, жыў у інтэрнаце, які давала яму будоўля. Быў ён хлопец практычны і з кожнай палучкі адкладваў крыху грошай — на чорны дзень. І вось чорны дзень надышоў — трэба было жаніцца, бо дзяўчына, з якою гуляў, — зацяжарыла. І ўсе грошы, якія збіраў, — разышліся: на вяселле, на арэнду кватэры і яшчэ на нешта, сам не ведае, на што.

А чорныя ж дні наперадзе.

## Лясы

Скончылася вайна, краіна ляжала ў руінах, і трэба было адбудоўвацца. І пайшлі людзі ў лясы, і пачалі валіць дрэвы — на хаты, на жытло. І Якуб Колас напісаў верш — «Няхай адпачынуць лясы». Ён заклікаў будаваць дамы не з дрэва, а з цэглы, бо бачыў пагрозу прыродзе, якая навісла над краем.

Сёння зноў заклікаюць берагчы лясы, але ўжо для таго, каб не рабіць з дрэва паперы і не выдаваць кніг і газет, каб інфармацыяй ды літаратураю карысталіся з электронных сродкаў.

І сёння ратуюць прыроду, але ці ўратуюць чалавечыя душы?

## Успамін

Вестка пра смерць Івана Мележа напаткала мяне ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Сядзелі нейкаю групкаю, пра нешта гаварылі. Раптам прыйшоў нейкі чалавек і сказаў:

— Памёр Мележ.

Гэта вестка мяне апякла, бо я высока ставіла творчасць Мележа і паважала яго як чалавека. І я сказала з горыччу:

— Чаму гэта харошыя людзі паміраюць, а нягоднікі жывуць?

— І нягоднікі паміраюць, — сказала Вера Палтаран.

— Яно то так, — уздыхнула я.

## Даруй

Бацькі, убачыўшы, як не шануе іхняму сыну ў жыцці і які ён няшчасны, сказалі яму з горыччу:

— Даруй нам, што мы цябе нарадзілі...

## Можа...

Ішоў мужык па вуліцы — у ватоўцы і ватовых штанах, у ботах і шапцы-аблавушцы, і відаць было, што яму ў гэтай апратцы цёпла і ўтульна.

І я падумала: можа, гэты мужык жыве ў двухпакаёвай хрушчоўцы з жонкаю і двума дзецьмі, і ёсць у той хрушчоўцы ўсё, што трэба для побыту — і халадзільнік, і тэлевізар, і нават пральная машына, і, мусібыць, гэты мужык думае, што жывецца яму няблага: ёсць страха над галавою, зарплата, сям'я, і можа ён шчаслівейшы за таго багацея, што мае некалькі кватэр, некалькі машын і фарсіць у модных строях.

## З кірмашу

Ёсць такая показка: першую палову жыцця чалавек едзе на кірмаш, а другую палову жыцця — з кірмашу. А можна сказаць іначай: першую палову жыцця чалавек едзе на гару, а другую палову жыцця — з гары. А едучы з гары, конь, вядома, бяжыць шпарчэй, таму другая палова жыцця здаецца чалавеку карацейшай, а значыць, і жыццё — надта кароткім, хоць да ста гадоў дажыві.

## Апосталы

Па Бібліі, у Хрыста было дванаццаць апосталаў. І адзін з іх, Іуда, аказаўся здраднікам і хрыстапрадаўцам.

Па той жа Бібліі, сярод людзей на кожныя дванаццаць чалавек — адзін Іуда, нягоднік і здраднік.

А мне здаецца, што часцей, чым на дванаццаць.

* * *

Гісторыя — гэта навука пра тое, як людзі забівалі людзей.

## Філасофія

Пры савецкай уладзе нам унушалі, што багатым быць сорамна, багатымі могуць быць толькі буржуі і жулікі, трэба задавольвацца самым неабходным для жыцця.

І вось — адпусцілі лейцы. І шмат хто адчуў смак у багацці. І з'явілася новая філасофія: «Калі ты багаты, значыцца, ты разумны. Калі ты бедны, значыцца, ты дурны».

## Супакоілі

Ёсць у мяне сябры — харошыя хлопцы. Зайшлі яны мяне адведаць. Пасядзелі за сталом, кожны расказаў пра свае праблемы. Сказала пра сваю праблему і я:

— Не ведаю, хлопчыкі, хто мяне пахавае...

І тут сябры загаварылі:

— Не хвалюйцеся, мы вас пахаваем, добра пахаваем, як трэба, па-людску!

Яны так шчыра пераконвалі мяне, што пахаваюць па-людску, што я пераканалася: хвалявацца мне не трэба.



ВЕРШЫ

# АПОШНІЯ СТАРОНКІ

**Алег ЛОЙКА**



## Дзе ты, леў сапяжанскі?..

*Дзе ты, леў сапяжанскі?*
*Дзе вы, ільвы Скарыны,*
*Наднёманскі, надбужанскі,*
*З-панад Дняпра і Піны?*

*А вы, ільвы-ліцьвіны —*
*Чараўнікі-эскулапы:*
*Розум мудры, ільвіны,*
*Недаравальныя лапы?..*

*І вы, ільвы-беларусы,*
*Маўклівыя таleранты, —*
*Хопіць здрады, падкусаў,*
*Інтэграцыйных трантаў!..*

*Часе, хлынны, імклівы,*
*Стань нашым Запарожжам,*
*Непакорнаю грывай*
*Змяці, што змесці зможаш!..*

*Па-свойму нашы каліны*
*Няхай зноў квітнеюць гожа!..*
*Блізіцца час ільвіны,*
*Не блізіцца ён не можа!..*

*Крамлёўскія калідоры,*
*О, як жа нам даспеху,*
*Каб з вамі на перагаворы*
*Новы прайшоў Леў Сапега!..*

## Роднай мове

*Шаную цябе, родная, шаную,*
*Заходзячы ў цябе, нібыта ў храм,*
*Дзе музыка святла твайго пануе*
*Зарой, нязгаснай сэрцу і вачам.*

*Дзе вусны зноў табою ажыўляю,*
*Маё ты шчасце, дзіва і бальзам,*
*І вечнасцю тваёю прамаўляю,*
*Нявечны сам.*

*І што цябе, зямной, калісь не стане,*
*Не веру аніякім звездарам,*
*Бо я сваё зямное ўшанаванне*
*Не знічкам, — зоркам вечным перадам.*

## Літве

*Не скуголь на бяду, сава,*
*Не мані ні арлам, ні совам:*
*Беларусь з табой, Літва,*
*Аб'ядноўвалі словам крэсовым.*

*Крэс каму, а каму — калыбель,*
*Найзялёнейшыя сенажаці,*
*Ніў, садоў залатая спель,*
*Па-над імі — песня маці.*

*Не, таго не зацемніць трава*
*Па-над Нёмнам, Дняпром, Бугам,*
*Дзітвай:*
*І мая ты малітва, Літва,*
*І ў Літве я, нібы ў малітве.*

*Блаславёным плыві, прыпамін,*
*Блаславёнаю стань, споведзь:*
*Беларус — учарашні ліцьвін,*
*Летувіс — учарашні літовец;*

*Аб'яднаны не Крэсамі мы,*
*Не ліштвой, не агнём, не дымам,*
*Не Крамлём, не пургой Калымы,*
*А малітвай да вечнай Радзімы!..*

## Набалелае, ці ж уміручае?!

*Набалелае, ці ж уміручае,*
*Вялікамучанікаў як шанаваць?..*
*Памяць пра іх, пакутлівых, мучае,*
*Кветкай, вянкамі не суняць.*

*Дык хто ж вялікі, мучанікі, дучы,*
*Правадыры ці засценкаў кат,*



*«Хайль!..» у Асвенцымы вядучы*
*Ці ў Магаданы вядучы мат?!*

*Божа, хто ж можа тут быць натхнёны,*
*Крыўду людскую чым прымнеш?!*
*Правадыроў схіляем імёны,*
*Вялікамучанікаў — менш і менш.*

*Круціцца кола каламуты,*
*Утрапенне, боль, адчай...*
*За вялікамучанікаў усяленскі смутак –*
*З кожнай хвіляю крапчай!..*

## Сябрам

*Адкуль вы, непагадзь, беды,*
*Завыванні вятроў?..*
*Я не магу без бяседы,*
*Я не магу без сяброў!..*

*Мне вятрыска — не сябар,*
*Не сяброўка слата,*
*Піліпаўкі чорны табар,*
*Цемрадзі глухата, —*

*Не ім жа мая сасонка*
*Цягне галінкі страсе,*
*Чакаючы гамонкі*
*Аб праўдзе, любові, красе,*

*І, быццам рукою, здыме*
*Непагадзяў кілім,*
*Прагная долі Радзіме,*
*Свету ўсяму і ўсім...*

*Дык дзе ж вы, сябры-непаседы*
*З блізкіх і дальніх бароў?..*
*Цяжка мне без бяседаў,*
*Пакутліва без сяброў!...*

## Даражэюць тэлефоны...

*Свет няўмольна прэ ў адхоны —*
*Ніvы, сенажаць, лясы, —*
*Даражэюць тэлефоны,*
*Даражэюць галасы,*

*Ды не выбарчыя, — маці,*
*Што не толькі сцеле лён,*
*А ў аграрнадумнай хаце*
*Абнавіла тэлефон.*

*Са сталічнаю дачкою*
*Гаварыць ёй, гаварыць,*
*Толькі ж... на табе такое —*
*Белым полымем гарыць:*

*Здаражэў званок дашчэнту...*
*І каго, за што вініць?..*
*Дарагому прэзідэнту*
*Трэба, трэба пазваніць!..*

***

*Стрэліла б напрамую*
*Ў дуб, ваду, зямлю, —*
*Цябе, маланка, прыму я,*
*Благаслаўлю.*

*І задаволены буду*
*(Запэўніваю, не хлушу!),*
*Калі зігзанеш ты і ў буду,*
*Я ў якой не служу.*

*Адвагі ж стаць на вагі*
*Важкіх падзеяў, трывог,*
*Надзеючыся на зігзагі,*
*Якіх не прадбачыць Сам Бог!..*

***

*Веру, што ў раўнавазе*
*Радасць і слёзы на свеце:*
*Кветкі сягоння ў вазе,*
*Заўтра — ваза ў смецці.*

*Лучынай стала кап'ё,*
*Неонам — змрок пячорны, —*
*Большае куп'ё,*
*Большае цень чорны.*

*Ды чым яно большаць будзе,*
*Тым болей — сонцаў прамень*
*Лаўжам, сасонкам, людзям*
*Зроўнаважыць цень.*

*Саркафагаў шмат ляжа*
*Чарнобылі падмяць,*
*Толькі на сонечным пляжы*
*Алешыны зашумяць.*

## У працяг Міхася Лынькова

*Чало ўзарана,*
*Думак барозны, —*
*Эх, рана, рана,*
*Эх, позна, позна!..*

*Дранічак драны,*
*Сцежкі бег росны...*
*Эх, рана, рана,*
*Эх, позна, позна!*

*Парам дабраным*
*Рознае розным*
*І рана, рана,*
*І позна, позна...*

*Жыццё, як мембрана,*
*Таемныя кросны, —*
*Эх, рана, рана,*
*Эх, позна, позна!*

## Шарае прагну гадзіны...

*Прагну не жартаў і глуму,*
*Можа, такі ўжо адзіны,*
*Брату, і свату, і куму*
*Шарае прагну гадзіны:*

*Цішыні куставое*
*Дзедавай мілай хаты,*
*Вечару, што ў сувоі*
*Песняў і казак багаты.*

*Чым распачаць вячэру,*
*У дзеда я не пытаю,*
*Думцы яго веру,*
*Кленічаў не вітаю,*

*Аднак жа гатовы і хорам,*
*І шарай гадзіны вечам*
*Рэкламаў ілжу і сорам*
*Усіх вакзалаў развенчваць!..*

## Адступіцеся, цары і каралі!..

***«Толькі закаханы мае***
***права называцца чалавекам».***
***Аляксандр Блок***

*Адступіцеся, цары і каралі,*
*Прынцы, князі, фюрэры і ханы —*
*Чалавекам не бязлюдная зямлі*
*Можа быць адно, хто закаханы!..*

*Жаль, не я прамовіў гэта, Блок,*
*Ды ягоным эпігонам быць я згодзен*
*Між маланкавых, грымотлівых аблок*
*І між мудрасці, што тоіцца ў народзе,*

*Бо на свеце ні зубром, ні матыльком*
*Быць ніколі не жадаў я, не жадаю*
*І глынаю найгарчэйшы ком,*
*Калі лёс мяне ў нянавісць закідае,*

*Згубнай — ёй Шлях Млечны не любіць,*
*Не ўслаўляць натхнёныя сакрэты,–*
*Закаханым чалавекам быць мне, быць,*
*Як былі дагэтуль ўсе паэты!..*

## Беларускае

*Беларусь дарагая —*
*Прожылкі сцяжын,*
*Гасцінец да небакраю*
*Дзівасілу, ажын,*

*Чырвань рухаў балючых,*
*Свойскіх палотнаў бель,*
*Шэпт крыніц неўміручых —*
*Беларусі купель.*

*Бароў векуістых пагоркі,*
*Сплаканых бяроз,*
*На вуснах — прысмак горкі*
*Ад неўміручых слёз,*

*Вясельны блакіт у кяліхах*
*Ледніковых азёр,*
*І заклёны ад ліха*
*Пад дрыжэннем зор,*

*Маладзікі і ветах,*
*Млечнага шляху кайма*
*І канец свету,*
*Канца якому няма.*

ВАНДРОЎКІ

# ЛАНДАН: МАЗАІКА Ў КРУГЛАЙ РАМЕ

Янка СКРЫДЛЕЎСКІ

**Прызнаюся напачатку: не прымаю вымаўлення (і напісання) назвы гэтага горада і праз халоднае «наркамаўскае» о — Лондан, і праз прысвоенае тарашкевіцай (як двума пазнакамі-насечкамі над тым о) ё — Лёндан.**



Гэтаму гораду найбольш пасуе роднае, стагоддзямі абцалаванае-вылізанае — спадчынна ангельскае Ландан. Так яно і мусіць перадавацца ў беларускай транскрыпцыі, калі, зрэшты, мы самі чакаем ад суседзяў-еўрапейцаў адпаведнага: пачуць ад іх не скорана-спаланізавана-ўбальшавічаны Мінск, а — Менск.

І не толькі таму. О не перадае ў націскным — а таму асноўным складзе — усяе сутнасці брытанскай сталіцы. О — хоць і больш вольнае, чым «надсоленае» ё, больш раскацістае, ды ўсё ж заціснутае — і ў вуснах, і ў слове. А вось а — амаль ідэальнае ў маўленні кола.

Як і ангельская паўнагалосая сталіца, якая радыусамі-дыяганалямі праменіцца-разыходзіцца ад успамінаў да выдумкі, ад гісторыі да заўтрашняга, ад ранку да адвячорка, ад панядзелка да ўікэнда, ад дысертацыі да верша...

Пасля ўсіх здарэнняў 11 верасня глядзім праз ілюмінатар на крыло самалёта ніякавата: такое ўжо яно лёгка-слабое, як і жыццё...

Аднак за некалькі хвіляў патрапляем са змрочнай віленска-восеньскай залевы — у мяккую бавоўну, а затым — пад сонца. Хоць на шкле малююцца марозныя ўзоры.

Яркае сонца і пякучы мароз — разам толькі над зямлёй.

За вакенцам, на светла-блакітным пухавінні — цень самалёта ў колцы вясёлкі. Як шэры дэльфін плыве па небе.

— Пад намі Амстэрдам, — паведамляе пілот. Але таму цяжка даць веры. На зямлі — акіян снегу: то роўнае поле, то белыя скірдзішчы. Не раўнуючы, Антарктыда. І не цяплее ад сцюардэсінага чырвонага віна — Père Patriarche, — адно чырванеюць шчокі, калі ўслед прыліпае сугалосная згадка пра нязменнага беларускага патрыярха...

Пасля Амстэрдама пачынаюцца снежныя заметы — як нясконцыя дзюны. Успаўзаем яшчэ вышэй — і да галоўнай ангельскай нябеснай брамы — аэрапорта Хітроў — застаецца 30 хвілінаў.

Напэўна, высокія птушкі бачаць нашую зямлю як сшытую з размаітых кавалкаў коўдру. Толькі нашыя краўцы-шаўцы менш ахайныя за брытанскіх.

У чужамоўнай краіне пачынаеш разумець нямых і спачуваць ім больш, чым дзе-кольвек дома.

Турыст-абывацель ландданскую мазаіку можа смела ўставіць у аграмадную металёва-іскрыстую раму гарадскога «чортавага кола», якое па-сучаснаму ўзвышаецца над фанабэрыстым Біг-бэнам. Я ж, анічым не адрозніваючыся ад тых абывацеляў, не буду рабіць таго — бо ўявіў, як яно, гэтае кола, можа крутнуцца ды пакаціцца па шарай Тэмзе.

Паспрабуй тады дагнаць карціну...

На вуліцах паміж старадаўнявыкшталцонымі будынкамі — як сучасныя зіхоткія каронкі ў роце Ландана — квадраты, піраміды з металу і шкла. Паўстагоддзя таму на іх месцы падалі нямецкія бомбы. «Карыес нацызму» з'еў шмат дамоў у бізнэс-цэнтры брытанскай сталіцы.

...Як нашыя ў трыста разоў бяднейшыя студэнткі-дзяўчаткі могуць апранацца ў паўтысячу столак прыгажэй і шыкоўней за англічанак?!!

І яшчэ: чаму падораная жонкай туалетная вада ў Ландане пахне нашмат далікатней і загадкавей, чым у Менску?

...Нацыянальная галерэя.

Рафаэль.

Ціцыян і «Алегорыя здаровага сэнсу»: яго тры галавы.

Імпрэсіяністы — чараўнікі аб'ёмнага святлаколеру. Клод Манэ, яго «Лілеі», «Ірысы (Касачы)». Калі маляваў сваю цнатлівую класіку, над светам бушавала першая сусветная вайна, а над піцерскім Эрмітажам і маскоўскай Трацьякоўкай — рэвалюцыя...

Баюся разбудзіць маладую цяжарную негрыцянку-музейніцу, якая спакойна дрэмле перад натоўпам.

...Шкло ў півярнях настолькі чыстае, што думаеш: яго выбілі.

Тут нарэшце па-ангельску «прачышчаецца» сэнс-паходжанне аднаго беларускага імя: ALES у перакладзе — ПІВЫ (балазе яго — піва — тут настолькі шмат, што яно ўжываецца ў множным ліку, — у адрозненне ад нашай постсавецкай традыцыі ПІВА з нязменна-адзіным «Жыгулёўскім»)...

Ландански прафесар Макмілін, нястомны даследчык-папулярызатар у англамоўным свеце беларускай літаратуры, маляўніча распавёў, як праз тое піва аднойчы да болю адчуў сябе савецкім чалавекам — у 70-х гадах у Маскве, спякотным летам, перад кіёскам з тым «Жыгулёўскім». Выстаяў даўжэзную чаргу — і аказалася, што пеністы напой разліваюць толькі ў тару спажыўцоў, што ў краіне пераможнага камунізму не хапае шкляных куфляў... І выпхнулі б небараку з чаргі, але свет не без добрых людзей: адзін з выпівох дацадзіў мутную вадкасць з паўлітровага слоіка і выратавальна-спачувальна прапанаваў ланданцу. Так і адбылося прафесарскае пасвячэнне ў скуру гомо савецікуса...

Тут жа моцнае піва — у бутэльках. І завецца «ячменнае віно».

Вэстмінстэрскае абацтва аніяк не змяшчаецца ў аб'ектыў вузкага кітайскага фотаапарата, не гаворачы ўжо пра сімвалічны Біг-бэн...

Дадаюцца ноччу адмоўныя камертоны: вуркатанне самалётаў ды вісклівыя сірэны (пажарныя, медыкі, паліцыя?). Зрэшты, паліцыя — наўрад ці. Хоць і горад — найтурыстычны, і спакойныя англічане занепакоеныя тэрарыстычнымі атакамі, аднак за два тыдні паліцыянтаў бачыў толькі двойчы: каля амбасады ЗША правяралі паркоўку і — парачку вершнікаў. Ён і яна. Такія грацыёзныя, шчаслівыя — як на спатканне выбраліся. І іх хапае дзеля парадку ў гэтым незразумела-спакойным мегаполісе!

У парку Святога Джэймса далікатнымі светла-ружовымі гронкамі-сукведціямі буяюць краскі. А над імі — лес выпешчаных пранумараваных дрэў з зялёнымі пластыкавымі карткамі-нумарамі: 07050, 07051...

На тратуарах надзвычай цесна. Усе мкнуць пад ногі... Пакуль не даходзіць: тут, як і на аўтадарозе, крочаць злева...

Вы калі-небудзь бачылі, каб вам — як тут — па-сяброўску ўсміхаўся служка ў царкве? Не гаворачы ўжо аб машыністе цягніка ў метро?

Каля Брытанскага музея — як і ў Беларусі: карэнныя ланданцы-абарыгены ніякавата пытаюць, калі хочуць звярнуцца да цябе: «Вы гаворыце па-ангельску?». І толькі потым ужо — аб тым, што хацелі спытаць.

І Беларусь — як музейная тэрыторыя. Нібыта ўсе ў ёй турысты, і абарыгены мусяць таксама пытаць: «Вы гаворыце па-беларуску?».

Наўздагон... Хіджаб і чалма — частыя атрыбуты брытанскай сталіцы. І траціна ланданскіх школьнікаў не лічаць ангельскую сваёй роднай...

Парк рэгента... Падалося, тут ёсць усё. Нават ружы з назвай PERESTROJKA. Скалёзныя такія, прычаўрэлыя. Як і прататып. Не ў параўнанне з CAN-CAN-ам — як і насамрэч віхурную сукенку з танцаўшчыцы знялі. Паменшаную...

У парку ў ідылічнай рэчцы — і качкі, і гусі, і лебедзі (розных відаў і колераў), і рыбы, і нават чарапахі. Плаваюць сабе, дрэмлюць ды жыццю радуюцца. Зрэдку харчуюцца. Зрэдку, бо ўжо не могуць есці, не ўлазіць. А ім двухногія старэйшыя браты і сёстры сыплюць ды сыплюць булкі. Такія выцігнутыя квадрацкімі пласцінамі... Як пліткі шакаладак. Яны адмыслова выпякаюцца і асобна прадаюцца дзеля гэтага.

— А чаму па-простаму не пакрышыць ім батона? — можна спытаць.

— Дык жа нязручна. Ды і птушкі могуць падавіцца! — давядзецца пачуць...

Калі лёсіць з'явіцца на гэты свет у іпастасі звяра ці птушкі, хацеў бы быць толькі ланданскім гусаком...

...Трэба тым, хто ўпершыню выбіраецца ў замежнае падарожжа, забараніць наведваць Ландан: пасля яго становяцца вузкімі рамы ўсіх іншых гарадоў-сталіцаў ды блякне іхняя мазаіка...

Бо ён, гэты саноўны паўнагалосы горад, і праз доўга-круглыя гады будзе радыусамі-дыяганалямі прамяніцца-разыходзіцца ад успамінаў да выдумкі, ад гісторыі да заўтрашняга, ад ранку да адвячорка, ад панядзелка да ўікэнда, ад дысертацыі да паэмы...

ПРЫСВЯЧЭННІ

# «КВЕТКІ ЗАМЕСТ ЧАРТАПАЛОХУ»

Сяргей ПАНІЗЬНІК

30 жніўня 2009 года каля магілы Альгерда Абуховіча ў Слуцку былі Алесь Пашкевіч, Ніна Стужынская, Аляксей Кароль, Васіль Якавенка... Я прачытаў верш, прысвечаны Графу Бандынэлі. У горадзе праходзіла акцыя «Кветкі замест чартапалоху». І мы падпісаліся пад зваротам, у якім гараджане-случакі выказваліся за добраўпарадкаванне могілак, дзе пахаваны Альгерд Абуховіч. Помнік знакамітаму Творцу быў у занядбалым стане. Чым жа сёння я дапамагу Графу Бандынэлі? «Прыбраў» ад апісак радкі, замяніў паджаўцелыя словы... Верш замест чартапалоху? А па праўдзе — пры нагодзе каб яшчэ раз успомніць шляхетнага патрыёта, які дапаможа нам і на пана раду знайсці, і льва-манарха абмініць...

Яго Слуцак нас чакае!

**Альгерду-Якубу Абуховічу — Графу Бандынэлі**

*«На свабодзе прападу,*
*А ў няволю не пайду!»*

*З шляхетнага роду герба «Ключ раздвоены»*
*Песні Графа адзвінелі,*
*Рым усцешыць не змаглі.*
*І застаўся Бандынэлі*
*На сваёй святой зямлі.*
*Звонкі касінера голас*
*Не Парыж на вежы ўзняў, —*
*Кліч яго (і жытні колас)*
*Восіп Дыла пераняў.*
*Хай Жэневы жаль журкоча,*
*Што цыдулкі нехта знёс…*
*Ваўкалак збярогся! Хоча*
*Нам напомніць з-пад калёс:*
*«Граф на пана раду знойдзе,*
*Льва-манарха абміне…».*
*Граф адчуе, ХТО ў народзе*
*Пры нагодзе ўспамяне*
*Слуцкае гадоўлі сына*
*І яго жаданкі ўсе, —*
*Каб адужыла Айчына,*
*Пашляхетнела ў красе.*
*Прычакае ў Слуцку жнівень*
*Абуховіча радню:*
*Мы прытулімся, узнімем*
*З гербам Графа пяцярню.*

# ЖЫВОМ!

Навошта пільнавацца даты 20 верасня? І сёння можна парадавацца за Аляксея Канстанцінавіча Каўку, што ён сваё 75-годдзе сустракае ў асяроддзі Скарыны, Купалы, Езавітава, І. Луцкевіча, Ластоўскага, Улашчыка, удзячных чытачоў яго штогодніка «Скарыніч». «Жывом!» — паўторым услед за хлопцам з Чэрвеншчыны. «Будам жыць!» — усклікнем разам з масквічом Аляксеем Каўкам — гісторыкам, літаратуразнаўцам, грамадскім дзеячам, доктарам сімпатычных навук і… і нашым вялікім Сябрам.

Хай з птушкамі галкамі-каўкамі ляцяць над 55-м паштовым аддзяленнем Масквы, у 36-ы хмарачос на Крылацкіх Халмах, у гняздо былога прадстаўніка таварыстваў дружбы і культурных сувязяў з заграніцай, амбасадаўскага дарадцы Аляксея Канстанцінавіча Каўкі нашы вітанні.

Мы побач, з Вамі — у прытуленні.

**Масквічу Аляксею Каўку, народжанаму на Чэрвеньшчыне**

*Жыў-быў у Празе Кафка…*
*А ёсць і рэчка Каўка.*
*На Чэрвеньшчыне — лаўка,*
*З якой падскочыў Каўка*
*І ўсеўся на каня…*
*Пагаварыць — няўпраўка:*
*У Менску — на паўдня…*
*Знайшлася і папраўка:*
*Трымае даланя*
*Скарынаву заставку,*
*Ластоўскага прыстаўку,*
*Улашчыка прыбаўку…*
*— Жывом! — гукала каўка,*
*А з галкай арляня.*
*Так, будам жыць, Прафесар,*
*І вымкнемся з гурмы.*
*Савецкія завесы*
*І крызісныя стрэсы*
*Карчуем сёння мы.*
*А Вам — шукаць надрэзы,*
*А Вам — ствараць псалмы*
*Для Беларускай месы…*
*— Sto lat! — Наш зык для тэзы:*
*Ігуменшчыны крэсы —*
*Крылацкія Халмы!*

ВЕРШЫ

# НА ДНЕ СВЕТУ

Алена НІЯКОЎСКАЯ

* * *

*Мілы край! Пад сінім добрым небам*
*Ты мяне заўваж і назаві.*
*Я твая — па долі і крыві,*
*Ты — мой лёс і дом, жыццё і глеба.*

*Мне вятры чужыя ў вочы дзьмулі,*
*Я хадзіла па чужой зямлі,*
*І тваёй не здрадзіла зязюлі,*
*Што паабяцала мне калісь*

*Сто гадоў шчаслівых…*

## На арэлях

*Уздымаецца й падае неба.*
*Голкамі ў вочы — зоркі…*
*А сэрца ірвецца з рэбраў,*
*А вусны — сухія і горкія.*

*А дыхаць балюча й цяжка,*
*І недзе ж — канец трывання…*
*Няўжо там толькі бязважкасць*
*І пункт невяртання?..*

* * *

*Бачу я: узышлі мае вершы травой,*
*Туманамі ўзняліся і кветкавым пылам,*
*Матылямі лятуць сінякрылымі*
*Над зямлёй — маладой і жывой.*

*І на вуснах, ад мёду ліпкіх,*
*Ажывае радок мой зыбкі.*

## Замочная шчыліна

*(З Ежы Фіцоўскага)*

*Замкнула мяне жыццё*
*на самым дне свету,*
*на чатыры абароты маіх гадоў.*
*Як адчыніць вашы дзверы,*
*дачушкі, жыхаркі дзяцінства?*

*У вашай мілай краіне*
*быў я калісьці сваім,*
*а цяпер — дарэмна пнуся*
*да вашых высокіх вяршынь.*

*Ужо мне занадта далёка*
*да каменьчыкаў, што адкрываюць*
*таямніцы свайго нараджэння,*
*да сноў, утульных і цёплых,*
*што прыходзяць на каціных лапах,*
*да андэрсанаў пад падушкай,*
*да эпасаў лялечных вашых,*
*да ветру, замкнёнага ў кветках —*
*на самым водарным дне, —*
*ён раніцою пялёсткі*
*расхінае насустрач сонцу.*

*Даўно я згубіў ключы*
*ад вашай светлай краіны.*
*Праз верш мой — замочную шчыліну —*
*цішком падглядаю за вамі.*

Фота У.Клімовіча

# РАДАЎНІЦА

Славамір АДАМОВІЧ

* * *

***Сяргею Верацілу, Таццяне Сямірскай***

*Учорака таварыш мой паэт*
*мне расказаў, што бачыў маю Таню,*
*і ад яе мне перадаў прывет,*
*як быццам здзейсніў важнае заданне.*
*Я справаздачу выслухаў, нібы*
*у штабе фронта афіцэрскі рапарт.*
*Я Гуглу адаслаў: пра файл забыць!*
*А мне ў адказ — на далучэнне запыт...*
*І я не змог стрымаць шчаслівых слёз,*
*і расквітнеў падснежным фіялетам*
*фіялкавых — так-так! — метамарфоз,*
*спрабуючы зарэгіцца версэтам.*

*Мне пяцьдзясят, а я люблю, люблю,*
*нібыта мне пятнаццаць сама мала...*
*Мне пяцьдзясят, а у душы лонг-блюз*
*пра тое як, як ты мяне кахала...*

* * *

*Мы — дзеці «чыстага гораду»,*
*мы супраць вялікай ілжы,*
*якую нам запраўляюць змоладу:*
*рабі адно, а другое кажы...*
*Мы — дзеці мёртвай правінцыі,*
*мы згрэбліся у гарады,*
*каб тут вельмі хутка зненавідзець*
*міліцыю,*
*кактэйлем Молатава бамбаваць суды...*
*Мы дзеці пад акупацыяй,*
*у нас нават мовы няма,*
*а нам так хочацца быць дзецьмі Нацыі,*
*Нацыі, якой таксама няма...*
*Мы — дзеці «чыстага гораду»,*
*мы — дзеці мёртвай правінцыіі,*
*Мы — дзеці пад акупацыяй,*
*і таму наш покліч — вайна-а!*

**13.06.2012, Мар'іна Горка**

## Пра мёд

***11 мая завітаў на літаратурна-мастацкую вечарыну Аксаны Спрынчан «Сакральная Беларусь: мёд», якая адбылася ў бібліятэцы імя Цёткі. Выступіў, прыгадаў свае першыя дзіцячыя ўражанні ад сустрэчы з Мёдам... Чыстае атрымалася мерапрыемства, як мёд і пчолы...***

*Гаварылі пра Мёд, разглядалі карціны*
*Кватькоўскага,*
*а пасля гаварэння паселі за стол каштаваць*
*ды ізноў гаварыць хто пра што і вядома ж*
*— пра Каліноўскага,*
*а адзін мастачок парываўся касой*
*памахаць...*

*Ды касы не знайшлі... Пакідалі ўстанову*
*культурную*
*ціха-мірна адною вялікай крывіцкай сям'ёй.*
*Толькі раніцай нешта было мне зусім*
*беспрытульненька*
*і здалося жыццё маё чорнай даўгой паласой.*

*Як жыву, так жыву, не на мёдзе —*
*на іншай арганіцы,*
*зараслі мае пасекі дзікай травой-гавылой*
*пакуль шастаў па свеце я ў пошуках*
*вернай абранніцы*
*і валтузіўся ў бойках з варожаю*
*сілаю злой.*

*Як бы там ні было, як бы тут не мінала*
*жыццё маё,*
*шлях адзін — напрасткі,*
*праз асфальты і гаць*
*дасягаць,*
*і дужэць, і выходзіць з цямна*
*беспрасветнага цёмнага*
*і мядовы пацір з землякамі сваімі*
*уздымаць!*

**14.05.2012**

* * *

*Я, сучасны і геніяльны*
*(лёгка быць геніяльным, калі іншых няма),*
*я не люблю тылавых і маральных –*
*дзе многа маралі, там, звычайна, вайна.*
*Я дрэнны бацька і муж ніякі,*
*на дух не выношу я «родны кут»,*
*гарэлку люблю, таранку і фліякі,*
*а ненавіджу слабасць і бруд...*
*Хай дождж пральецца і вылятуць пчолы,*
*і ў полі вырастуць камяні,*
*а з неба промень пырсне вясёлы*
*на кроны, краты і карані!*

**1 чэрвеня 2012**

## Радаўніца

***Памяці Арыны Вячоркі***

*Забірае смерць невыпадковых*
*выпадкова, як бярэ і ўсіх,*
*месяцы вызваляючы для новых*
*без фанфараў і азарту зіг.*
*Многа нас, і ёй няма аддухі,*
*круглы год ідзе яе касьба –*
*і вясной, і ў часе завірухі*
*пад жывымі мёртвымі зыбаць.*
*І таму пакуль мы помнім продкаў,*
*продкі нас натхняюць прагна жыць*
*не за пук цыбулі з шостай соткі –*
*за магчымасць Беларусь любіць!*

**20-я дні красавіка 2012**

* * *

***Земляку Лявону Садоўскаму,***
***адказваючы на яго пытанне***
***«Калі абратна?»***

*Мой шлях — на Поўнач...*
*Выстудзіць агонь*
*сваёй душы хачу ў нарвежскіх скалах.*
*Дык не марудзь, трымай маю далонь,*
*і будзем тымі, каму волі мала,*
*каму ў сваім кантэксце рэжа слых*
*блатны жаргон пляшывых падхалімаў,*
*якія дома удаюць на злых,*
*а ў маскалях глытаюць пыл кілімаў,*
*прывычна стоячы на чатырох,*
*шліфуючы аральным памялом*
*царовы бот...*
*О, вартыя пагарды і праклёнаў, вы,*
*суайчыннікі так званыя мае*
*без гонару, без годнасці, без мовы,*
*смакуйце свой пракіслы аліўе,*
*пакуль трольдомяць* вас крамлёўскія*
*пятровы!*

* Ад нарвежскага trolldom — чараванне, варожбы.

## Маналог Паэта, адрасаваны служкам рэжыму

*Тыя, што сёння палеглі,*
*тыя, што лягуць заўтра,*
*і мы, якія не збеглі*
*пад чужыя штандарты,*

*цяпер абвяшчаем з жалем,*
*сыходзячы ў андэграўнд, –*
*любоў мы з душ выжынаем*
*да будучых светлых дат.*
*Ты брат мне быў, але зараз*
*стаіш ты на іншым баку...*
*Дык ведай, я стрэлю без жалю,*
*і палец ужо на курку!*
*Даволі! Не трэба словаў,*
*што дзеці ў цябе і сям'я,*
*што варта чакаць перамоваў...*
*Даволі пяяць салаўя!*
*Быў час, і было магчыма,*
*і кожны абраў па сабе:*
*я гонарам стаў, ты — ганьбай Айчыны... —*
*пляшывай скулай на ейным гарбе...*

**29 снежня 2010, турма г. Жодзіна —**
**13 студзеня 2011, Менск**

## Уладзіміру Някляеву

*Поўнамаштабная грамадзянская*
*ідзе паводле няісных правілаў.*
*Вось ён, вынік «дэмакратыі» хамскае –*
*паэты першыя ў байцы валяцца.*
*На белым снезе, перад Калядамі*
*да Посная Куцці прыправачка гострая –*
*кроў Паэта крапліста-гірляндава*
*ўпырснута ў нас як прышчэпка воспавая...*

**25.12 2010 г., СІЗА № 8 г. Жодзіна**

## Аптымістычныя радкі ў верасні

*...Эх, разгарнуцца і выйсці ў верасень,*
*паветрам восені лёгкія вызваніць*
*і жыць сто гадоў, прамаўляючы ерасі,*
*з іроніяй да рознай палітстарызны.*
*На 50-м годзе ізноў ажаніцца,*
*у 70 адчуць сябе нарэшце ў г а д а х*
*і да апошняга ўздыху жыць не нажыцца,*
*і так пры гэтым, каб зносіла дах!*

**21.09.2011, раніца, Nordland**

## Напярэдадні

*Напярэдадні мы рыхтуемся,*
*мы рыхтуем сябе на раз.*
*Далучайся да нашай рупнасці!*
*Далучайся, пакуль ё час!*
*Гэта потым — разбор палётаў*
*(хто, куды, за каго і з кім?).*
*Але сёння — час бруднай работы,*
*нам рабіць яе, маладым.*
*Хто не можа, той збоч з галоўнай*
*магістралі, няхай на ёй*
*застанецца хаця б палова,*
*ды з халоднаю галавой,*
*ды з агнём у левай грудзіне, —*
*той агнішча, каб гартаваць*
*волю нашу ў рэал-рэжыме,*
*волю быць і перамагаць!*
*Не паддайся гнілым разлікам*
*пераседзець як-небудзь так,*
*з каментарыкамі пад нікам*
*пра гламур-марафет-нішцяк.*
*Кожны робіць штодня свой выбар,*
*а што выбраў — з тым і жыві,*
*леў твой знак ці халодныя рыбы –*
*неістотна ў пякельным агні.*
*Напярэдадні пасkідаем*
*з нашых душаў, каркаў і спін*
*невыносны цяжар адчаю,*
*каб улегцы ісці на чын!*

**9 снежня 2010**

ФРАГМЕНТЫ

# МЫЛА
## УРЫЎКІ РАМАНА

Мікола АДАМ

…Ён папіваў піва, невідушчым позіркам праводзячы прахожых, як пачуў сваё імя.

— Вадзім, корэш! — штурхнуў Корбута ў плячо п'янаваты, аднаго з ім росту, хіпаваты хлопец, закаваны, як у бронежылет, у чорную скуру, з прыбамбасамі ў выглядзе брэлокаў-шкілетаў-тэрмінатараў-бэтмэнаў. Саламяныя валасы спускаліся на яго плечы дамком, у даволі густой барадзе заблыталіся, як мухі ў павуціне, крупінкі батона, з левага вуха звісала завушніца — мініяцюрны распяты Хрыстос.

— Руслан?! — з цяжкасцю пазнаў Вадзім аднакласніка. У школе той насіў прычоску пад Элвіса, а цяпер і валасы адпусціў, і пафарбаваў іх пад Кабэйна. Ці не стары ён для фаната «Нірваны»? Звычайна, падлеткі захапляюцца такой музыкай…

— Ну, нарэшце! — шчыра ўсміхнуўся Руслан, узрадаваны, што Вадзім пазнаў яго.

— Эй, Русла! — пачуўся з-за спіны Вадзіма сімпатычны дзявочы голас. — У тваго корэша грошы ёсць?

— На самай справе, — Руслан спыніў Вадзіма рукой за плячо, калі той хацеў павярнуцца на сімпатычны голас, — можа ты багаты на «бабкі»? Па старой дружбе…

Корбут не адказаў і паволі ўсё-ткі павярнуўся: за яго спінай, у метрах пяці, сценкай стаяла купка нефармалаў, пярэстая як па ўзросце, так і па вопратцы.

Гаспадыняй сімпатычнага голасу, ён быў упэўнены, была невысокая, але прыгожая брунетка з некалькімі зялёнымі пасмамі, у сакоплы з Куртам Кабэйнам на грудзях, у чорных вузкіх джынсах і ў высокіх красоўках.

Дзяўчына, не звяртаючы ўвагі на сябрукоў, пільна пазірала ў Вадзімавы вочы, паволі падносячы цыгарэту да вуснаў, паволі зацягваючыся і выдыхаючы дым…

— Дык ёсць у цябе грошы? — падышла да Вадзіма, прапанавала свою цыгарэту.

Вадзім моўчкі згадзіўся, зачараваны вачыма дзяўчыны — вялікімі, бяздоннымі, цёмнымі і густымі, як гушча кавы на донцы філіжанкі.

— А што будзе… калі ёсць? — хрыпла, як сапсаваны саксафон, прагучаў яго голас.

— Нічога не будзе, — пацiснула плячыма дзяўчына. Не цягні гуму: згодны з намі тусавацца ці не?

— За свае грошы?

— Цябе ніхто не прымушае. Аднак, што табе важней: чарговая серыя «Санта-Барбары» ці добрая кампанія? Толькі кажы праўду…

— Тэлевізар мне няма часу глядзець, — адрэзаў Вадзім, — а вось вы, панна, даволі добра дасведчаны пра серыялы па тэлебачанні…

— Яшчэ б, — згадзілася дзяўчына, — калі бабуля з мамуляй памяшаліся на серыялах, да таго ж пачалі па чарзе параўноўваць гераіняў са мной.

— Гэта сумна.

— Няўжо весела? Але ты не адказаў.

— Згаджайся, корэш, — шапнуў яму на вуха Руслан, які ўвесь час моўчкі стаяў за спінай Вадзіма. — Па-мойму, «Пума» на цябе паклала вока.

— «Пума»? — уголас паўтарыў Вадзім.

— Гэта мая клікуха, — растлумачыла дзяўчына. — Сапраўднае маё імя Леся.

— Вадзім, — з ходу ляпнуў Корбут.

— Ну, вось і пазнаёміліся, — адзначыла Леся і ўзяла яго за руку. — Спадзяюся, супрацўлення не будзе?

Аб якім супраціўленні магла быць гаворка? Калі побач з табой прыгожая дзяўчына, няважна з якой нагоды! Вадзім стараўся не думаць, што, хутчэй за ўсё, калі б грошай у яго не аказалася, Леся нават не зірнула б у яго бок. А ў яго грошы ёсць, і моладзь хоча выпіць. Чаму б і не дапамагчы?

Яны купілі дзве бутэлькі «Пшанічнай», чатыры — «Міражы», чатыры — «Холстэны», два боханы чорнага хлеба, батон, пакет кефіру, палку каўбасы і пару гамбургераў для Лесі, якая вельмі хацела есці. Потым пачакалі, пакуль Руслан злётае па танныя цыгарэты, бо на «L&M» ужо не хапала.

Калі вярнуўся Руслан, паўстала, як адзінка ў школьным дзённіку, пытанне: куды пайсці? Па-першае, час позні; па-другое, холадна і ні аб якім парку можна нават і не заікацца, а ў пераходзе не застанешся, бо мянты і так ужо скоса пазіраюць ды ходзяць вакол зігзагамі; да каго-небудзь на хату таксама адпадала, бо правільныя бацькі паднімуць вэрхал і выклічуць міліцыю, пажарных і «хуткую дапамогу» разам.

Думаць трэба было хутчэй, бо набліжаўся час спынення грамадскага транспарту.

— А з якой нагоды фуршэт? — весела пацікавіўся Вадзім.

— Цябе сустрэлі, — прамовіла Леся. — Вось і трэба адзначыць.

— Тады паехалі да мяне, — усміхнуўся, падміргваючы, Вадзім.

— Чаго ж ты раней маўчаў?! — усе разам накінуліся на Корбута з папрокамі. Адна Леся моўчкі дакурыла цыгарэту і пстрыкнула недакуркам.

— Куды ехаць? — спытала.

— На «Пушкінскую».

— У метро! — дружна крыкнула кампанія і адзіным цэлым кінулася да шкляных дзвярэй метро.

Яны ледзь не спазніліся на апошнюю электрычку, Вадзім паспеў учапіцца за дзверы вагона і стаць паміж імі, утрымліваючы, каб не зачыніліся, пакуль усе не апынуліся ў вагоне.

— Ты адзін жывеш? — пацікавілася Леся.

— Не, з братам. А што?

— Ён нас пусціць?

— Ён пісьменнік, — адказаў Вадзім, закрыўшы гэтай фразай тэму, нібы яна была адзіным адказам на пытанне.

…Як назло, брата не было дома. А ў Вадзіма не было ключоў ад кватэры. Засталіся ў касцюме.

— І тут не шанцуе, — заўважыў нехта з кампаніі.

— Мой брат — пісьменнік! — са значэннем павысіў голас Вадзім. — Калі яго няма, пойдзем уніз. Не «люкс», але цярпіма.

— Галоўнае, што не холадна.

— Гарэлкі мала.

— Не праблема. Па дарозе «начнік» бачыў?

— А грошы дзе браць?

— Знойдуцца.

Калі ўсе паселі на пляцоўцы першага паверха, пад лесвіцай, насупраць ліфта, каму як было зручна, Вадзім адкаркаваў першую бутэльку. На дзіва, дзяўчаты, якіх было чацвёра, не лічачы Лесі, ад гарэлкі адмовіліся, акрамя Лесі…

Гарэлку хутка выпілі, «чарніла» таксама не затрымалася. Душы патрабавалі працягу. Руслан згадзіўся збегаць. Вадзім адлічыў грошы, тое, што засталося…

Мікіта Міхайлавіч Корбут прывык пісаць з раніцы. Пасля, вядома, ранішняга рацыёну, які складаўся з нязменных двух кубкаў кавы з цукрам і цыгарэты.

Сядаючы за пісьмовы стол, Корбут спачатку перачытваў старонкі, напісаныя ўчора, калі-нікалі правіў іх, і прымаўся за працу.

Не пісалася. Корбут вывеў толькі адно слова на белым, як малако, аркушы паперы. Далей, як не напружваўся, нібы ражаніца ў раддоме, — нічога не нараджалася.

Ён закурыў, аблакаціўся на стол, прабягаючы вачыма яшчэ раз па папярэдніх радках старонкі.

— Дэбілізм нейкі! — вылаяўся Корбут. Ён зграбастаў спісаныя аркушы, скамячыў у няправільную акруглаясць і падпаліў, шпурнуў, ужо ў агні, у папяльніцу. Цяжка ўздыхнуў. Усё-ткі не кожны дзень нішчыў плады тыднёвай працы. Аднак так лепш. Не хапала яшчэ паглыбіцца ў безгустоўшчыну сучасных трылераў! Трэба шукаць штосьці іншае, пажадана без ужывання мата, які запаланіў усю сучасную прозу. Дзе наша эстэтыка падзелася? Ці яе, як і каханне, спіхнулі ў бардэль на агледзіны новых рускіх за пару тысячаў даляраў? Танна. І не шкада? Была б яго воля… Хаця навошта марыць аб нязбыўным? Марыць ніколі не зашкодзіць, гаворыць народная мудрасць, але… лепш… так.

Ён зазірнуў у пакой малодшага брата. Але Вадзіма ўжо не было. Ці яшчэ не было? Памятаецца, Корбут заснуў, так і не дачакаўшыся яго, пад іранічныя і зусім не страшныя ўскрыкі Фрэдзі Кругера па тэлебачанні…

Працяжна зазваніў тэлефон.

— Мікіта, гэта ты? — пазнаў ён калегу па пер'і Канстанціна Цімашэнку, таленавітага, але гультаяватага празаіка, які займаўся ў Доме літаратара творчай



працай з моладдзю. І атрымлівалася нядрэнна. З-пад яго лёгкай рукі выйшаў ужо не адзін цікавы паэт.

— Я. Здароў, Косця, — адазваўся Корбут.

— Прывітанне. Мікіта, ты ж не забыўся пра сённяшні вечар?

— А што сёння ўвечары? — не зразумеў Корбут.

— Ну, блін… — нязлосна вылаяўся Цімашэнка. — Мы ж з табой яшчэ калі дамовіліся, не памятаеш?

— А, наконт тваёй тусоўкі літаб'яднання? — дапяў Корбут. — Не хвалюйся, я буду.

— Толькі ж не прывалачыся на аўтапілоце, — папярэдзіў яго Цімашэнка. — Усё-ткі школьніцы будуць, студэнткі… Які ты ім прыклад падасі?

— Ты дрэнна мяне ведаеш, Косця, — прамовіў Корбут. — Я магу і пакрыўдзіцца. Апошні раз я піў на тваім дні нараджэння, калі ты памятаеш…

— Ды добра, Мікіта, я жартую, — рассмяяўся Цімашэнка. — Папярэдне рыхтуйся да шквалу пытанняў. Абяцаю, што цябе імі засыплюць.

— Не сумняваюся.

— Ну, тады давай!

— Шчаслiва…

Да Дома літаратара Корбут прыйшоў без пяці шэсць. Ён пакурыў ля ўвахода, пасля зайшоў у памяшканне, дзе каля лесвіцы яго сустрэў Цімашэнка — каранасты, сівавусы, з невялікім жывоцікам мужчынка.

Яны парукаліся, і Цімашэнка павёў сябра за сабою ўверх па лесвіцы на трэці паверх.

Моладзі ў пакоі было багата, што вельмі ўзрадавала Корбута; радавала яго і тое, што большасць з прысутных — дзяўчаты, хоць яго раманы даволі жорсткія для ўспрыняцця. Пільны і назіральны позірк майстра адзначыў для сябе і вельмі прыгожага маладога чалавека, што сядзеў ля акна, бадай, адзіны, сярод дзяўчат.

— Бачыш, Корбут, — ляпнуў па плячы Цімашэнка, — дзяўчаты вершы пішуць…

— Прыгожыя дзяўчаты павінны пісаць і прыгожыя вершы, — усё яшчэ пазіраючы на таго юнака, прамовіў Корбут.

— Так, — пагадзіўся Цімашэнка. — Тарас наш Кутняк сёння прыйшоў узрадаваны, вершы новыя напісаліся, — кіўнуў позірк на хлопца. — Сядай, Мікіта, — прапанаваў Корбуту крэсла побач з сабой за рэдактарскім сталом.

Корбут не ведаў, што казаць маладым, таленавітым, мабыць, многія з прысутных друкаваліся ўжо, і неадноўчы, некаторыя займелі ўласныя зборнікі. На шчасце, пачынаў гаворку Цімашэнка. Ён распавёў моладзі Корбутаву біяграфію і свае стасункі з ім. Затым штурхануў плячом, загадваючы казаць што-небудзь. Не дзеля таго ж яго паклікалі, каб ён сядзеў, як слуп.

Аднак не паспеў Корбут вымавіць і слова, як узнікла першае пытанне, затым другое, трэцяе…

Сустрэча адбылася. Сустрэча спадабалася. Спадабаліся твары творчай моладзі, што яшчэ раз нагадвалі аб неўміручасці беларускай літаратуры.

— Ну як, ты задаволены? — спытаўся Цімашэнка.

— Вельмі, — усміхнуўся Корбут.

Яны засталіся ўдвух. Цімашэнка прапанаваў прыняць па маленькай, Корбут не адмовіўся.

— Яшчэ б, — смяяўся Цімашэнка, адкаркоўваючы бутэльку. — Калі такое было, каб Корбут адмовіўся выпіць!

— Я нават не ўяўляю, калі такое будзе, — у тон яму адзначыў Корбут. — За што п'ем?

— Давай, — Цімашэнка задумліва падняў чарку, — за нашу моладзь. Усё-ткі гэта наша змена, Мікіта. А ведаеш, колькі мне псуе нерваў розная свалата з-за таго, што я моладдзю займаюся? Я не буду называць табе іменаў, ты сам іх добра ведаеш… Ды і хер з імі…

— Не забывай, — кульнуўшы чарку і вымаючы цыгарэты, прамовіў Корбут, — што літаратура — тая самая вайна, толькі на іншым узроўні. Камусьці выгадна, каб пісьменнікаў на Беларусі было мала, а яшчэ лепш, каб іх увогуле не было. Улоўліваеш сэнс? Таму і не падабаецца многім, што моладзь ідзе ў літаратуру і піша на мове, а не на «великом и могучем». Таму і… сам ведаеш.

— Так, гэта сумна, — хітнуў галавой Цімашэнка. — Але, Мікіта, я хачу сказаць табе па сакрэце… — разліваючы яшчэ па адной, працягваў ён, — Праз месяц маладым будзе дзе друкавацца, акрамя «Маладосці». Хаця што такое па сутнасці «Маладосць», калі пад рубрыкай «Упершыню» — друкуецца 40-50-гадовы дзядзька?

— Цікава-цікава, — прыслухаўся Корбут.

— Мы засноўваем часопіс менавіта маладых, даючы магчымасць усім, каго ты сёння бачыў, сказаць сваё слова ў літаратуры. І яшчэ, — дадаў Цімашэнка, — ад цябе я б хацеў якое-небудзь апавяданне ці ўрывак з рамана на першы нумар. Я мяркую ў кожным нумары даваць аднаго-двух сталых аўтараў.

— Не пытанне, Косця, — падняў чарку Корбут. — Патэлефануй, калі спатрэбіцца…

Мікіта Корбут зайшоў у пад'езд і натыкнуўся на брата, які сядзеў на халоднай лесвічнай прыступцы з цыгарэтай у адной руцэ і з пляшкай піва ў другой. На каленях Вадзіма, нібы ў сядле, была дзяўчына з зялёнымі валасамі. Яна курыла, а Вадзім раскачваў яе на каленях.

Відаць, кампанія добра пагуляла, бо некаторыя, як заўважыў Корбут, нават слова не маглі вымавіць. Вадзім, аднак жа, брата пазнаў, пракрычаў, узняўшы рукі:

— А гэта мой брат!

— Добрай ночы, — цалкам цвяроза прамовіла дзяўчына на Вадзімавых каленях, працягваючы Корбуту руку для знаёмства. — Леся.

— Вельмі прыемна, Леся, — адказаў Корбут. — Я так разумею, вы адзіная з прысутных яшчэ ў стане неяк разважаць, пагэтаму я вас папрашу дапамагчы завесці Вадзіма да ложка. Калі вы не супраць, вядома.

Леся зірнула на Руслана, які лавіў апошнія кроплі гарэлкі з перакуленай дагары пляшкі. Краем вока ён заўважыў Лесін позірк і прамовіў:

— Ты можаш рабіць, што захочаш. Гэта не мая справа. Мы абяцаем пакінуць гэты раён, калі спадар нам падаруе колькі не шкада на пляшку, за дзесяць хвілін. Згода?

«Яшчэ адзін цвярозы чалавек», — адзначыў Корбут. У словах гэтага валасатага-барадатага хлопца ён пачуў прыхаваную пагрозу. Інакш кажучы, яны адбяруць грошы сілком. Корбут не баяўся. Але палічыў разумным на гэты раз абысціся без крыві, бо і сам быў на добрым падпітку. А калі хто-небудзь выкліча міліцыю?..

Корбут адлічыў грошы і працягнуў іх Руслану.

— Грошыкі лік любяць, — скнапна пасміхнуўся той, хутка пералічваючы купюры, слюнявячы пры раз палец. — О'кей, — павярнуўся да сваіх, стаў штурхаць усіх, хто паснуў, будзячы…

Пакуль старэйшы Корбут выклікаў ліфт, Леся нямоцна пляскала далонямі па шчаках малодшага, каб той не засынаў.

— Мікіта, — праз сілу расплюшчыў вочы Вадзім, — гэтая… дзяўчына… начуе… у нас.

Вочы яго зноў закрыліся, галава звалілася да грудзей.

Ліфт нарэшце прыйшоў. Мікіта перадаў дзяўчыне свае рэчы, падхапіў брата на рукі і зайшоў у ліфт. Леся націснула кнопку патрэбнага паверха. Яна ж адчыняла і дзверы ў кватэру Корбутаў, бо Вадзім без дапамогі не стаяў на нагах. Яна ж разаслала і ложак у Вадзімавым пакоі.

Калі Вадзіма распранулі і паклалі спаць, Мікіта прапанаваў дзяўчыне пайсці на кухню папіць гарбаты.

— Вам на самай справе няма дзе начаваць? — спытаў ён.

— Дзіўнае пытанне, — села на табурэт ля акна Леся, закінула нага за нагу, працягвала: — Я жыву на другім канцы горада, транспарт ноччу не ходзіць, а мае сябры пайшлі бухаць далей — і наўрад ці іх знойдзеш цяпер. Да таго ж на вуліцы зіма, таварыш брат Вадзіма, не ведаю вашага імя.

— Мікіта Міхайлавіч, — сеў насупраць яе Корбут. — Насамрэч пытанне ідыёцкае, — пагадзіўся ён.

— У вас ёсць цыгарэты? — раптам спытала Леся і, калі Корбут працягнуў ёй пачак «Астрылюкс», заўважыла: — Відаць, усе перайшлі на танныя цыгарэты без фільтра. На чым вы эканоміце?

— Прабачце, не зразумеў.

— Ну і не трэба, — усміхнулася Леся. — Не звяртайце ўвагі. Дарэчы, вы зусім не падобныя з братам.

— Я ведаю, — згадзіўся Корбут. — Вадзім падобны на маці. Яна памерла, калі ён нарадзіўся.

— Зразумела, — прамовіла Леся. — Па-мойму, чайнік кіпіць.

…Гарбату яны пілі моўчкі. Леся — без цукру, Корбут — вельмі салодкую. Леся яшчэ раз закурыла і павярнулася да акна. Корбут зашумеў вадою з-пад крана, спалоскваючы шклянкі.

Наўмысна ён марудзіў выключаць кран. Напор вады і плёскат ад наўмысна падстаўленых пад струмень рук раздражнялі Лесю, перашкаджалі думаць аб сваім.

— Ды выключыце вы ваду! — выгукнула яна, шпурнуўшы недакуркам у Корбута, трапіла ў ракавіну. — Даруйце, я не хацела, — апусціла вочы.

— Нічога, — сумна ўсміхнуўся Корбут. — Спаць вы можаце на канапе ў пакоі Вадзіма. Пасцель у шафе.

— А вы дзе? — наіўна вырвалася ў Лесі.

— Я — у сваім кабінеце. Там таксама канапа. Добрай ночы, — прамовіў Корбут і накіраваўся да сябе.

Леся, не ведаючы, што ёй рабіць, доўга не магла зрушыцца з месца. Яе зацікавіў гэты суперсучасны мужчына, які не задае лішніх пытанняў, але паводзіны яго да таго непрадказальныя, што яна гублялася. Да таго ж, Вадзім падкрэсліваў, што яго брат пісьменнік, а Леся, да свайго сораму, не чытала ніводнай яго кніжкі. Можа, гэта і да лепшага. Яна ж не абавязана чытаць усё, што трапляе на вочы, ці ўсіх, пра каго чула…

— Як вам мой новы ліфон? — раптоўна з'явілася перад ложкам Корбута Леся. З задраным пад горла швэдарам, на сонную зусім не падобная. Не чакаючы адказу, задаволеная сабой, яна скінула швэдар і юркнула да Корбута пад коўдру. Ад нечаканасці, здзіўлення і непаразумення Корбут інстынктыўна адсунуўся да сценкі, ці-то спалохаўшыся, ці-то даючы месца побач дзяўчыне.

— Чаго вы спалохаліся? — прашаптала Леся, намацаўшы яго нагу, але не падсоўваючыся бліжэй.

— Па-мойму, — хрыпла, не валодаючы голасам, прамовіў Корбут, — вы перабольшваеце меру паводзінаў у гасцях, спадарыня.

— Прызнайцеся, што вы не гэта хацелі сказаць, — падымалася яна рукой уверх па назе Корбута.

— Калі ты зараз не пакінеш гэтае памяшканне, я цябе выстаўлю голай за дзверы, у пад'езд, — паволі, але пагрозліва, вымавіў Корбут.

Леся адкінула коўдру, села, звесіўшы ногі:

— Добра, добра. Нават пажартаваць нельга…

Хутка дзяўчына зашлёпала па падлозе да ваннай.

— Між іншым, — ужо адтуль пачуўся ейны голас, — ужо шэсць гадзінаў раніцы.

Корбут не паверыў, бо было яшчэ цёмна, але праз колькі хвілінаў зайграла радыё.

Уставаць не хацелася, хаця звычайна Мікіта Корбут падымаўся разам з радыё, каб пачытаць і напісаць нешта на свежую галаву…

Леся ні ў якім выпадку не адчувала сябе чужой у кватэры Корбутаў, хоць і трапіла сюды ўпершыню — і ніколі не перажывала за свае паводзіны. Яна лічыла, што так і трэба, бо жыла эмацыйнымі імпульсамі…

Леся дакурыла (на халяву яна курыла шмат), прайшла ў пакой, дзе яшчэ зусім нядаўна спаў пісьменнік Корбут, які цяпер плёскаўся ў ваннай ці прымаў душ. Дзіўна… Па ідэі, з'яўляючыся дзяўчынай малодшага брата, яна больш ведала пра старэйшага. Не так ужо і шмат, калі падумаць, але дастаткова, каб легчы з ім у ложак. Жарт. На самай справе Леся — вельмі добрая, прыгожая і цнатлівая дзяўчына. Таксама жарт.

Непрыбраная канапа са змятай падушкай і скамканай коўдрай, што нагадвала зменшаныя ўшматкроць Альпы, яшчэ захоўвала цяпло мужчыны. Можа, не трэба было прыбіраць пасцель, але Леся любіла ўпарадкаванасць. Упарадкаванасць гаварыла за чалавека і адказвала за яго.

Леся ўзбіла рукамі падушку, прысела, азіраючыся вакол. Яна адчула сябе не ў кватэры з нармальнымі пакоямі і ўмовамі для жыцця, а ў адным з аддзелаў бібліятэкі. Сапраўдную бібліятэку яна наведвала рэдка, але гэта не азначала, што не любіла чытаць. Леся чытала, і вельмі шмат, у асноўным раманы Дзюма, Скота, Купера, Сціл, Шэлдан, але гэта было ў іншым жыцці…

Насупраць яе ўзвышалася магутным целам Геракла кніжная шафа-сценка, і імёны аўтараў кніг, што знаходзіліся ў ёй, яна прамаўляла, як вершы, бо ніколі не чула пра іх: Бадлер, Рэмбо, Апалінэр, Стэндаль, Бавуар, Сартр, Зюскінд, Керуак, Кундэра, Амаду, Бёлль, Кафка, Хакслі, Пруст, Картасар, Саган…

На паліцах, побач з кнігамі, стаялі фотакарткі, на якія Леся спачатку не звярнула ўвагі, бо не ўбачыла ніводнага знаёмага твара. Яна пальцамі, як некалі ў дзяцінстве палкай па жалезным плоце, з незразумелай захопленасцю праводзіла па тоўстых тамах. Яна раней не магла ўявіць, што столькі кніг (!) могуць належаць аднаму чалавеку. Гэта ж які ён павінен быць разумным!..

Ля балкона месціўся тэлевізар на жалезнай падстаўцы ў выглядзе нагі ці лапы. Ля балкона, насупраць тэлевізара, знаходзіўся і стол, завалены спісанымі аркушамі паперы, пад якімі, як з-пад снегу — колы аўтамабіляў, выглядвалі кругленькія ножкі-бочачкі пішучай машынкі.

Леся ўзяла адну старонку, але нічога не магла разабраць з напісанага. Почырк у пісьменніка быў дзярмовы, што парадавала дзяўчыну, бо ейны заняў бы першае месца па прыгажосці почыркаў, калі б існаваў такі конкурс.

На два фатэлі, што стаялі паабапал стала, былі звалены падшыўка «Ліма» за 1978 год (першы фатэль) і стосы капіравальнай паперы розных колераў.

Стол перастаў Лесю цікавіць пасля таго, як яна зразумела, што піша ў мільён разоў прыгажэй за Корбута, і яе зацікавілі фотакарткі з кніжнай сценкі. Спачатку Леся толькі разглядвала твары і адзенне, потым на адным фотаздымку пазнала Корбута, яшчэ маладога, але такога ж барадатага. Ён быў не адзін, а ў кампаніі двух маладых людзей. Як жа дзяўчына здзівілася, калі ў другім хлопцы разгледзела зорку расійскага кінематографа, душку-гардэмарына Дзіму Харацьяна! Мікіта Корбут спакойна абдымаў яго за плечы, усміхаючыся ў фотааб'ектыў. На другой фотцы Корбут сядзеў за рулём матацыкла, а ў люльцы, з цыгарэтай у роце, — Карачанцаў! Пра акцёраў Леся ведала шмат чаго, і збірала альбом з іх фотакарткамі. Фантастыка нейкая!

Далей Корбут усё часцей быў у вайсковай форме і з аўтаматам у коле сяброў, на бране БТРа, ля верталёта, а вунь — параненым, у бальніцы, з кветкамі і сябрамі…

З суседняга пакоя пачуўся грукат падаючага цела, затым брыдкая лаянка і хуткае шлёпанне босых ног да прыбіральні, пасля спецыфічны гук, што нараджаецца ў горле чалавека, калі яго ванітуе.

Леся зморшчыла носік, як далікатная кошачка.

Корбут усміхнуўся, калі яго брат зазірнуў у кабінет у забруджанай майцы, з ускудлачанымі валасамі і невідушчым позіркам.

— Мікіта, мяне няма дома, — прамовіў ён; Лесю, відаць, і не заўважыў, і пашлёпаў да сябе.

— Як мне надакучылі п'яныя пысы, калі б вы толькі ведалі! — выдала дзяўчына.

— Мне таксама, — падтрымаў Корбут. — Радуе толькі тое, што нехта трывае мяне п'янага, пагэтаму крыўды адно на 50 працэнтаў. Дарэчы, падсілкавацца не жадаеце? — пацікавіўся.

— Ваш брат адбіў усю ахвоту, — адказала Леся.

— А я, на шчасце, — рассмяяўся Корбут, — магу есці ў любых абставінах. Хадземце на кухню, складзеце мне кампанію…

За колькі хвілінаў Корбут прыгатаваў яешню — любімую страву, хаця яйкі з'яўляліся дэфіцытам, як некалі соль. У крамы іх прывозілі ўдзень, а чарга выстройвалася яшчэ з трох гадзінаў раніцы.

— Вы вельмі смачна гатуеце, — не прымушала больш сябе ўгаворваць Леся і ў спешцы апякла язык.

— Не спяшайся, — ласкава прамовіў Корбут, любуючыся, як дзяўчына колькі разоў дзьмухае, астуджваючы кавалачкі яешні, затым асцярожна іх перажоўваючы. Леся была падобная цяпер на звычайнае галоднае дзіця. У каторы раз Корбут пашкадаваў, што ў яго няма дачкі.

— У вас столькі кніг, — сказала, каб не маўчаць, дзяўчына. — Вы, мабыць, усе іх прачыталі?

— Далёка не ўсе, — усміхнуўся Корбут, — але большую частку.

— Добра вам. Я таксама хацела б мець столькі кніг і чытаць… Я, ведаеце, у дзяцінстве, гэта мне мама расказвала, на пытанне, кім хачу стаць, калі вырасту, адказала — чытачом. Уяўляеце? Усе здзівіліся. Пачалі тлумачыць, што такой прафесіі не існуе, а я стаяла на сваім: буду чытачом і кропка.

Зазваніў тэлефон.

Гэта быў Цімашэнка. І ён зваў Корбута пад'ехаць да Дома літаратара.

— Леся, — кінуў Корбут дзяўчыне, — ты пакуль можаш выбраць сабе кнігі.

— Якая Леся! — абурыўся ў трубку Цімашэнка. — Ты чуў, што я сказаў?

— Ды гэта я не табе, — усміхнуўся Корбут. — Што ў цябе здарылася?

— Не тэлефонная размова, Мікіта, — адказаў Цімашэнка, — але вельмі важная. Мне патрэбна твая дапамога, неадкладна.

— Добра, не панікуй. Калі да цябе прыехаць?

— Як мага хутчэй.

— Зараз, ці што?

— Лепей было б, калі зараз.

— Добра, чакай, — Корбут паклаў слухаўку і прайшоў у кабінет, да Лесі. — Ну, выбрала?

— Ой, разумееце… — разгублена вымавіла яна. — Тут столькі шмат усяго…

— Тады я сам табе выберу, — сказаў Корбут. Колькі секунд ён, мружачы вочы, углядаўся ў назвы кніг, пасля выцягнуў дзве. — Як наконт гэтых? — падаў ёй. — Гэта былі «Лаліта» Набокава і «Выбранае» Франсуазы Саган. — Пачнем з лёгкай класікі? — падміргнуў.

— Можна, — падміргнула Леся ў адказ.

На пытанне, ці застанецца яна ў кватэры, бо Корбут сыходзіў па справах, Леся адказала, што ёй таксама трэба збегчы.

Яны выйшлі разам. Корбут правёў дзяўчыну да аўтобуснага прыпынку. Праз хвіліну прыйшоў транспарт.

— Ну, — усміхнуўся Корбут, — ты ведаеш, дзе я жыву. Заходзь.

— А не прагоніце? — загадкава ўсміхнулася Леся.

— Не, — усміхнуўся і Корбут.

…Леся доўга думала, ці пацалаваць яго на развітанне, ці не, і шафёр аўтобуса ўжо, мабыць, дзверы зачыняў… Дзяўчына падбегла да Мікіты і моцна пацалавала ў шчаку, пакінуўшы на ёй след ад губной памады, як аўтограф.

ШУФЛЯДА

# ІМКНЕННІ

Сяргей ВЕРАЦІЛА

**Жыццё пераваліла за палову, і ўспаміны ўжо можна вымяраць на дзесяцігоддзі.**

І чым надалей адсоўваюцца юнацкія гады, тым больш каштоўнымі падаюцца згадкі пра іх. І кожную такую згадку я замілавана пешчу ў душы, нат не спрабуючы дакрануцца да яе бязлітасным скальпелем аналізу, а толькі сэрцам. Бо юнацтва якраз і з'яўляецца ў нашым жыцці эпохай сэрца, калі кожная ідэя падаецца рамантычнай, а рыцарскія ўчынкі запатрабаваныя на кожны дзень. Любая падзея здаецца радыкальнай і канчатковай, дробная крыўда можа быць успрынятая як здрада, а варожасць выбухае з-за неасцярожнага слова. Сяброўства ў тую пару здаецца назаўсёдным, вечным, і смерці няма, а калі і ёсць, то яна не наша, а калі мы і памрэм, то гэта абавязкова будзе прыгожа. І каханне нараджаецца з аднаго позірку нібы само па сабе і запаўняе значную частку жыцця, а, зрэшты, у часы юнацтва і само з'яўляецца жыццём.

Мы пазнаёміліся ў васьмідзясятым, дай Бог памяці якім годзе, і я не бяруся сцвярджаць, што чвэрць стагоддзя тут выступіць у якасці дакладнай лічбы. Мы адразу глянуліся адзін аднаму і адразу знайшлі шмат падабенства. Кожны з нас быў таленавіты і бязмерна захапляўся жыццём у ягоных шматлікіх праявах. Я добра яго памятаю: рослы, за метр дзевяноста, з вялікімі і дужымі рукамі, у якіх жыла неймаверная моц, вочы ягоныя, здавалася, увесь час выпраменьвалі жыццёвасць, нібыта ў іх перацякла ўся моц ягонага роду і ягонай шацілкоўскай зямлі. Валасы не прызнавалі грабяня, яны кудлаціліся як хацелі, і з-за іх у спалучэнні з ростам ён выдаваў на дрэва, адначасова нагадваючы і клён, і граб. І дух у ягоным целе жыў высокі і імкнуўся яшчэ вышэй. Думкі ягоныя былі чыстыя, учынкі імклівыя і беззаганныя, хоць часам выдавалі на няўклюдныя, але гэта без пытанняў можна спісваць на ўзрост. Ён лёгка прыцягваў да сябе сяброў, а пра дзяўчат я ўжо і не кажу. Ягоны твар быў настолькі абаяльным, што яго нават можна было назваць прыгожым. У сваім сэрцы ён насіў адвечную і невылечную, нібыта смяротная рана, прагу па ідэале.

А яшчэ ён пісаў вершы. Хаця хто на філфаку не пісаў тады вершаў. І мяркую, што не толькі тады, а і цяпер шмат хто псуе паперу, зрок і час. Для яго складанне словаў у радкі было сапраўднай патрэбай, паэзія была для яго тым адсоткам кіслароду, без якога ён папросту б задыхнуўся ў тутэйшым паветры. Ягоная неўтаймаваная натура не жадала мірыцца з агульнапрынятым альбо, лепш сказаць, афіцыйным стаўленнем да свабоды. А ён, здавалася, штохвілінна прагнуў свабоды і быў насамрэч свабодным чалавекам, а быць свабодным пры тым ці іншым ладзе ёсць раскошай, а гэта, як любы від раскошы, можа быць даступна толькі абраным адзінкам і каштуе гэта нямала. Колькі людзей прагнула свабоды і колькі засталося зламаных лёсаў і загубленых жыццяў на гэтым шляху да халодных вышыняў. А ён шукаў свабоду ва ўсім, і сапраўды цяжка было ўявіць тую галіну чалавечай дзейнасці, куды б не палягалі ягоныя інтарэсы. То ён кідаўся ў спорт, а пры ягоных фізічных дадзеных спорт даваўся яму лёгка і неўзабаве пераставаў яго цікавіць, то ён збіраўся вучыць якіясь замежныя мовы. А то ён раптам запальваўся ідэяй спасцігнуць усе навукі, і тады на нейкі час асядаў у бібліятэцы за тоўстымі кнігамі…

Ён сядаў за тоўстыя тамы, і ягонымі сяброўкамі рабіліся то гісторыя, то філасофія, на некаторы час адсоўваючы ўбок сябровак жывых. Тады шмат каму з нас падавалася, што толькі кнігі здатныя адказаць на вечныя і балючыя пытанні пра жыццё і смерць.



А было яшчэ адхланне і пал начных размоваў, якія мы тады называлі спрэчкамі. Адны па чыталках з падручнікамі зараблялі сабе беспраблемныя сесіі. Іншыя пілі віно і нават умудраліся ладзіць напаўдазволеныя вечарынкі па пакойчыках. А былі яшчэ душы апантаныя, я б сказаў, творчым неспакоем. Усе яны шукалі і звычайна знаходзілі такіх жа апантаных творчым неспакоем. І вось яны сыходзіліся ці то ў патаемных глыбінях калідораў, ці то проста ў чыім пакоі, дзе былі не супраць паслухаць мясцовых аратараў і паэтаў; хоць якая, а забаўка ў даволі аднастайным існаванні, і пачыналіся размовы. О, гэта былі грандыёзныя бітвы, дзе сыходзіліся не на жыццё, а на смерць сапраўдныя тытаны розуму і духу, і тады ставіліся сусветныя праблемы і тут жа лёгка вырашаліся, тут узнікалі і тут жа рассыпаліся самыя дзёрзкія тэорыі, тут нават самыя смелыя словы не падаваліся такімі ўжо смелымі, і самыя прагрэсіўныя ідэі выглядалі калі не на рэтраградныя, то хаця б на кансерватыўныя. Але не адны толькі знаўцы тэорыяў і майстры спрэчак сыходзіліся на гэтыя аждаранічныя спрэчкі, зразумела, бывалі там і факультэцкія паэты. А той-сёй з іх чытаў свае вершы, насмельваўся далёка не кожны, бо крытыка магла быць проста знішчальнай. Ды і не ўсе з прачытаных там вершаў маглі быць надрукаванымі з абсалютна розных прычынаў: адны з-за іх відавочнай слабасці, як звычайна называюць вершы невялікай мастацкай вартасці, а іншыя з-за таго, што не супадалі з афіцыйнай ідэалогіяй у асноўным з-за «эстэтычных рознагалоссяў».

У вершах майго сябра, як і ў шмат каго з іншых, не было абыякавага дысідэнцтва, а толькі неўтаймаваная прага да свабоды, што выражалася і ў разняволенасці радка, і ў своеасаблівасцях мовы, і ў нестандартнасці вобразаў, але майго сябра і без гэтага нельга было назваць стандартным. І калі даходзіла ягоная чарга чытаць вершы, то ён неяк па-асабліваму закідваў сваю калматую галаву, ягоныя вочы пачыналі агнець яшчэ больш і высокі голас паміж заіканнем і захлынаннем прымушаў забываць пра хібы. Нібыта Хлебнікаў ажыў і прыйшоў на нашую зямлю, каб зноў агалошваць свае цьмяныя прароцтвы, дзе птушыны гоман пераклікаўся з чалавечым спевам, а звыклыя словы выглядалі, мякка кажучы, недарэчнымі. І неяк само па сабе думалася: глухая ноч, вогнішча, расфарбаваныя твары і калматы шаман-правадыр камлае пра пакутлівыя вандроўкі душы. А яшчэ думалася пра нож. Нават не прыгадаю чаму…

Свае вершы ён складаў па-расійску, можа быць, ад таго, што вырас ён хоць і ў правінцыйным, але не маленькім горадзе, у Шацілках, якія на той час пераўтварыліся ў Светлагорск. А можа, яму падавалася, што шлях у сусветную культуру пралягае для нас праз расійскую мову, і, можа, збольшага гэта і было праўдай. А ці мала хто з нас не выпрабоўваў свае літарацкія здольнасці праз расійскую мову. І ў той ужо амаль ці не легендарны час і Зянон, і Караткевіч кожны па-свойму засявалі глебу беларушчыны, і першыя парасткі, няхай яшчэ і кволыя, рунелі ў маладых, адчыненых і трапяткіх душах. У розных гэта было па-рознаму і дало розны плён, які ўжо потым некаторыя назавуць другім Адраджэннем. Тады па інтэрнатаўскіх пакоях хадзілі і «Гісторыя» Ластоўскага, і «Геаграфія» Смоліча, і скандальна-знакаміты рэферат Бембеля. І пакрысе нараджалася адчуванне, што твая Радзіма не ад Калінінграда да Уладзівастока, а ад Буга да Сажа, а самыя дапытлівыя ведалі, што гэта яшчэ і Вільня, і Беласток, і Смаленск. І з вуснаў у вусны перадаваліся звесткі пра закатаваную ў трыццатыя гады нацыю і пра залаты час нашае мовы, культуры і гісторыі, пра эпоху нашых вялікіх князёў і асветнікаў, пра што амаль зацята маўчалі нашыя падручнікі.

І мой сябра, таксама падхоплены гэтым хай яшчэ і не агульным уздымам, аддаў сваёй Радзіме кавалачак сваёй узнёслай душы. Шэсць вершаў…

…Пакрысе адплываў час, ва ўсіх з'явілася сваё жыццё, адны звязы распадаліся, іншыя ствараліся нанова. Сціралася памяць пра былое, бо новае ўрывалася ва ўсе поры жыцця, і вось ужо ці не пятнаццаць гадоў я не маю аніякіх звестак пра майго сябра, хоць і спадзяюся, што ў яго ўсё добра. Перада мною гэтыя вершы, што захаваліся цудам, бо прапала, знікла, раструшчылася шмат чаго іншага важнага, балючага, дарагога і ўжо зусім незваротнага… І калі раптам твае вочы якім цудам натрапяць на гэтую публікацыю, то хай яна паслужыць табе прывітаннем.

## Уладзімір ТАМАШКОЎ

### Да Бога

*Ты даў жыццё таму, хто не ведае, дзеля чаго яно дадзена і што з ім рабіць.*

*Скажы мне:*
*што мяне чакае,*
*Нап'юся глёкатам крыніц?*
*Ці трэба*
*тое, што шукаю*
*Таму, хто заўтра ляжа ніц?*
*Скажы мне:*
*буду ці не буду*
*Я здзіраванелым языком*
*Казаць пра тое,*
*што забуду,*
*Як смачна спаць*
*пад ручніком.*
*Скажы мне:*
*шчасце ці няшчасце?*
*Скажы мне:*
*неба ці зямля*
*Таму, хто так не хоча ўпасці,*
*Не бачачы свайго ралля.*
*Навошта ноч, скажы, ад Бога?*
*Навошта дзень, скажы яму.*
*Навошта мне мая знямога?*
*Жыццё навошта,*
*і каму?*

### Імкненні

*(слабога чалавека)*

*Імкнуся йсці —*
*куды не бачу.*
*Імкнуся дыхаць —*
*няма чым.*
*Імкнуся плакаць —*
*і не плачу,*
*Бо плакаць мне*
*няма па чым.*
*Смяяцца мушу —*
*быць шчаслівым,*
*Не бачыць шчасця*
*мне павек.*
*Так і жыву,*
*як цень маўклівы,*
*Не ведаю —*
*ці чалавек…*
*Што дзень —*
*то новыя імкненні.*
*Імкнуся спраўдзіць*
*гэты час,*
*І ў палымяным абурэнні*
*Гляджуся ў твар*
*сваіх абраз.*
*Забыў — імкненням дзе пачатак.*
*Ці будзе ім калі канец?*
*Дзе ж тут не ўспомніць без аглядак,*
*Чыёй ты мудрасці вянец?*

### Да шчасця

*У ноч*
*што нарадзіўшы з целам жаданні*
*Дала ім рух*
*у нябачнасці спатолі*
*дзе стомленыя зоркі шукаюць выйсця*
*з нябеснага палону*
*у ноч!*
*што дыхае вечнасці клубамі*
*і цешыцца расхрыстанай свабодай*
*не маючы як саўладаць з сабою…*
*Блукаю пацалункамі сляпымі па целе*
*што будзіць прагу да шукання*
*сваёю першароднасцю зямною*
*І слодычу жывога датыкнення стварае свет*
*і будучыню духа*
*што ў слове*
*знаходзіць водгук і трыванне*
*І поўнячыся прагай нядольнай*
*да вуснаў дакранаюся чуллівых*
*знайшоўшы выток спрадвечнай еднасці*
*стварыўшай чалавека.*

### Бяскрылы Ікар

*(Сон)*

*А можа мне ўсё здаецца*
*Што пройдзе мой тужлівы сон*
*Што да чаго душа імкнецца*
*ўжо не палон, так, не палон…*
*А можа шлях будуе зорны*
*Зор не кранаючы рукой*
*А можа мой удзел пакорны?*
*І досыць цешыцца маной!..*
*А трэба з галавой пахілай*
*Мне сунуцца аж да знямог*
*А можа я чужой магілы*
*Пераступіць хачу парог?!*
*Пачуй: завуць ужо званы*
*Бо нас няма!*
*ёсць толькі сны…*
*І крылам не ўтрымаць*
*З труны паўсталага Ікара*
*Ці незамнога крылам мара?*

### Камень

*Адвек шкрабуся супраць плыні*
*Упарта змагаючыся з ёй*
*Толькі думаю*
*Што знішчаю яе мрояй*
*Бо цалкам залежу ад яе*
*Вартасць змагара*
*Зваротна прапарцыянальна*
*Моцы ворага*
*Знаходжу ў сабе невядомыя дасюль сілы:*
*— Хвала плыні*
*Якая хоча мяне знішчыць!*
*Але ж куды я імкнуся?*
*Хіба не сляпота імкнуцца да таго*
*Што насылае перашкоды*
*Гэтаму імгненню…*
*Можа таму яно і ёсць?!*
*Што ж ёсць рух і сэнс*
*Альбо яно самамэта?*

**АПАВЯДАННЕ**

# ГНОМІКІ

**Кузьма ВЯСЁЛЫ**

Набліжаліся выбары. Ва ўсе дзяржаўныя ўстановы Халуёўскага раёна ў экстраным рэжыме завозіліся партрэты любімага Кіраўніка, каб народ не зблытаў свайго збавіцеля і героя з апазіцыйнымі злыднямі, якія не паважалі вусатых дзядзькаў і не гулялі ў шахматы. Але Ён і без таго пачуваў сябе непераможным — па тэлебачанні штодзень ненавязліва вучылі, як правільна галасаваць. Асаблівая роля ў гэтай кампаніі адводзілася СМІ. Не стаялі ў баку ад важных палітычных падзей і сацыяльна актыўныя пісьменнікі.

Невыпадкова начальнік інфармацыйнага аддзела райвыканкама Аляксандр Корч прызначыў у сябе пазачарговую планёрку для рэдактараў мясцовай прэсы, а ў тутэйшым Доме надзённых задач — сход творчай інтэлігенцыі (членаў Саюза пісьменнікаў), на які меўся завітаць нават яго абласны старшыня, вядомы празаік-інтэлектуал, генерал у адстаўцы Мікалай Хамяк.

***

— Таварышчы рэдактары, — пачаў планёрку Корч, які ў мінулым быў лётчыкам. — Перад намі стаіць важная задача: «Перамагчы!». Мы на парозе эпахальнай падзеі, якую неабходна не толькі ўсебакова асвятляць у друку, але і асэнсоўваць у маштабах Сусвету. Я ўважліва сачу за нашымі газетамі...

У кабінеце затоена бегалі вочкамі і дружна пацелі два рэдактары. Ігар Дрозд узначальваў «раёнку» «Вясёлая Халуёўшчына», з дзяцінства марыў пайсці на пенсію і нічога не рабіць і ўвесь час ціха чакаў, калі за ім прыйдуць. Пісаць ён не ўмеў, палову жыцця прасядзеў у аргаддзеле райвыканкама, соўгаючы паперамення шуфлядамі і пераносячы з кабінета ў кабінет паперы. Трапіў пад скарачэнне — і пайшоў рэдактарам. Апошнім часам Корч быў ім дужа незадаволены: няўхільна падаў тыраж, а Дрозд баяўся яго паднімаць, каб абы чаго не выйшла. Спіна мокрая, пульс страшэнны... Адна думка: «Не забыць і не пераблытаць задачы кіраўніцтва, а то...».

Другі рэдактар — Кныраслаў Пойла — узначальваў гарадскую газету «Халуёва сёння». Каб не баяцца ўсяго, як Дрозд, які капітальна пасадзіў на гэтым сэрца і нервы, Кныраслаў Пятровіч штодзённа налягаў на гарэлку. У кабінеце на сцяне побач з графікам дзяжурстваў па газеце вісеў спецыяльны графік па ўжыванні спіртных напояў: калі, колькі, ад чаго і ад каго...

Пільныя ветэраны сачылі за гэтым і нястомна інфармавалі райвыканкам: «...рэдактар пастаянна і страшэнна п'яны, у алкагольным бяспамяцтве туляецца ў адных трусах па Доме надзённых задач, публікуе толькі сабутэльнікаў...». Але ніхто на гнеўныя скаргі пакуль не рэагаваў — хутка выбары. Нягледзячы на тое, што на стале Карча ляжаў чарговы стос ананімак (гэткі кампрамат на перспектыву), Пойла добра зарэкамендаваў сябе ў папярэдніх інфармацыйных баях...

— Аналіз апошніх нумароў газет паказвае, — працягваў Корч, — што вы ў цэлым правільна разумееце задачы сучаснасці і кіруючую ролю Самога ў цудоўным жыцці народа. Аднак палітычныя акцэнты варта ўзмацніць, наблізіць да электарата, паказаць, што ў раёне на ўздыме эканоміка, а загады зверху выконваюцца і перавыконваюцца. Будуюцца стратэгічныя аб'екты: сажалка для веславання, лядовая ферма... Вялікая шкода — п'янства. Дарэчы, ці адсочваюць журналісты выкананне Дырэктывы на месцах, а-а? Нешта не бачу актуальных публікацый...

«Так-так-так, — заёрзаў Пойла, — улез, як у лес».

— Пр-р-ра алклагамізм... аклагалізм... — бубнеў рэдактар, макрэючы ад хвалявання, — м-мы п-пішам д-дужа многа, бо яго і сапырды ў нас ш-шмат... Аб-бяцаю п-пісаць яшчэ шырэй і глыбей... Тэма — невычпрн... невыпрэнч... не-вы-чэрп-ная... У-ух...

«Цьфу! — уздыхнуў Пойла, — каб выпіў, было б спакайней...»

— А ў нас, — з гонарам адзначыў Дрозд, — ёсць штомесячная тэматычная старонка «Дзяржаўная дыяганаль», прысвечаная адмоўным фактам нашага цудоўнага і беззаганнага жыцця. Мая газета заўсёды ў лідарах па новых інфармацыйных тэхналогіях. Зараз на колер пераходзім, на 62 паласы. Пішам цікава, жыва і займальна. Справаздачы ў 40-старонкавых спецвыпусках, новыя тэхналогіі надояў і прывесаў у дэталях і схемах з парадамі акадэмікаў, навуковы вываз гною на палеткі, выступленні начальнікаў і адабральныя водгукі на іх... Каб чыталася весела!

— Дык нездарма ж ваша газета называецца «Вясёлай Халуёўшчынай», — падкрэсліў Корч. — Трэба адпавядаць, трымаць высокую марку...

— Імкнёмся, Аляксандр Іванавіч! Учора завезлі партрэты, дык развесілі дзе толькі змаглі: у кабінетах, калідорах, туалетах, падвале, ліфце... У маім кабінеце ажно чатыры на кожнай сцяне! Усё роўна лішнія засталіся. Каб не прападалі дарэмна, дамоў узяў, на дачу... У гаспадарцы спатрэбяцца...

— Правільна! — важна адзначыў Корч. — Яны яшчэ нікому не пашкодзілі. Закажу дадатковую партыю. Бачу: ажыятаж страшэнны. Там ацэняць такую работу! План па партрэтах мы даўно перавыканалі. Няхай у суседніх раёнах локці кусаюць ад зайздрасці і нашай стараннасці. Наперадзе — сацыяльны стандарт па шахматах і шайбах. Спорту — усё!

Корч ставіў бясконцыя задачы:

— І надалей шырока адлюстроўваць барацьбу з бюракратызмам, штотыдзень здаваць у аддзел справаздачу аб гэтым змаганні на 120 старонках. Патрабуе вялікай увагі прынцып «адных дзвярэй», каб народ ведаў, адкуль хутка выходзіць ад начальства, каб не замінаць яму ў напружанай барацьбе з бюракратызмам. Аперацыя «Чыстыя рукі» скіравана на гігіенічны воблік механізатараў. Як бачыце, задач многа, а вы адны. Не забывайце і пра ідэалогію, бо які вецер, такая і яна. Уважліва сачыце за цэнтральнымі метэазводкамі. І апошняе. Павышаная ўвага да мясцовых пісьменнікаў. Яны — ідэалагічныя рупары сістэмы. Друкаваць і ўсяляк падтрымліваць! Большасць літкадраў працуюць у вашых газетах. Пісаць яны добра ўмеюць. Ого-го-го!

Пасля планёркі Корч з палёгкай каўтнуў каньячку і шчасліва ружовашчокі пайшоў на нараду да старшыні райвыканкама, напяваючы па дарозе любімы матыўчык «Толькі ў палётах жывуць самалёты...».

***

У актавай зале мясцовага Дома надзённых задач было шумна. Збіраліся члены раённага аддзялення Саюза пісьменнікаў. Усе як на падбор — стандартныя метр сорак, каб нідзе не вытыркаліся. Гномікі. 40 штук. Іх старшынёй быў вядомы літаратар «ад сахі і плуга» Анатоль Гладкі, аўтар нашумелай пенталогіі «Мухамор». Кожны імкнуўся пацiснуць руку мэтра і прызнацца ў любові да яго «жыватворнай і шматграннай творчасці», як пісала аўтарытэтная газета «Вясёлая Халуёўшчына».

Ад славутага рэпарцёра-нарысіста Міколы Клопікава моцна смярдзела: ён рэдка мыўся і не зважаў на жоўтыя, да каленяў, плямы на шырокіх штоніках. Калегі па літцэху называлі яго чалавекам-радыё, бо той пастаянна нешта бубнеў — пра надоі, цялушак, шпіёнаў, якія (яму здавалася) нястомна за ім сачылі...

— Чытаў-чытаў, Анатоль Кузьміч, вашу новую лірычную аповесць «Гумавая баба». Гэта шэдэўр! Кхе-кхе-кхе... Умееце ж пісаць, каб вас трах-цібідох... Дагэтуль нейкі ўзбуджаны хаджу...

— Дзякуй, — чырванеў ад радасці і патаемнага гонару Гладкі. — Усё з натуры. Неўміручы сацрэалізм, так сказаць...

Паэт бурапеннага жанру Уладзь Жарабцоў (па мянушцы Валодзька Гарманіст) ужо расцягваў свой інструмент, намагаючыся агучыць чарговую паэму пра калгасных старшынь «Адміралы гнаявых кучак».

Ветэран раённай журналістыкі Жорж Упыровіч, размяняўшы сёмы дзясятак, адчуў раптоўна творчае трымценне і неадкладна ўступіў у шэрагі Саюза, пасля чаго з яго паперла чыстая і цнатлівая паэзія...

Калі ўсе нарэшце сабраліся і сцішыліся, слова ўзяў Гладкі:

— Хачу вас усіх шчыра парадаваць: па выніках мінулага года мы перавыканалі прагнозныя паказчыкі па вяршарадках у сем разоў...

Гучныя апладысменты.

— Улічыўшы важнасць напісанага намі, старшыня райвыканкама вырашыў выдаткаваць грошы...

Гучныя апладысменты.

— ... на выданне штомесячнага 5000-старонкавага альманаха «Творы — Радзіме!», куды ўвойдуць адмысловыя публікацыі раённых творцаў. Каб нас паважалі яшчэ больш!

Доўгія, працяглыя апладысменты. (Ссівелы сакратар аддзялення Пятро Сыч моўчкі сядзеў у кутку залы і старанна занатоўваў, хто колькі апладзіраваў.)

— Ёсць прапанова! — ускочыў Жарабцоў. — Прысвяціць шаноўнаму старшыні па вершы і змясціць паэтычнай падборкай у спецыяльным нумары «Вясёлай Халуёўшчыны». Я ўжо накляпаў:

*Дзякуй табе за паперу і грошы!*
*Наш старшыня — хлопец харошы!*
*Буду заўсёды пісаць я пра вас,*
*А таксама пра лепшы*
*ў раёне калгас!*

Зала ўстала і горача заапладзіравала, падтрымаўшы своечасовую і правільную прапанову.

Вячаслаў Бурбалкін, інспектар па кадрах аддзялення, нават прэзентаваў Жарабцову ў знак глыбокай падзякі свой юбілейны (саракавы!) трылер-блакбастар «Калабок у ботах».

Жорж Упыровіч, не губляючы марна часу, паказаў усім пасведчанне інваліда Хірасімы і ні з таго ні з сяго пачаў дэкламаваць верш:

*Ты чакала мяне ў стажку,*
*На духмяным, квяцістым лужку.*
*Я аблазіў стагі па чарзе —*
*Вілы, падлы, захраслі ў назе!*

— Якая рамантыка! — ускрыкнуў Жарабцоў. — Але ў мяне лепш!

*Я некалі вылез з палескіх карчоў,*
*Дагэтуль кіпіць*
*маладзецкая кроў.*
*Паэзія — сіла мая і любоў!*
*Кахаць цябе ўсюды заўсёды*
*гатоў!*

— «Сексуальны монстр» называецца. Праўда, хораша? — кіпеў Жарабцоў. — Так працаваў над ім — ажно руку паламаў. Два тыдні ў гіпсе прахадзіў...

З-за стала ўстаў Гладкі:

— Таварышчы пісацелі, адну хвілінку! У вас яшчэ будзе час пачытаць адзін аднаму свае высокамастацкія творы. Да нас меўся прыехаць сусветна вядомы празаік, кіраўнік нашага прафесійнага Саюза. На жаль, ён затрымаўся ў Кембрыджыйскім біяграфічным цэнтры... Вось тэлеграма. На правах старшыні агучу павестку сходу. Як вядома, зусім нядаўна стартавала абласная кампанія «Мода на вусы». Бярэм прыклад. Вусы пісацеля павінны быць не карацейшыя. У каго яны не растуць — прыклейвайце. Я не пужаю вас, але папярэджваю: да выбараў кожны пісацель далжон хадзіць з вусамі!

— Згодзен! — важна адзначыў Бурбалкін, пагладжваючы вусікі. — Без вусоў зусім не пішацца...

Пісьменнікі, пабраўшы лінейкі, пачалі актыўна вымерваць у сябе вусы, параўноўваючы з ідэалам.

— Вусы і здароўе ідуць побач, — працягваў Гладкі. — Заўтра ў горадзе пройдзе лыжня на прызы генерал-губернатара, а пасляза ўтра адбудзецца таварыскі матч па шахматах паміж камандай старшыні райвыканкама і творчай інтэлігенцыяй. Вырашана камандзіраваць нас. Гэта гонар. Танцую... цьфу... удзельнічаюць усе!..

***

З газеты «Вясёлая Халуёўшчына»: «...пасля таварыскага матчу паміж камандай «Гномікі» і «Дыяганаль» увесь райвыканкамаўскі апарат трапіў на бальнічныя ложкі, пацярпеўшы паражэнне з лікам 398:0. Фаварытам гульні стаў вядомы паэт-байкапісец Лявон Шпок. Неўзабаве каманда пад яго кіраўніцтвам сустрэнецца з камандай Губернатара. Вернай дарогай ідзеце, пісьменнікі-шахматысты! Не падкачайце!».

***

З газеты «Халуёва сёння»: «Мы ў чарговы раз атрымалі элегантную і яшчэ больш аглушальную перамогу на выбарах. Па афіцыйных падліках, за Светлую будучыню аддалі галасы звыш 120 працэнтаў насельніцтва. Нават пахавальныя ўрны на могілках былі перапоўнены бюлетэнямі. Народная любоў — непрадказальная. Так трымаць! Толькі наперад! Да новых аглушальных перамог!».



Малюнак з www.nv-online.info

**ВЕРШЫ**

# З КНІГІ «НА ВЕЧАР»

**Ян ЛЕАНЧУК**

*Ішлі мы дарогамі*
*пра якія помніць ніхто не будзе*
*матылькі не пацвердзяць праўду*
*а лета тады лашчылася нам да ног*
*здзіўленых неверагодна*

*а цяпер калі боль датыкаецца долу*
*ідзем да абяцанага ўскрайку жыцця*
*цягнем ногі*
*слепнем як лямпа пакінутая на стале*
*толькі б яшчэ адзін крок*
*абы ціша*
*нам заплавіла воскам вочы*

*ідзем*
*забываючы свае імёны*

*і толькі неба дыхае цяжка*
*і час прыстае*
*у здзіве*

*але ідзем яшчэ*
*валачэм ногі*
*і спапялёнае сэрца*
*зямлі слугуе*

***

*вяртаюся*
*а там цісне кашулька*
*цацкі змоўклыя і збалелыя*
*адарваныя рукі лялек*
*пакалечаныя калыскі*
*і алавяны жаўнерык-дэзерцір*
*зарыўся ў зямлю*

*сасніць перамогу над смерцю*
*нават птушкі*
*асалавела завіслыя на небакраі*
*не падаюць голасу*

*вяртаюся ў сны*
*яшчэ не пабляклыя*
*у іх бацькі маладосці самоту ашукваюць*
*датыкаючыся далонямі*

*не выдаюць гукаў радасці*
*дрэвы яшчэ бязлістыя*
*і рака не знесла святаянскія пажаданні*
*а пчала не ўзяла нектар*
*закамянелы ў цукры*

*фатаграфія паблытала фарбы*
*жыццяпісу*
*і смерці*

***

*вясна набліжаецца*
*рукі здранцвелі ад холаду*
*клямкі*
*майго дому*

***

*не ведаў*
*што ўчора чытаў у вачах*
*бы з лемантара*
*прагнозы сэрца*

*кавенька сёння і імгла ўчора*

***

*шукаючы цяпло далоням*
*пад сподам знаходзіў ношку жадобы*
*і згарэлае сэрца*

*і так міналі дні і ночы*

*свет на фотавыявах*



**Ян ЛЕАНЧУК**



Фота В.Казакова

*прэзентаваў жыццё*
*у набрынялых біцэпсах*
*грудзях сіліконавых*
*уздыхах*
*пакрытых ружай світанняў*

*а далоні нецярпліва*
*шукалі яшчэ зямлі*
*не бясплоднай*
*і азалелай*

*абрынутыя ў бяссонне*
*на ўскрайку свету*
*а можа на краі ложка*
*і лістка паперы*
*спачывалі*

***

*мая Сцяна Плачу*
*скамянела ад болю*

*ці пачую*
*твой голас…*

***

*у пустых прыгоршчах*
*скалечаны*
*каляровы абломак*
*мараў*

***

*ужо не запытаюся ў мамы*
*пра аблічча легіянера*
*пакінутае на старым фотаздымку*
*у беластоцкім атэлье Салавейчыка*

*дакранаюся вачэй зацягнутых павалокай*

*пасыпаліся вусы дзеда*
*і парэшткі нафталіну*
*з бляклага здымку*

*на пытанні*
*няма адказу*

***

*словы што крынічылі з жыл*
*не маюць гемаглабіну*
*ані хларафілу*

*застыглыя*
*чакаюць прытулку*

***

*калі-небудзь забракуе слоў*
*вершы будуць мінаць мяне*
*у маўчанні*

*ці буду памятаць*
*што кахаў*
*шукаючы сваю дарогу*

***

*перад тым як Тваё дыханне*
*замкне мае вусны*
*і сны адплывуць у маёй крыві*
*дай мне сілы каб зрокам сваім*
*атуліць усё што не здолела сэрца*

*пакінь Божа тое чаго не падараваў*
*маёй Басі калі ад неба мяне*
*хацела адвесці*
*сноў далёкія галасы над лугамі цішы*
*вясновыя надзеі як першы пацалунак*

*маім сынам дазволь каб верш сардэчны*
*на парогах іх хат*
*пільнаваў жыццёвыя ўцехі*

*а потым на небасхіле*
*разнасцеж невялікую брамку*
*у сады зялёныя вечнай любові*

*а сябрам калі ў крыві маёй*
*адчулі тое што сталася запаветам сноў*
*дай Божа каб адтуль*
*цяплом сваіх сэрцаў*
*адагрэлі мае азяблыя і скрушныя рукі*

**Пераклаў з польскай мовы Юрка ГОЛУБ**

АНКЕТА

# «ПРАЎДЗІВЫЯ МАЙСТРЫ-АШУКАНЦЫ»

Уладзімір СІЎЧЫКАЎ

**Юлія Ц. ад імя рэдкалегіі альманаха для неакадэмічных адукацыйных установ з беларускай і рускай мовамі навучання і дапушчанага Міністэрствам адукацыі Беларускага калегіюму «Паміж» папрасіла адказаць на іхнюю анкету. Доўга падступаўся, адкладаў, а потым напісаў за вечар, а на другі набраў на кампутары дый падрэдагаваў, адаслаў па электроннай пошце.**

***1. Якая кніжка ў Вас у дзяцінстве была самай любімай?***

Першыя тры гады правучыўся ў Жодзінскай школе-інтарнаце і не скажу, што чытанне тым часам заўсёды прыносіла асалоду. Нават у трэцякласніка па спіне часам прабягаў халадок перад здачаю чарговае кнігі ў інтэрнатаўскую бібліятэку: строгія бібліятэкаркі не толькі правяралі, ці ацалела кніжка, але й задавалі пытанні, каб праверыць, ці папраўдзе ўсё прачытана.

Калі стаў школьнікам мой малодшы брат, дык маці перавяла мяне ў сярэднюю школу №3, у будынках якой працуе цяпер адзіная ў краіне жаночая (хаця дакладней было б называць яе ўсё ж дзявочай?) гімназія. З таго часу колькі дзён перад вакацыямі чакаў, бо надыктоўваліся і спісы абавязковай да прачытання літаратуры, а наіўна верылася, што кнігі тыя — самыя лепшыя, самыя цікавыя. Але, здаецца, паспяваў прачытваць нашмат болей, таму, можа, і праз гэта мушу насіць акуляры яшчэ з пятага класа. Зразумела, аддаваў належнае купанню і рыбалцы на Плісе, гульням у лесапасадцы пры чыгунцы. Але ж вабілі ўрачыстасцю і стэлажы дзіцячай бібліятэкі, між якіх таямніча і спагадна парыпвалі масніцы. Была ў тым пэўная наканаванасць і святасць. Можа, праз тое, што мясцілася бібліятэка ў былым доме святара, настаяцеля жодзінскай Міхайлаўскай царквы айца Яўгена Зубовіча, які хрысціў і мяне...

А з кніг, не сказаць каб самых любімых, а, хутчэй з тых, што ўразілі і запомніліся, як цэльныя творы, назаву «Рабінзона Круза» Даніэля Дэфо (страшэнна шкадаваў небараку, які пражыў на выспе на самоце дваццаць восем гадоў!) і «Падарожжы Гулівера» Джанатана Свіфта. Праўда, куды пазней, ужо студэнтам-філолагам дазнаўся, што былі тое «дарослыя» творы, але скарочаныя і адаптаваныя для дзяцей! Ну і казкі, казкі братоў Грым і казкі самотнага дацкага выдумшчыка Ханса Крысціяна Андэрсана!

Мабыць, найперш праз беларускія народныя казкі прыйшоў і да беларускага прыгожага пісьменства. А найяскравей запомніліся лынькоўскі «Міколка-паравоз» (відаць, праз тое, што быў галоўны герой, як і я, сынам чыгуначніка!) дый маўраўскія «Палескія рабінзоны» (верагодна таму, што разам з сябрукамі ладзіў я зямлянкі дый буданы, катаўся на лодках і нават спрабаваў запрудзіць рачулку Падждзінку)...

***2. Што натхніла Вас на пераклад менавіта гэтага(-ых) твора(-аў)?***

Калі маюцца на ўвазе пераклады ў кнізе «Качка-дзівачка. Польская паэзія дзецям: выбраныя старонкі з паэтаў XIX — пачатку XXI ст.», дык напачатку было не натхненне, а вытворчая неабходнасць. У выдавецкай справе нярэдка вельмі шчытна пераплятаюцца творчыя і вытворчыя моманты. Так было і тым разам. Укладальніца і перакладчыца Інэса К. да апошняга не здавала рукапіс, а калі рэдактары пабачылі прапанаванае да друку, дык жахнуліся, тым болей што яна катэгарычна адмовілася штосьці правіць і дапрацоўваць <...>

Таму ў выпадку з вершамі з «Качкі-дзівачкі» натхнялі абставіны і тэрміны. Гэта быў выпадак, калі, як кажа адзін мой аднагодак-празаік, проста неабходна было ўперціся пузам у стальніцу і давесці рукапіс да ладу.

***3. З чым Вы звязваеце сучасную тэндэнцыю з'яўлення цэлага шэрагу беларускіх перакладаў дзіцячай літаратуры?***

Згадайма, што пасля сталінскага тэрору і ваеннага ліхалецця пісьменніцкі Саюз налічваў менш за паўсотню сяброў і далёка не кожны з іх займаўся перакладамі. Нацыі спатрэбілася не адно дзесяцігоддзе, каб выгадаваць перакладчыцкія кадры. А сталася гэта магчымым дзякуючы намаганням выкладчыкаў айчынных універсітэтаў і маскоўскіх Вышэйшых літаратурных курсаў, секцыі перакладу і літаратурных сувязей Саюза беларускіх пісьменнікаў, літаратурных суполак «Вавілон», «Тутэйшыя» і іншых, а таксама майстроў-практыкаў і выдавецкіх рэдактараў.

Сёння, дзякуючы набытым незалежнасці і суверэнітэту Беларусі, маладыя людзі могуць вучыцца не толькі ў ВНУ былога СССР, але і ў далёкіх краінах. Некаторыя з іх валодаюць некалькімі, а ў тым ліку і досыць экзатычнымі мовамі, жывуць за мяжою, непасрэдна кантактуюць з тамтэйшымі літаратарамі. Многія самі сталі бацькамі і хочуць, каб лепшыя ўзоры сусветнай літаратуры прыходзілі да іхніх дзяцей без мовы-пасярэдніцы, каб гадаваліся іхнія дзеці ў сваім нацыянальным менталітэце.

І яшчэ адна акалічнасць. Нам пашэнціла, што на Беларусі працуюць некалькі амбасадараў, якія па-сапраўднаму прапагандуюць свае мовы, літаратуры і культуры. Я абсалютна перакананы, што калі б не трыванне і высілкі Пасла Швецыі Стэфана Эрыксана, дык і сёння не былі б збеларушаныя «Карлсан-з-даху» і «Піпі Доўгаяпанчоха» Астрыд Ліндгрэн.

***4. Ці трэба ў некаторай ступені «здзяцінець», каб перакласці або напісаць дзіцячы твор?***



Фота Раісы Шастак

Мімаволі прыгадваецца эсэ Андрэя Вазнясенскага «Мне четырнадцать лет» пра Барыса Пастарнака. У ім сцвярджаецца, што і ста́лы, угановаваны Нобелеўскай прэміяй паэт пачуваўся чатырнаццацігадовым хлапчуком, які не стамляўся рабіць адкрыцці і дзівіцца свету. І наадварот, была адваротная канстанта: не менш тонкі лірык Іван Бунін ужо ў юнацтве быў мудры і абазнаны, нібыта саракагадовы мужчына.

Не трэба літаратару «здзяціньваць», бо нават само слова гэта гучыць некарэктна, як сінонім выразу «ўпадаць у маразм». Трэба заставацца самім сабою. Куды ўжо, да прыкладу, было здзяціньваць Аркадзю Гайдару, які напісаў аповесць «Р.В.С.» у дваццаць два гады?!

***5. Ці ўплывае дзіцячая літаратура на свет дарослых і наадварот? Калі так, то якім чынам?***

Натуральна, што ўплывае, і самымі разнастайнымі шляхамі.

Разам з так званымі дзіцячымі творамі дзеці сталеюць, становяцца падлеткамі, а потым юнакамі і, нарэшце, дарослымі. А хто найчасцей чытае дзятве першыя кніжкі, як ні бабулі з дзядулямі?

Дарослыя пішуць і перакладаюць для дзяцей, а нярэдка выступаюць і цэнзарамі — у арыгінальнай версіі літаратурнай казкі «Чырвоны Каптурок» француза Шарля Перо ўнучка несла сваёй бабулі не толькі піражкі і масліца, але і бутэлечку чырвонага вінца! Тыя ж дарослыя дагэтуль не парупіліся выправіць даўнія недарэчнасці ў перакладзе: дапытлівае дзіця мусіць запытацца, як Папялушка здолела таньчыць у крышталёвых пантофліках, чаму яны не пабіліся ці не скрывавілі ёй ногі?! У старафранцузскім тэксце, паводле заўвагі майго даўняга сябра-перакладчыка і выдаўца Зміцера Коласа, хутчэй за ўсё было падобнае па гучанні (ці напісанні?) слова са значэннем не «крышталёвыя», а «аздобленыя вавёрчыным футрам» пантофлікі.

Дый увогуле трэба было б казаць пра літаратуру дзецям і пра літаратуру пра дзяцей, па магчымасці размяжоўваць іх. Амаль што ва ўсіх рэчах Джэрома Дэйвіда Сэлінджэра ёсць героі-дзецці, але ці дзецям адрасаваныя яны?

З пытаннямі размежавання і з не менш складанымі за яго давялося сутыкнуцца, калі прыйшоў я пасля ўніверсітэта працаваць у часопіс для дзяцей і падлеткаў «Бярозка», а таксама калі здаваў у выдавецтва дзіцячай літаратуры «Юнацтва» рукапіс сваёй першай кніжкі «Гульня ў тастамант» <...>.

***6. Якія творы (дзіцячыя), на Вашу думку, яшчэ неабходна перакласці на беларускую мову?***

За часамі савецкай імперыі віталіся найперш ідэалагічная і выхаваўчая ролі твораў, кнігі павінны былі рыхтаваць да змагання за камуністычныя ідэалы. Эстэтычныя, мастацкія якасці нярэдка ігнараваліся. Дабрабытам, выгодамі і неверагоднымі тыражамі заахвочваліся найперш айчынныя і замежныя літаратары, творы якіх адпавядалі пэўным канонам. Да прыкладу, у бяскрыўднай, здавалася б, казачцы Джані Радары «Прыгоды Чыпаліна» ўсё было вытрымана як след: багатыя (Апельсіны, Мандарыны, Памідор...) выстаўляліся злымі і кепскімі, а бедныя (Чыпаліна-Цыбуліна, Радыска...) — добрымі і кемлівымі пераможцамі.

Таму, нягледзячы на тое, што багаж перакладаў на беларускую мову робіцца ўсё больш важкім, супакойвацца нам не выпадае. Тым болей, што ў арганізацыйна-метадычным плане мы дагэтуль не маем таго, што мелі, скажам, грузіны яшчэ напачатку васьмідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Яшчэ тады там працавала Галоўная рэдакцыйная калегія па літаратурных сувязях і мастацкім перакладзе, толькі ў штаце якой налічвалася амаль 200 (!) чалавек, а таксама кафедра літаратур народаў СССР і мастацкага перакладу Тбіліскага ўніверсітэта.

Але я не стаў бы называць, рэкамендаваць да перакладу канкрэтныя мастацкія творы. Куды важней, на маю думку, было б дбаць пра энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі, катэхізісы, дапаможнікі, кампедыумы і іншую літаратуру non-fiction, а ў тым ліку і перакладную.

***7. Якой традыцыяй перакладу (чысты пераклад або адаптацыя) Вы кіраваліся і чаму? Якое Ваша агульнае стаўленне да гэтых традыцый, іх моцныя і слабыя бакі?***

Нават калі перакладаеш верш ці невялікую навэлу і лічыш, што гэта чысты пераклад, некаторыя рэчы, магчыма незаўважныя, цягнуць у бок адаптацыі. Таму сказаў бы так: няма ні аднаго ні другога ў стэрыльным выглядзе, усё вырашаюць прапорцыі. А іх, бывае, спрабуюць дыктаваць рэдакцыя або выдавецтва, але найчасцей падказвае сам твор, а таксама мастакоўскі густ і вопыт перакладчыка. Перастваральніктворца вырашае, да прыкладу, што спрасціць, далікатна пераказаць у тэксце, а дзе спатрэбяцца дадатковыя тлумачэнні, каментары, гістарычныя або этнаграфічныя даведкі.

Пра гэтыя і падобныя аспекты расказваў і мне, яшчэ студэнту, Вячаслаў Пятровіч Рагойша ў сваіх лекцыях і ў навуковым гуртку перакладу і літаратурных узаемасувязей. А многім практычным хітрыкам, версіфікатарскім прыёмам падвучыў Алесь Разанаў падчас працы над двухтомнай «Анталогіяй грузінскай паэзіі». Неацэнную дапамогу аказаў выдавецкі рэдактар, выдатнейшы стыліст Валянцін Рабкевіч, калі перакладаў я раман «Закон вечнасці» Надара Думбадзэ. Удзячны таксама Ванкарэму Нікіфаровічу і Сяргею Панізьніку за падказкі па перакладах, якія рыхтаваў для альманахаў «Ветразь» і «Братэрства», а Вячаславу Адамчыку за праўкі, якія часам рабіў ён у перакладзеным мною для часопіса «Бярозка».

Лічыцца, што па сіле таленту, асабліва ў паэзіі, тлумач не павінен саступаць аўтару, але я перакананы, што многім грузінскім паэтам пашанцавала, што пераклалі (і адаптавалі!) іх такія віртуозы, як Барыс Пастарнак і Мікалай Заболоцкі.

А ўвогуле літаратурная практыка даводзіць: адаптацыя бывае настолькі глыбокай, што ад аўтара мала што застаецца. Але, як гэта ні парадаксальна, нярэдка на карысць аўтару. У якасці доказу гэтай тэзы прапаную перачытаць некаторыя Барадулінскія перастварэнні.

P.S. Калі выйшаў чарговы выпуск альманаха, Юлія званіла і выбачалася, што ідэя з анкетаю не прайшла, і запэўнівала, што размесціць напісанае па яе замове на сайце часопіса перакладной літаратуры «ПрайдзіСвет», які абвяшчаў: «Ці ёсць большы ПрайдзіСвет, чымся перакладчык? Большы махляр і круцель, крутасвет і штукар? Ён, як праўдзівы майстар-ашуканец, падмяняе чужое сваім, а сам хаваецца ў цяні. Але мы любім гэтыя махлярствы і марым, што наступным разам ён так нас надурыць, што мы й не прыкмецім падмяну».

Але чамусьці не маю жадання падпісвацца пад гэтым гарэзлівым маніфестам, а тым болей звацца «праўдзівым майстрам-ашуканцам».

РЭЦЭНЗІЯ

# ЛЮДЗЯМ НА ДАБРО

Мікола МІШЧАНЧУК

**(Мікола Сянкевіч. Незваротны шлях. — Брэст: Альтэрнатыва, 2012. — 220 с.)**



Чытаю не першую кніжку берасцейскага пісьменніка Міколы Сянкевіча і кожны раз пераконваюся ў пасталенні яго таленту — і мастака, і педагога.

З густам аформленае выданне выпушчана мясцовым, берасцейскім, выдавецтвам. Невялікі тыраж (99 асобнікаў), афсетная папера, на вокладцы пад парывамі ветру-часу хінуцца долу дрэвы. Гэта — мы, людзі. Відаць, доўга думаў аўтар і над назваю кнігі, і над яе афармленнем. І пра агульны і асабісты чалавечы лёс — рух наперад, насустрач ветру, абставінам, праз іх пераадоленне.

Такім ведаю ўжо амаль два дзясяткі гадоў аўтара аповесці «У аперацыйным блоку холадна», рознажанравых твораў, мініяцюр, пададзеных у зборніку паводле тэматычна-зместавага характару ў рубрыках «Вачыма настаўніка», «Жыццё, яго вялікасць…» і «Не толькі жартам». Усе творы прасякнуты клопатам пра чалавека і чалавечнасць, «адкрыты» для працягу свядомасцю чытача. Як, да прыкладу, невялічкая мініяцюра «Часовае і вечнае»: «Дзіця вёскі, іншы раз думаю, а што калі б вызваліць зямлю ад кубічных метраў бетону, каменю і мармуру. Яна, што сотні і тысячы гадоў была падобна чалавеку з завязанымі вачыма, ці абудзілася б, ці вярнулася б да жыцця?.. Што вырасла б на месцы касцёлаў, цэркваў і сінагог? А на месцы пірамід, палацаў тыранаў, турэмных муроў?.. Зарунела б жыта ці адпомсціла б карміцелька блёкатам і дзікімі канаплямі?..».

Проза М. Сянкевіча выдае ў ім спакойны знешне і экспрэсіўны ўнутрана тэмперамент, заклапочанасць маральным станам чалавецтва. Прычым палітра падобнай заклапочанасці надзвычай шырокая, але асноўная на ёй фарба, яе, калі можна так сказаць, дамінантны штрых — абарона дзяцей, дзяцінства, увага да іх духоўных перажыванняў, іх унутранага свету. Вось дзеці знаёмяцца з вясковым гультаём — для іх непазнанай і незразумелай істотай. Спачатку нічога дзіўнага ў ім не заўважаюць («на першы погляд гультай нічым не адрозніваўся ад звычайных людзей: ні жывата, які б дрыжэў, як кісель, ні далоняў-падушак»… Але затым у свядомасці дзіцяці спрацоўвае параўнальны аналіз: гэты чалавек быў вышэй сярэдняга росту, меў «разгорнутыя плечы» (выдатная мастацкая дэталь!), на галаве — капялюш, пад ім — не загарэлы твар (яшчэ адна дэталь), а сяляне-працаўнікі былі «дачасна пасівелыя», з загарэлымі тварамі. І каса ў гультая была «нейкая малаватая, як несапраўдная», і на сенакос ехаў ён не да сонца, а калі яно ўжо высока ўзнялося. Вывад аўтара мініяцюры «Гультай» лаканічны, просты, разлічаны «на выраст» чытацкай думкі: «Добра выхоўвала, цяпер разумею, сваіх дзяцей палеская вёска».

Вясковай педагогіцы, непрыкметнай і шчырай, прысвечана мініяцюра «Заступніца». Пра бабулю, якая абараняе ўнукаўжэўжыкаў перад строгім дзедам, бярэ віну на сябе за правінак (дурэючы, пабілі любімы кубак старога): «То ж гэта я, дзеду, зусім ніякая стала, — апраўдваецца бабуля. — Выцірала стол, зачапіла пасудзіну — вось табе і маеш». Лагоднай усмешкай, нейкім мяккім святлом асветлены дзеянні, падзеі, героі і аповесці, і мініяцюр аўтара. І ў стварэнні падобнай аўры яму вернай памочніцай становіцца родная мова. Звернем увагу на тое, як гаворыць вясковая жанчына: тут і зварот «дзеду», і ідыёмы (не вясковы чалавек так не скажа): «зусім ніякая стала», «вось табе і маеш».

Талент М. Сянкевіча пераважна лірычны. Ды часта лірызм пераплятаецца са шкадаваннем, з інтэлігентнай ды важкай усмешкай. Што і назіраем мы ў мініяцюры «Антракт і кантракт» — пра настаўніцу, якая, нікольні не сумняваючыся, дала дзецям заданне чытаць апавяданне Якуба Коласа «Антракт» (замест «Кантракт»). Вядома, ніхто яго не знайшоў у кніжцы, сама ўрокадаўца выкруцілася і з гэтай экстрэмальнай сітуацыі: «Дрэнна шукалі… Ды што з вамі зробіш». Але ж да гэтага з такім імпэтам тлумачыла «доўбням» і выдатнікам, што антракт — «гэта не што іншае, як перапынак паміж часткамі тэатральнай пастаноўкі…».

Сказаць папраўдзе, пасля таго, як пакінулі нас сам-насам з пераходным (пераломным) часам Іван Мележ, Васіль Быкаў, Янка Сіпакоў, Іван Шамякін, Янка Брыль, засумавалі мы па гуманістычнай, выкананай у лірычнай манеры і рэалістычным стылі новай прозе. М. Сянкевіч працуе ў ключы класікаў, шануе пакінутыя імі традыцыі псіхалагічна паглыбленага пісьма. З кожнай жыццёвай сітуацыі героі пісьменніка і сам пісьменнік, дзе ў «адкрытай» форме (апавяданні «Нара», «Была ў мяне шапка» «Неяк яно будзе»), а часцей — у прыхаванай, «ўскоснай», з адкрытым фіналам (мініяцюры з цыклаў «Жыццё, яго вялікасць…» і «Не толькі жартам») даводзіць думку пра «нестандартнасць», шматграннасць чалавечай існасці. Часцей гэта адбываецца як бы падсвядома, быццам само сабою, напаўсентыментальна ці напаўжартоўна.

У многіх творах М. Сянкевіча апавяданне вольна, нязмушана вядзецца ад імя «Я-суб'екта». У мініяцюры «Лічбы на сэрцы» побытавая сцэнка (здача бялізны ў пральню, дзе не памяняўся інтэр'ер) нарошчваецца нашай свядомасцю да гуманістычнай споведзі пра сціпласць («не дажыў да мяккага крэсла», таму пінжакі «ўвесь час выцерты на адным і тым жа месцы»), пра назіральнасць і кемлівасць нашага народа (мужчыны шасцізначныя біркі на рэчах называюць «лічбамі на сэрцы»), пра перасячэнне шляхоў малазнаёмых людзей.

Падтэкставасць ратуе педагагічныя творы М. Сянкевіча ад навязлівага дыдактызму (падкрэслім!) пры відавочнай прысутнасці ў іх аўтарскага я.

Аповесць «У аперацыйным блоку холадна» — пра вечнае каханне, якое, часта зацятае ў героях, крынічыць, пераліваецца адценнямі смутку, горычы, расчаравання і… радасці. Аўтар не прэтэндуе на шырокае эпічнае разгортванне падзей, абмяжоўваецца вертыкальным зрэзам любоўнага трохкутніка, сямейна-бытавых падзей. Выкладчыку ВНУ Сямёну Кавалю не пашчасціла з абранніцай Таццянай, якая стала маці дваіх дзяцей, але не прытулілася да мужа, беспадстаўна раўнавала. Так паступова Сёмачка ператварыўся ў «паразіта» і «паскуду». Каб не дзеці, сямейны саюз даўно б распаўся. Але… «любоў ратуе свет». Так і тут: светлае каханне да Веранікі спыніла героя ад духоўнай дэградацыі, акрыліла яго, паклікала да актыўнага жыцця. Сталі яшчэ больш блізкімі і дзеці, якія ў канцы аповесці з прачытанага дзённіка бацькі даведаліся пра перанесеныя ім пакуты і радасці. Аўтарскі аповед мяжуецца з ліставаннем, якое дапамагае глыбей раскрыць чалавечыя характары . М. Сянкевіч па-майстэрску валодае дыялогавай формай пісьма. Як і ў творах малой формы, спрацоўвае падтэкст, крынічыць чыстая беларуская мова. «Чудны ты, Сёмачка. Ты ж зморышся», — прамаўляе маці да сына. «Крыўда ўтаймавалася», «маўчанне доўжылася», «перахрысціў на адыход», «прабачаўся за турботы» — апісваюцца паводзіны героя твора падчас сустрэчы са святаром. «Узяла ліст паперы. Слёзы з вачэй ручаём, а я ў слупок стаўлю «плюсы» і «мінусы». Апошніх больш… Прабач за почырк. Дрыжыць рука, нават пад коўдрай не магу як след сагрэцца. У аперацыйным блоку холадна…» — піша каханаму ліст з бальніцы Вераніка…

Мікола Сянкевіч выдаў цікавую кніжку «на добрую навуку» ўсім, каму хочацца жыць светла, адкрыта, па-чалавечы.

ВОДГУК

# СМАК ВІТАМІНУ СМЕХУ

Мікола МІЦКОВІЧ

**Яшчэ да прачытання гэтая даволі ёмістая кніжка ў блакітным пераплёце заварожвае назваю: «Цудадзейны вітамін» (Васіль Жуковіч. — Мінск: «Кнігазбор», 2011).**

Змушае звярнуць увагу, вабіць заглыбіцца ў тое, што пад загалоўкам:

*Існуе, скажу вам смела,*
*Асаблівы вітамін,*
*Мо на цэлым свеце белым*
*Слаўны ён такі адзін.*
*Знікне кісленькая міна,*
*Стрэс не з'явіцца і ў сне*
*Ад жывога вітаміну*
*Пад вядомай назвай — смех.*

Зборнік сатыры і гумару складаецца з двух раздзелаў. Першы — «Смяяцца, каб не гараваць». У ім творы, заснаваныя ў большасці на заганах у норавах і ўчынках людзей і на негатыўных момантах рэчаіснасці. Другі раздзел — «Давайце, творцы, жартаваць». Яго склалі ўражанні паэта ад прачытання многіх сучасных беларускіх вершатворцаў. Улоўліваючы і гумарыстычна ўтрыруючы тое, што характарызуе стыль знакамітых і менш вядомых аўтараў, В. Жуковіч па-майстэрску праяўляе сябе як дасціпны вастраслоў (напрыклад — у пародыі «Закахалася… у лася» на адзін з вершаў Зінаіды Дудзюк).

Але не толькі «навуковая вясёласць» вылучае зборнік. Кранае перш за ўсё надзённасць, грамадзянская скіраванасць першага раздзела. Вершы В. Жуковіча вырастаюць з самога жыцця, ацэнка якога сёння не адназначная. Для паэта найпершае — шчырасць і сумленнасць, пратэст супраць двурушніцтва і няпраўды. Аўтар лічыць сваім абавязкам моваю паэзіі адлюстраваць праблемы людзей абкрадзеных, пакрыўджаных чыноўнікамі-бюракратамі і крызісамі ва ўсіх сферах жыцця. Паэт думае грунтоўна, яго іронія зусім не супадае з «зацверджаным» уяўленнем пра сучасную Беларусь: «Жыццё суцэльны ёсць кірмаш, дзе капітальчык — не міраж…». Утварыліся вышэйшыя і ніжэйшыя ўзроўні дабрабыту, сквапнасць прывяла грамадства да абясцэньвання нормаў маралі. І ўсё гэта — у глыбінях не толькі фінансава-эканамічнага, але і сацыяльнага крызісу, у праблемах выйсця з яго і пошуку будучыні наогул.

Іранічна апісваючы няўдалыя спробы беларускага рубля ўтрымацца на хвалі зменаў у фінансавым моры, В. Жуковіч «вуснамі» грыўні папярэджвае еўравалюту:

*Ты шчасця з ім ніякага не злепіш,*
*адно, глядзі, інфляцыю падчэпіш.*

Яшчэ вастрэйшае драматычнае становішча нашай валюты ў вершы «Сорам беларускага рубля». Эпітэты «хілы», «нетрывалы», «бедны, бледны», «пераляканы», «цень маскальскага рубля», узмоцненыя дзеясловамі «ўпаў» , «ляжыць», «дрыжыць», падкрэсліваюць безнадзейнасць сітуацыі.

А што ж грамадства? Узнікае такое адчуванне, што «тутэйшы люд» упаў у летаргію сацыяльнай інерцыі. В. Жуковіч сродкамі паэзіі спрабуе вывесці яго з такога стану. Назвы многіх сатырычных вершаў сведчаць самі за сябе: «Паказуха», «Біць альбо не быць!..», «Мясцовая цемрашалка», «Пра каўбасы і прамовы», «Варацілава віла» і шэраг іншых. У іх больш горкай праўды, чым гумару і сатыры:

*Гляньце, людцы мае,*
*Чый жа, чый халоп там*
*Беларусь прадае*
*Не ў розніцу — оптам.*

У іроніях В. Жуковіча паяднаныя асабістае і агульнае, трывога і боль, трагедыя чалавека і народа, часу. Яны агаляюць нашую гаротную рэчаіснасць: «Цяжка бачыць, Божа мой, звера ў чалавеку». Не менш (калі не больш) небяспечны чалавек «з рабскім пачуццём», які думае чужымі мазгамі, чалавек без веры. «Мясцовая цемрашалка» не падзяляе любові сына да беларускага слова, грозіць: «Ну ж і дабяруся я да вашай школы!». Ёй няўцям, усё роўна, што, страціўшы веру ў родную мову, культуру, гістарычную памяць, многія беларусы страцілі сваё аблічча.

Іранічна фіксуючы звыкластэрэатыпныя дзеянні бюракратычнай сістэмы з характэрным для яе фанфарным мажорам, паэт рашуча і катэгарычна ставіцца да «падхалімаў», «верхаглядаў», «халуёў» ды іншага зброду: «Датуль на нашых карках ім сядзець, дакуль мы будзем іх цярпець…».

Вершы В. Жуковіча абуджаюць пачуцці, здольныя фарміраваць адмоўныя, абуральныя адносіны да хлусліўцаў і казнакрадаў, да людскіх слабасцей. Калі «ёсць на свеце душы сляпыя, подлыя, глухія, даваць пілюлі часта мушу — такая ўжо мая стыхія». Такое крэда паэта. Чарга выказацца і самарэалізавацца — за тымі, хто штодзень сутыкаецца з жыццёвымі нягодамі. Ці змогуць яны падняцца над уласнай інфантыльнасцю, пераплавіцца ў грамадзянскую патрыятычную супольнасць? Толькі на гэтым шляху закладзены шанц на поспех заўтрашняга дня.

ЛЕКТОРЫЙ

# «ГАРАВАТКА» КАСТУСЯ АКУЛЫ

Іван ЛЕПЕШАЎ,
доктар філалагічных навук

**Сярод празаікаў беларускай эміграцыі Кастусь Акула — найбольш таленавіты і вядомы пісьменнік. Нарадзіўся ён (Алесь Качан) 16 кастрычніка 1925 года ў заходнебеларускай вёсцы Верацеі на Глыбоччыне (цяпер Докшыцкі раён). Бацькі мелі 16 гектараў ворнай зямлі і васьмёра дзяцей.**

Алесь вучыўся ў польскай пачатковай школе, а пасля ў савецкай дзесяцігодцы. У часе нямецкай акупацыі скончыў у Глыбокім шасцімесячныя настаўніцкія курсы і нядоўгі час настаўнічаў. Пасля вучыўся ў восьмым (апошнім) класе Віленскай беларускай гімназіі. Увосень 1943 года ў Мінску трапіў у нямецкую аблаву і адсядзеў 4 месяцы ў турме і канцлагеры на Камароўцы. У чэрвені 1944-га паступіў у Мінскую школу камандзіраў Беларускай краёвай абароны, а праз некалькі тыдняў разам з гэтай школай пакінуў Мінск. У жніўні перайшоў да французскіх партызанаў, а ў снежні ў Італіі ўступіў у Другі польскі корпус Брытанскай 8-ай арміі. Удзельнічаў у баях з гітлераўцамі на Апенінскім паўвостраве, узнагароджаны англійскім медалём «За вайну» і залатой Зоркай Італіі. Пасля вайны да красавіка 1946 года вучыўся ў англійскай школе падхарунжых танкавых войск, затым служыў у Італіі, а ў чэрвені 1947-га выехаў у Канаду. Там працаваў на ферме, зарабляў на жыццё ў прамысловых кампаніях.

Жывучы ў Таронта, актыўна ўдзельнічаў у беларускай грамадскай працы. Рэдагаваў штомесячную газету «Беларускі эмігрант», а пасля часопіс «Зважай», шмат часу аддаў журналістыцы і літаратурнай працы. Апублікаваў у Канадзе раманы «Змагарныя дарогі» (1962), «Заўтра ёсць учора» (1968), «За волю» (1991), зборнік прозы, паэзіі, драматургіі «Усякая ўсячына» (1984), трылогію «Гараватка» (кн. 1, 1965; кн. 2, 1974; кн. 3, 1981).

Улетку 1992 года Кастусь Акула «амаль праз паўстагоддзя вымушанага расстання з Бацькаўшчынай зноў ступіў на родную зямлю» (У. Арлоў), пабываў у радзімых мясцінах, у Полацку, Мінску. Прыязджаў ён у Беларусь і яшчэ неаднойчы. 29 студзеня 2008 года перастала біцца сэрца выдатнага пісьменніка і нязломнага змагара за незалежную Айчыну...

Калі ў Расіі і Украіне выдадзены ўсе ці амаль усе творы іхніх пасляваенных эмігранцкіх пісьменнікаў і ўведзены як яго адметная і арганічная частка ў агульнанацыянальны кантэкст рускай ці украінскай літаратуры XX стагоддзя, то пра нашу краіну гэтага не скажаш. У нас усё не так, як у людзей. З твораў К. Акулы ў нас пабачылі свет толькі «Змагарныя дарогі».


К.Акула на пачатку 40-х гадоў

Гэты дакументальны раман, дзе ў вобразе Сымона Спарыша ўгадваецца сам аўтар, я чытаў у 1994 годзе, а цяпер перачытаў другі раз. Яшчэ большае, незабыўнае ўражанне засталося ў мяне ад трылогіі «Гараватка». А трапіла яна да мяне зусім выпадкова — ад студэнткі-завочніцы, якая «скачала» кнігу з Інтэрнэту…

У К. Акулы, як вядома з яго ліставання, было чацвёра дзетак, «пастаянна хворая» жонка. Сам ён працаваў 5 дзён у тыдзень на фабрыцы па 12 гадзін у суткі, а вярнуўшыся дамоў, імкнуўся «напісаць хоць бы адну старонку за дзень».

Суб'ектыўны ж фактар, талент мастака пераадольваў аб'ектыўныя цяжкасці, перашкоды. Пісьменнік рэальна адлюстроўваў у мастацкіх вобразах тое, што бачыў на сваё вочы, што перажылі ён, яго бацькі, суседзі. Заходнымі прынцыпамі яго мастакоўскіх адносін да рэчаіснасці былі шчырасць і праўдзівасць. Майстэрства К. Акулы бачыцца ва ўсім: у вастрыні канфліктаў, напружаным драматызме сюжэта, яркасці характараў і ў мове. У «Гараватцы» кожны эпізод, дэталь, асобны штрых, пейзажны малюнак — усё гэта неабходныя часткі твора. Тут няма нічога лішняга, не звязанага з задачай, якая пранізвае ўсю мастацкую задуму — схіліць чытача на бок таго ці іншага разумення, той або іншай ацэнкі розных бакоў рэчаіснасці.

У трылогіі сотні персанажаў, і ўсе яны непадобныя адзін на другога сваімі дзеяннямі, паводзінамі і мовай. У цэнтры ж твора — сям'я Бахмачоў (бацька, маці, брат Янука і сам Янук Бахмач — галоўны персанаж трылогіі).

Пра жыццё заходнебеларускага сялянства «за польскім часам», а таксама ў 1939-1944 гады пісалі многія беларускія пісьменнікі. Прыгадаем, напрыклад, раманы Вячаслава Адамчыка «Чужая бацькаўшчына», «Год нулявы», «І скажа той, хто народзіцца», «Голас крыві брата твайго». К. Акула ж, у адрозненне ад савецкіх аўтараў, якія пісалі на гэтую ж тэму, «у выяўленні сваіх поглядаў і ацэнак не быў скаваны ніякімі ідэалагічнымі догмамі і цэнзурнымі перашкодамі» (У. Арлоў).

Назвы кніг трылогіі — сімвалічныя. Першая называецца «Дзярлівая птушка», што выклікае асацыяцыю з польскім гербам — «ожэл бялы». Кніга пачынаецца з апісання, як хлопчык Янук Бахмач пасе статак («хвастоў за пятнаццаць») асадніка пана Лазоўскага. Бацька Янука мае «малаўраджайны клінок зямлі з трох гектараў», які «не выкарміць, не апране і не абуе». У кнізе дзясяткі розных эпізодаў з жыцця сялян вёскі Літоўцы. Беднасць, галеча, бяспраўе… Янукову маці застрэліў наглядчык панскага лесу за назбіраныя там ягады; бацьку, ні ў чым не вінаватага, па наводцы мясцовага злыдня Сабакевіча, арыштавала паліцыя, збіла «чуць не на смерць». Паказана нацыянальная маласвядомасць сялян: «праваслаўная часць беларусаў была для імітатараў-палякаў «рускімі»; і святкі, гэтакім чынам, не называлі каталіцкімі ці праваслаўнымі, але «рускімі» і «польскімі». Канчаецца першая кніга апісаннем, як у пачатку верасня 1939 года «пад саламяныя стрэхі прыляцела вестка, што немцы пачалі ўжо панскую Польшчу дзяўбці», і як адпраўляюць навабранцаў на ваенную службу.

У першай кнізе, як і ва ўсёй трылогіі, ёсць шэраг вобразаўсімвалаў, найперш гэта гара Гараватка — узвышша, што ляжыць у ваколіцах вёскі Літоўцы і асацыюецца ў свядомасці аўтара і яго героя Янука з усёй Беларуссю. Яна жыве «ў мясцовых легендах і казках, глыбока ўрасла ў народную гісторыю», яна параднілася з «горам», «гаравацем» і «іншымі выводнымі абазначэннямі». Гараватка трымае на сваіх плячах людзьмі празваны Архіпам дуб-волат, аб грудзі якога «разбіваліся вятры і непагадзь цэлых стагоддзяў», які «помніў Баторыя і Івана Грознага, сачыў за шведамі і Напалеонам», чуў галасы паўстанцаў Кастуся Каліноўскага.

Нібы родным братам дуба Архіпа выступае стогадовы дзед Якуб, які быў для вяскоўцаў «такім самым заваршэннем і прыметай, як Архіп для Гараваткі». Стары селянін-гаротнік дзед Якуб у частых размовах з Януком Бахмачом адкрыў яму вочы на гераічную і трагічную мінуўшчыну нашага краю, навучыў задумвацца і самому шукаць адказы на надзённыя жыццёвыя пытанні.

Другая кніга трылогіі мае сімвалічную і шматзначную назву — «Закрываўленае сонца». Тут адлюстравана жыццё вяскоўцаў у бальшавіцкім «раі», пад «сонцам Сталінскай канстытуцыі» — з восені 1939-га да лета 1941 года. Вераснёўскім днём «з гасцінца і з лесу, з савецкіх танкаў і аўтамашынаў гучэла, разлівалася па прасторы магутнае слова: вызваленне». «Яно прынесці мела зямлю і волю». Праз некалькі дзён — агульны сход вяскоўцаў у школьным будынку. Бальшавіцкі камісар доўга «гаварыў малазразумелай мовай» пра вызваленне «ад польскага іга», «доблесную рабоча-сялянскую Чырвоную Армію», «мудрага айца ўсіх народаў, велічайшага таварышча Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна»…

Праўдзіва апісана падрыхтоўка да выбараў «дзіпутатаў у народны сход», што мае адбыцца ў Беластоку. Прысутнічае ў зале і той самы камісар. «Многа каторыя вушам сваім не верылі, ды ніхто супярэчыць не асмеліўся», калі кандыдатамі ў дэпутаты былі названы два «вясковыя злыдні» Шпунт і Сабакевіч, якія цяпер верхаводзілі ў вёсцы. У другой кнізе трылогіі ёсць шмат іншых эпізодаў пра дзеянні «народнай улады»: вялізныя чэргі па хлеб, соль, газу, цукар, перапіс у кожнага гаспадара ўсёй яго маёмасці — зямлі, жывёлы, птушак (каб пасля абкласці падаткам), дэманстрацыя з нагоды гадавіны «Вялікага Кастрычніка», начныя арышты асаднікаў, леснікоў, іншых «ворагаў народа» ды вываз іх у Сібір, беспадстаўны арышт Антося Дзеркача і яго катаванне, закрыццё і разбурэнне рукамі «ваінствуючых бязбожнікаў» царквы ды касцёла, прымусовая здача дзяржаве «лішкаў мяса, збожжа, яек, малака, мёду і іншага», раскулачванне багацейшых сялянаў, спроба стварыць калгас імя Чапаева.

У трэцяй кнізе трылогіі апавядаецца пра падзеі перыяду нямецка-савецкай вайны 1941–1944 гадоў. Кніга называецца «Беларусы, вас чакае зямля». Вялізныя, прыгожа аформленыя плакаты пад такім жа загалоўкам бачыў Янук і іншыя вяскоўцы ў мястэчку Гацi, дзе ўжо ўсталёўвалася ўлада немцаў — новых «вызваліцеляў». Янук чуе, як некаторыя мястэчкоўцы рэагуюць на фашыстоўскія абяцанкі: «— Паглядзі, што унь пішуць: Беларусы, вас чакае зямля. От як! — Ага, чакае. Тры метры на паўтара на кожнага!» «Нялюдскасць сваю акупант як бы наўмысна паказваў штодзённа і ўсюды. Жахлівае расчараванне «новым парадкам» дыханне адбірала». Карнікі, нібыта за сувязь з савецкімі партызанамі, спалілі вёску Залатуху і ўсіх яе жыхароў. Да сялян даходзілі чуткі, што гітлераўцы «за забойства аднаго немца робяць аблаву і расстрэльваюць па сто саўсім нявінных людзей».

Паказана, як на другім годзе вайны ў Гаравацкай пушчы з'явіліся савецкія партызаны, як яны ноччу прыходзілі ў вёску, рабавалі сялян, забіралі ўсё, што ім хацелася. А бывала і так, што ў дзённы час у гэтую ж вёску ўступалі ўласаўцы або «нейкая новая расейская фармацыя» пад камандай палкоўніка Гіль-Радзівонава. Пра гэта «нікчэмнае войска» казалі, што яно «рабуе мясцовае насельніцтва і больш гуляе, чымся змагаецца з бальшавіцкімі бандамі».

На старонках кнігі адлюстравана, як пад уплывам усяго бачанага, пад уздзеяннем старэйшых таварышаў, дзеда Якуба, Антося Дзеркача, настаўніка Сабалеўскага і іншых сталее і духоўна расце галоўны персанаж трылогіі Янук Бахмач. Шчыры беларус-падпольшчык Падгайскі аднойчы сказаў яму: «Ты начытаўся многа і нешта пішаш, дык, магчыма, прыдбаў гэту аграмадную цэннасць аб'ектыўнага разважання сам сваімі намаганнямі». Янук пераканаўся, што «немцы, як і палякі ці маскалі, прыйшлі на гэтую пакрыўджаную зямлю як рабаўнікі, новыя паны, махляры, прыгнятальнікі». Пасля чатырохмесячнага зняволення ў нямецкай турме і абнадзейлівай, натхняльнай сустрэчы-размовы са старэйшым паплечнікам па духу Падгайскім, ён вяртаецца ў бацькоўскую хату. «Акрылены духам сын» цяпер ведае адказ на пытанне: хто ж мы ёсць? «Ці мы сапраўды «хамы» і парабкі, ніжэйшыя істоты, гной для росту чужынцаў, рабы паслухмяныя без нацыянальнае прошласці, свайго собскага «я», ці, наадварот, мы — стары ў гісторыі, слаўны народ, з вялікай і пакутлівай, цяжка пройдзенай дарогай, са старой і багатай культурай, слаўнымі традыцыямі, але часова чужой брутальнай сілай на калені пастаўленыя, ды не зламаныя яшчэ таму, бо нягледзячы на ўсялякае ліха, годнымі і непакорнымі ў сваіх душах і сэрцах засталіся. Так…»

Няма сумнення, што амаль кожны, хто прачытае гэтую трылогію, калі толькі ён не зачарсцвелы, закаранелы «савок» з каланіяльнымі мазгамі, дык таксама знойдзе, як і Янук Бахмач, адказ на пытанне: хто ж мы ёсць?

Кастусь Акула марыў і спадзяваўся, што ягоная «Гараватка», напісаная крывёю сэрца, дойдзе да чытача на Айчыне. Але пасля выхаду ў 1994 годзе яго «Змагарных дарог» рэзка змянілася ў Беларусі, кажучы словамі Мікіты Зноска, «палітычная сітуацыя». «Гараватка» так і не выдадзеная ў нас да сённяшняга дня…

ПОМНАЕ

# ВЯЛІКАЕ КНЯСТВА ЛЫСАГОРСКАЕ

Аксана СПРЫНЧАН

## Завяршэнне

Які пісьменнік з любоўю не пісаў пра мясціны, дзе ён нарадзіўся? Усе. І я ў тым ліку — пра свой трускалкава-касмічны Лунінец. Але ёсць у мяне ўлюбёнае месца, цалкам процілеглае месцу нараджэння, — месца пахавання. Гэта сэрца Вялікага Княства Лысагорскага — Лысая Гара, над якой я хачу, каб развеялі мой прах.

Калі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтавалася да друку мая кніга «ЖываЯ», давялося ў тэксце жыццяпісу памяняць фразу «Жыву паміж Лунінцам і Лысай Гарою, над якою будзе развеяны мой прах» на «…Лысай Гарою, якая для мяне вышэйшая за Парнас». Выдаўцы спужаліся «праху», і колькі я не тлумачыла, што не збіраюся паміраць адразу, як выйдзе кніга, ім было так страшна, што пад уплывам гэтага страху я і здалася.

Але месца пахавання змяніць нельга. Яно ўзнікла ў жыцці маёй сям'і з 1972 года, калі дзед набыў лецішча ў Еўдакіі Лось. А ў 83-м да таварыства «Узгор'е-1» далучылася таварыства з маладзейшых пісьменнікаў «Узгор'е-2», у якім атрымаў кавалак зямлі мой бацька.

## Энергетычны абмен

Не ў кожнага ёсць свая Гара. Мне пашанцавала. Многія думаюць, што на Лысай Гары няма дрэў, але «лысая» — значыць, светлая, ясная. Пачуўшы гэткае тлумачэнне, сябры, узгадаўшы Медную гару, назвалі мяне Гаспадыняй Лысай Гары. Зразумела, валасатай.

І хай мая Лысая Гара — не самая высокая нават у Беларусі, — да яе Святла і Чысціні вельмі цяжка ўзняцца. Энергетыка ейная настолькі моцная, што нават паэты, празаікі і драматургі, якія пасяліліся побач, не могуць яе вычарпаць. А можа, існуе і адваротная сувязь: глыбіня творчасці яшчэ болей узвышае Лысую Гару.



Фота аўтара

Вялікдзень на Лысай Гары

## Каляндар агародніка. Вясна

Прыехала позна, з запалкамі хадзіла на поле глядзець, ці ўзышлі буракі, морква, бабы. Якімі незямнымі выглядалі ў святле запалкі сцяблінкі! Зранку пасадзіла кабачкі ў касмічныя лункі і касмею, што сама ўзышла, перасадзіла. І астры з цяплічных умоваў выкінула ў жорсткую рэальнасць.

## Рэальна-мемарыяльны музей

Столькі сапраўдных рэчаў пісьменнікаў, колькі іх ёсць у Вялікім Княстве Лысагорскім, упэўненая, няма нават у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. І гэтыя рэчы працягваюць несці жывую памяць пра сваіх уладальнікаў. Так, Сяргей Вераціла на Лысай Гары ходзіць у кашулях Уладзіміра Адамчыка. А Максім Клімковіч для ганаровых гасцей можа вынесці да вогнішча фатэль Максіма Танка, седзячы ў якім народны паэт Беларусі працаваў у Саюзе пісьменнікаў БССР, будучы ягоным старшынёй. У мяне ж на паліцах стаяць часопісы «Полымя», «Маладосць», «Иностранная литература», якія выпісваў Анатоль Вялюгін.



Літаратурнае Прадмесце

## Гара Рагнеды

Часта ў мяне пытаюцца: «Гэта тая Лысая Гара, што каля Заслаўя?». «Не, — адказваю я, — гэта тая Лысая Гара, каля якой знаходзіцца Заслаўе». Для кагосьці, магчыма, гэта тая Лысая Гара, якая знаходзіцца блізу Заслаўя. Але гэта пытанне суб'ектыўна-філасофскае. Лысых гор у Беларусі болей за сто, яны, як мяркуюць навукоўцы, звязаныя з сакральнымі дзеямі. На маёй Лысай Гары, упэўненая, знаходзілася паганскае капішча, гарэў зніч, рос дуб, каля якога маліліся, на які чаплялі ахвярныя ручнікі. Пра гэта кажуць і адмысловыя камяні для ахвярапрынашэнняў, і прапрапраўнукі-дубы, і тое, што бліжэйшыя вёскі Малая і Вялікая Валоўшчына названыя ў гонар Вялеса — аднаго з галоўных багоў паганскага пантэону нашых продкаў.

Калі Рагнеда зрабіла замах на Уладзіміра, той саслаў яе і сына, які абараніў маці, у Ізяслаўль. У ім Рагнеда жыла ў 986–1000 гадах. У гэтыя часы Лысая Гара была святым месцам для Рагнеды — адной з найвядомых жанчын Беларусі.

З боку старых пісьменніцкіх лецішчаў ёсць і незвычайны ружанец з камянёў. Магчыма, перш чым узняцца на Лысую Гару, неабходна было памаліцца, дакрануўшыся да кожнага каменя.

Паганства і хрысціянства за тысячагоддзе з'ядналіся ў душы беларусаў. І цяпер, калі я ў цяжкія хвіліны праходжу сцежкамі Лысай Гары і звяртаюся з просьбай аб дапамозе, дык пачынаецца яна так: «Госпадзі, Лысая Гара!..»

## Дрэвы для закаханых — няшчасных і шчаслівых

Як ёсць у Лысай Гары гісторыя выгнання Рагнеды, так ёсць і свае легенды кахання. Прынамсі яшчэ ў 80-я гады, калі мы з прабабкай Любоўю збіралі на Лысай Гары грыбы, дык жыхары суседняй вёскі паказалі нам два дрэвы закаханых. Адно няшчасных — на ім нібыта засіліўся хлопец, якому не адказала ўзаемнасцю дзяўчына. І сапраўды, гэтая бяроза расце гэткім чынам, што на ёй зручна павесіцца. А другое — шчаслівых. На гэты дуб, ствол якога на вышыні некалькіх метраў падвойваецца, трэба залезці закаханым, каб ніколі не расставацца.

## Каляндар агародніка. Лета

Пустазелле запаўняе ўсе пустыя месцы жыцця, а я змагаюся з ім і адначасна радуюся, што ёсць непрыручаныя расліны. Ад змагання мяне ратуе дождж, і тады я п'ю каву з празрыстымі кроплямі, і гэта жыццё ідзе, пакуль не скончыцца дождж альбо кава.

## Формула шчасця

Пісьменнік, як і кожны іншы чалавек, павінен збудаваць дом, выгадаваць дзяцей і пасадзіць дрэва. У гэтым сэнсе Лысая Гара — месца, дзе ажыццявілася гэтая формула шчасця. Дамы збудаваныя, дрэвы пасаджаныя, дзеці выгадаваныя.

Няма ў Беларусі іншага такога куточка, дзе б расло столькі дрэў, пасаджаных пісьменнікамі — і садовых, і лясных. Лясныя асабліва прыцягваюць: у Івана Навуменкі перад хатай — бяроза, у Анатоля Вярцінскага — дзве яліны, у майго дзеда — дзве ляшчыны. А калі ўсё занята, дык пісьменнікі знаходзяць іншае выйсце — саджаюць дрэвы на кавалку зямлі, што вылучаны на бліжэйшым полі пад бульбу. У Сяргея Сыса — хвоі, у Алеся Савіцкага — клён. А ў мяне тры вязы — адзін каля Святога возера, а два на вяршыні Лысай Гары. Яны знітоўваюць мяне з родным Лунінцам, бо, як і я, нарадзіліся на Гагарына, 126. Я звязваю блізкае мне раслінамі і словамі. Ствараю свой раслінна-слоўны арнамент.

## Непарадны накід

У Мінску парад, а я сяджу на ганку лецішча тварам да Лысай Гары, на прыступках сонечны кубак з кавай (з яго піла яшчэ мая прабабка Любоў), часопіс «Маладосць» за 1987 (яго трымаў у руках Анатоль Вялюгін), дзве вялізныя трускалкі (да іх, магчыма, дакраналіся дзівосныя беларускія жабы). Калона мурашоў, што жвава мурашэ стваламі, нагадвае адначасна пра парад і працу.

## У падмурку і ў кветніку

Зямля Лысагорская надзвычай камяністая і валуністая, кажуць, тут ледавік спыніўся. Калі толькі атрымалі лецішча, дык асноўная задача была выбраць з зямлі каменне. Гэтым з натхненнем і ўпартасцю займаліся ўсе пісьменнікі. Камяні пайшлі ў падмуркі хатаў, ніводнага на гародах не было. А пасля прыйшла мода на каменне — з палёў і лясоў цягалі, каб упрыгожыць свае соткі. І цяпер цягаюць. Адно стала іх цяжка знайсці, дык некаторыя нават набываюць за грошы ў каменнешукальнікаў, каб упрыгожыць свае кветнікі. А іншыя, не паверыце, — крадуць каменне. Можа, думаюць, што скрадзеныя камяні, як і скрадзеныя кветкі, лепей растуць?

## «Сказ пра Лысую Гару»

Чаго толькі няма ў беларусаў у двух варыянтах, таму і нядзіўна, што папулярная паэма «Сказ пра Лысую Гару» Францішка Ведзьмака-Лысагорскага, якая з'явілася на пачатку 70-х гадоў, у XXI стагоддзі займела двух аўтараў — Ніла Гілевіча і Міколу Аўрамчыка, з якіх Міколу Аўрамчыку пашанцавала болей — бо лецішча на Лысай Гары было менавіта ў яго.

Паэма была настолькі папулярнай, што яе давалі на ноч ці дзве пачытаць, і сем'і не спалі, а па чарзе перапісвалі гэты твор. Якія там кампутары, ксераксы, прынтары, сканеры. Што і казаць, «Быў век, быў час, была эпоха», у якую я паспела нарадзіцца.

## Каляндар агародніка. Восень

Падаюць яблыкі, пакуль дрэва не аддасць усе Еве (для Адама). Падае лісце, пакуль дрэва не аддасць зямлі апошнюю кашулю. Падаюць зоркі — і ніхто не ведае, ці не апошняе жаданне ён загадвае.

## Месца смерці

Можна абраць месца пахавання, але немагчыма абраць месца смерці. У Вялікім Княстве Лысагорскім, створаным для жыцця-натхнення, паміраюць рэдка. Такі лёс напаткаў толькі Юрася Свірку.

## Малінавы…

Не, не звон, а дым. Дым ад малінавага вогнішча, якое бывае, калі выразаюць старыя маліны. А можна ж і агнёвыя кактэйлі рабіць: галінкі чорных парэчак і чырвонай грушы, і крыху агрэсту, альбо вішня з ажынамі. Грэйся і аджывай. Языкі полымя скачуць, рытмічна нястомныя вавёркі на Лысай Гары, а стомленых вавёрак я ніколі на ёй не бачыла. У вогнішча падаюць знічкі, і можна бясконца глядзець на агонь і думаць, што я не думаю. Ні пра жыццё, ні пра смерць. А толькі пра Лысую Гару, над якой я хачу, каб быў развеяны мой прах. І тады і па-за жыццём я змагу жыць у ВКЛ і бачыць, як закаханыя п'юць бярозавік з лысагорскіх бяроз, празаікі збіраюць капялюшыкі баравікоў, паэты натхняюцца сцежкамі-радкамі, драматургі раздаюць ролі лысагорскім зданям, а геніяльныя чытачы выхопліваюць з вогнішча абгарэлыя рукапісы.

## Каляндар агародніка. Зіма

Успаміны пра завяршэнне і чаканне пачатку.

## Пачатак

Лунінец — гэта ян, мой мужчынскі пачатак, а Лысая Гара — інь, мой жаночы пачатак. Я жыву паміж Лунінцам і Лысай Гарою.

Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА. Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91.
Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

## 7 ВЕРАСНЯ, ПЯТНІЦА



**06.00, 07.10, 07.35, 08.15, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 01.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Зона Х.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Меладраматычны серыял «За ўсё табе дзякую-3» (Расія-Украіна).
**10.10** Сфера інтарэсаў.
**10.40** Журналісцкае расследаванне. Тэлефільм АТН.
**11.05** Серыял «Я цябе нікому не аддам» (Расія-Украіна). 4-я серыя, заключная.
**12.10** Серыял «Маргоша» (Расія).
**14.00** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**14.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**15.15, 19.20** Рэгіянальная праграма.
**15.40** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША- Канада).
**16.35** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.20** Меладраматычны серыял «Маруся. Вяртанне» (Украіна).
**18.15** Каробка перадач.
**18.45, 01.05** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.40** Калыханка.
**20.05** Тэлефільм АТН «Салей, якога мы не ведалі».
**21.00** Панарама.
**21.45** Тэлефільм цыклу «Лёс гігантаў».
**22.10** «Не толькі жанчына ведае». Ток-шоў.
**23.15** Трылер «Кроў за кроў» (ЗША).
**01.35** Дзень спорту.



**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30, 23.10** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.20** «Паміж намі, дзяўчынкамі».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Прэм'ера. «Захоўваемыя лёсам». Шматсерыйны фільм.
**12.05** «Сэрца Марыі». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Шчаслівыя разам». Шматсерыйны фільм.
**18.55** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Ганна Герман».
**23.15** Прэм'ера. «Без сведак».
**23.45** Фільм «У дарозе».
**01.20** Начныя навіны.



**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Аўтапанарама».
**08.50** Фільм «Апошні паварот». Канада, 2006г.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Будзьце здаровыя»: «Штучны чалавек».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Рускі сродак». Серыял.
**14.40** «Забойная сіла 6». Серыял.
**15.35** «Гадзіна суду».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** «Пяць гісторый».
**19.00** «ВЫБАРЫ-2012». Выступы кандыдатаў у дэпутаты.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.35** Фільм «Ажанюся з першай сустрэчнай». ЗША, 2006г.
**22.25** Дзённік VIII Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.50** «Расійская покерная серыя».
**00.40** Прэм'ера! «Месяцовая гонка».



**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Час футболу.
**09.45** Дэтэктыўны серыял «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.55** Еш і худзей.
**11.30** Школа рамонту.
**12.35** Кароткаметражны фільм «Каханне?.» (Беларусь).
**13.30** Страсці па культуры.
**14.15** Дакументальны фільм «Метафара».
**14.50** «Нетэрміновая вясна».
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Рэгіянальная гадзіна.Гародня.
**20.00** Бітва экстрасэнсаў.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**22.20** Фактар сілы.
**22.50** Дэтэктыўны трылер «Цалуючы дзяўчын» (ЗША).



**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Оперы. Хронікі забойнага аддзела. Шукай грошы».
**11.00** Весці.
**11.30** Навіны культуры.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** «Інстытут высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весці.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Лектар».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весці.
**17.30** Мясцовы час. Весці - Масква.
**17.45** Весці. Дзяжурная частка.
**17.55** «Кахаю, не магу!».
**18.55** «Ефрасіння. Працяг». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весці.
**20.30** «Тэрмінова ў нумар. На службе закона».
**22.15** «Юрмала-2012». Фэст гумарыстычных праграм.
**00.00** Навіны - Беларусь.
**00.10** Вікторыя Ісакава і Аляксандр Голубеў у фільме «Усміхніся, калі плачуць зоркі» (2010 г.).



**06.05** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**09.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**10.00** Сёння.
**10.20** «І зноў дабрыдзень!».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Сярод белая дня» з Віктарам Набутавым.
**15.15** «Справа густу».
**15.40** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.25** «Кажам і паказваем». Ток-шоў.
**18.10** «Прафесія-рэпарцёр».
**18.35** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**21.20** «Айчынная. Вялікая». Новая маштабная гістарычная драма Аляксея Півавара-ва.
**23.15** «Званок лёсу».
**00.05** Баявік «Зона высадкі».



**02.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу.Мужчыны.
**04.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу.Мужчыны.
**06.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу.Мужчыны.
**09.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі - 18-ы этап.
**10.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу.Мужчыны.
**16.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі - 18-ы этап.
**17.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі - 19-ы этап.
**18.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - 1/4 фіналу.Мужчыны.
**21.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Аблавушак».
**07.40** «Від з дзясятага паверху», 2011 г., Польшча.
**08.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.35** «Quo Vadis», тэлесерыял: 4 серыя.
**09.20** «Тэра постсаветыка. Габрэі ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**09.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.25** «Віктар Скарабагатаў», рэпартаж.
**10.45** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.10** «Жоўты шалік», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**11.50** «Рок назаўжды–2», дак. фільм, Беларусь: ч. 2.
**12.45** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт.
**13.00** «Від з дзясятага паверху», 2011 г., Польшча.
**13.45** «Дэкалог, чатыры», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**14.45** «Тэра постсаветыка. Габрэі ў Адэсе», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**15.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**15.20** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.50** «Віктар Скарабагатаў», рэпартаж.
**16.05** «Жоўты шалік», маст. фільм, 2000 г., Польшча.
**17.10** «Кароль-вінароб», серыял: 12 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.10** «Quo Vadis», тэлесерыял: 5 серыя.
**19.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.10** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**19.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**19.40** Англійская для дзяцей.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда».
**20.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**20.10** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.45** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Гісторыя – на вакацыі: «Зямля ў палоне», дак. фільм, 2011 г., Беларусь.
**21.55** «Каханкі маёй мамы», маст. фільм, 1985 г., Польшча.
**23.30** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**23.50** Аб'ектыў.
**00.15** «Дэкалог, шэсць», маст. фільм, 1990 г., Польшча.
**01.15** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 8 ВЕРАСНЯ, СУБОТА







**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Здароўе.
**09.55** Камедыйны серыял «Прыгажунчык» (Расія).
**10.55** Дакументальны серыял «Майстар вандраванняў» (ЗША).
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.15** Мультфільм «Аповесць мінулых гадоў» («Беларусьфільм»).
**12.30** Народная камедыя «Белыя Росы» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкі серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**17.15** Канцэртная праграма «Месца сустрэчы».
**18.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.10** Меладрама «Заклад на каханне» (Украіна-Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Баявік «У тыле ворага» (ЗША).
**23.30** Дзень спорту.
**23.40** Камедыйны серыял «Прыгажунчык» (Расія).
**00.30** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.



**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.30** «Здароўе».
**10.30** «Смак».
**11.35** Прэм'ера. «1812. Барадзіно».
**12.35** Фільм «Вайна і мір». Заключныя серыі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Міхась Дзяржавін. Той яшчэ «матор-чык».
**17.20** Фільм «Неспадзяваная радасць».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Фільм «Як важна быць сур'ёзным».
**22.50** Прэм'ера. «Сёння ўвечар».
**00.3** Баявік «Антыкілер -2».



**06.20** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**07.15** «Анфас».
**07.30** «Прыгоды Бураціна». Беларусьфільм, 1975 г.
**09.45** «ХОР-ШОУ».
**09.50** «Я - вандроўца».
**10.20** Дзённік VIII Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**10.25** «Мінск і мінчане».
**11.00** Фільм «Ажанюся з першай сустрэчнай». ЗША, 2006 г.
**12.40** «Прыгоды дылетанта».
**13.15** Фільм «Белыя росы». Беларусьфільм, 1983 г.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**15.55** Дзённік VIII Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**16.00** «Небяспечны месяц».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Ля параднага пад'езду».
**17.30** Фільм «Рыфмуецца з каханнем». Беларусьфільм, 2006 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** «ХОР-ШОУ».
**20.15** Фільм «Трамвай у Парыж». Беларусьфільм, 2010г.
**22.25** Дзённік VIII Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.30** Фільм «Пакуль мы жывыя». Беларусьфільм, 2008 г.
**00.20** «Фаталісты». Серыял.



**06.50** Фільм-казка «Горад майстроў» («Беларусьфільм»).
**08.05** Сямейная камедыя «Павуцінне Шарлоты» (ЗША-Германія).
**10.00** Тэлебарометр.
**10.05** Школа рамонту.
**11.10** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.45** Наперад у мінулае.
**12.20** Шоў «Суперінтуіцыя».
**13.30** Беларуская кухня.
**14.05** Лірычная драма «Восеньскі марафон» (СССР).
**15.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**18.15** Фактар сілы.
**19.05** Ваша лато.
**19.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.55** Бітва экстрасэнсаў.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Бітва экстрасэнсаў.
**22.15** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-офф.
**23.50** Фантастычная драма «Шоў Трумэна» (ЗША).
**01.30** Шоў «Суперінтуіцыя».



**07.00** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.40** «Усміхніся, калі плачуць зоркі» (2010 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весці.
**11.15** «Танцуючая планета».
**12.00** «ХА». Маленькія камеды.
**12.20** «Нябесныя сваякі».
**14.00** Весці.
**14.15** «Вайна 1812 года. Першая інфармацыйная». Фільм Аляксея Дзянісава.
**15.20** «Вялікія камбінатары».
**16.25** «Мядовы месяц».
**18.10** «Суботні вечар».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весці ў суботу.
**20.40** «Русалка» (2012 г.).
**00.00** «Дарагая мая дачушка» (2011 г.).



**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00** Сёння.
**08.20** Іх норавы.
**08.55** «Жывуць жа людзі!».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак» з Оскарам Кучэрам.
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** Серыял «Адвакат».
**15.05** «Уласны гонар».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Следства вялі.».
**17.10** «Вочная стаўка».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** «Агляд. Надзвычайнае здарэнне».
**19.00** Сёння.
**19.25** «Прафесія - рэпарцёр».
**19.55** Праграма «Максімум».
**20.55** «Руская сенсацыі».
**21.50** «Ты не паверыш!».
**22.45** «Прамень Света».
**23.15** «Лакаматыў»: каманда «На ўзлёт!» Дакументальны фільм.
**00.05** «Служу Айчыне!».



**01.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі - 19-ы этап.
**09.30** Футбол: Кубак свету да 20 гадоў. Жанчыны. Японія - трэцяе месца.
**11.30** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія.
**12.15** Футбол.
**13.15** Футбол: Кубак свету да 20 гадоў. Жанчыны. Японія - Фінал.
**15.30** Футбол: Кваліфікацыя да Кубка свету 2010 Бразілія.
**16.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі – 20-ы этап.
**18.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі.



**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Англійская для дзяцей.
**07.30** Казкі для дзетак: «Цюхця, што ты за стварэнне?!», «Фільм са страшнаю назваю».
**07.55** «Школа на санцапёку», серыял: 6 серыя.
**08.20** «Мой родны горад», серыял: 27 серыя.
**08.45** «Quo Vadis», тэлесерыял: 5 серыя.
**09.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.00** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**18.20** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**19.05** «Quo Vadis», тэлесерыял: 5 серыя.
**19.55** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**20.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.45** Назад у будучыню.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Дарога», маст. фільм, 2002 г., Чэхія–Славакія.
**23.25** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 1 серыя.
**00.10** Аб'ектыў.
**00.25** «Бульбаны», мультсерыял.

## 9 верасня, нядзеля

### 1 Беларусь

**07.30** Народная камедыя «Белыя Росы» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Тэлефільм цыклу «Зямля беларуская».
**09.55** Камедыйны серыял «Прыгажунчык» (Расія).
**10.55** Тэлефільм цыклу «Лёс гігантаў».
**11.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Медычныя таямніцы.
**12.45** Мультфільм «Аповесць мінулых гадоў» («Беларусьфільм»).
**13.15** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Прыгодніцкі фільм «Выспа непатрэбных людзей» (Расія-Украіна).
**17.20** Мультфільмы.
**17.40** Каробка перадач.
**18.10** «Славянскі базар-2012».
**19.10** Крымінальная меладрама «Насуперак разумнаму сэнсу» (Расія-Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Тэлефільм АТН цыклу «Журналісцкае расследаванне».
**22.30** Авантурная меладрама «Непрыстойная прапанова» (ЗША).
**00.35** Камедыйны серыял «Прыгажунчык» (Расія).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.50** Пакуль усе дома.
**10.45** Фільм «Дрэсіроўшчыца тыграў».
**12.30** Прэм'ера. «1812. Выгнанне».
**13.30** Камедыя «Шырлі-Мырлі».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Новы «Ералаш».
**16.45** Прэм'ера. «Жанчыны ў пошуках шчасця».
**18.15** Фільм «Карсіканец».
**20.00** Контуры.
**21.05** Святочны канцэрт.
**22.45** Прэм'ера. Фільм «Бабло».
**00.35** «Ціхі дом».

### ТВ

**06.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**07.10** «Пра Чырвоны Капялюшык». Беларусьфільм, 1977 г.
**09.25** «ХОР-ШОУ».
**09.30** «Аўтапанарама».
**10.00** «Жыць будзеце».
**10.20** Дзённік VIII Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**10.25** «Вялікі сняданак».
**11.05** Фільм «Трамвай у Парыж». Беларусьфільм, 2010 г.
**13.05** «Добры дзень, доктар».
**13.40** Фільм «Нашы суседзі». СССР, 1957 г.
**15.15** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Дзённік VIII Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**16.55** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** «ХОР-ШОУ».
**20.45** Прэм'ера! Фільм «На ростані». Беларусьфільм, 2011 г.
**22.25** Дзённік VIII Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**22.30** Фінал VIII Міжнароднага конкурсу эстрадных выканаўцаў «Усходні кірмаш».
**01.15** Фільм «Зграя». Беларусьфільм, 2008 г.

### 2 Беларусь

**07.00** Камедыйная меладрама «Верныя сябры» (СССР).
**08.45** Камедыйная меладрама «Восеньскі марафон» (СССР).
**10.40** Тэлебарометр.
**10.45** Школа рамонту.
**11.50** Вышэй за дах.
**12.25** Шоў «Суперінтуіцыя». Заключны сезон.
**13.35** Фільм «Дзікая сямейка Торнберы» (ЗША).
**16.15** Дзень беларускай пісьменнасці.
**15.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Плэй-офф. Прамая трансляцыя.
**17.30** Камедыя «Пасля кірмашу» («Беларусьфільм»).
**18.55** Суперлато.
**19.45** Спорт-кадр.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**21.45** Фантастычны трылер «Асаблівае меркаванне» (ЗША).
**00.20** Шоў «Суперінтуіцыя». Заключны сезон.

### Россия

**07.00** «Русалка» (2012 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весці.
**11.15** «Смехапанарама Яўгенія Петрасяна».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.20** «Нябесныя сваякі».
**14.00** Весці.
**14.15** «Уся Расія».
**14.30** «Ігар Ясуловіч. Акцёрскія спробы».
**15.20** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**16.20** «Бацькава хата».
**18.15** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весці тыдні.

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял «Мужы».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Першая перадача».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ядзім дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Дачны адказ».
**11.20** «Развод па-руску».
**13.00** Сёння.
**13.20** Дэтэктыўны серыял «Адвакат».
**15.05** «Уласны гонар».
**16.00** Сёння.
**16.20** «Следства вялі.».
**17.10** «І зноў дабрыдзень!».
**18.05** Выратавальнікі.
**18.30** «Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень».
**19.00** «Сёння. Выніковая праграма».
**19.55** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**20.45** «Іосіф і Нэлі Кабзон. Жыць, каб кахаць». Дакументальны фільм.
**22.20** «Венік». Ток-шоў.
**23.15** «Б.С. Былы Супрацоўнік».
**00.45** «Школа зласлоўя». Ток-шоў.

### Eurosport

**01.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі.
**02.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Фінал Жанчыны.
**04.00** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Фінал Жанчыны.
**09.30** Гран-пры 3: Серыя. Монца - Гонка 1.
**10.00** Гран-пры 3: Серыя. Монца - Гонка №2.
**10.30** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі – 20-ы этап.
**11.15** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Фінал Жанчыны.
**13.00** Супербайк: Чэмпіянат свету. Германія – 1-ая спроба.
**14.00** Суперспорт: Чэмпіянат свету. Германія.
**15.15** Футбол.
**16.15** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі – 20-ы этап.
**17.00** Веласпорт: Нацыянальны тур. Тур Іспаніі – 21-ы этап.
**18.45** Супербайк: Чэмпіянат свету. Германія – 2-ая спроба.
**19.30** Аўта і Мотаспорт: Мотаспартыўны часопіс.
**19.45** Футбол.
**20.45** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі - Фінал Жанчыны.
**21.30** Тэніс: Турнір Вялікага Шалома. Адкрыты турнір Злучаных Штатаў Амерыкі.
**22.45** Усе віды спорту: Вось дык так!!!

### Белсат tv Belsat

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Англійская для дзяцей.
**07.20** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Матыльда», «Аповеды таты Бабра».
**07.50** «Школа на санцапёку», серыял: 7 серыя.
**08.15** «Мой родны горад», серыял: 28 серыя.
**08.40** «Quo Vadis», тэлесерыял: 4 серыя.
**09.25** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**09.50** Назад у будучыню.
**17.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.15** Два на два (тэледыскусія).
**18.40** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**18.55** «Сенсацыі ХХ-га стагоддзя», серыял, 2003–2004 гг., Польшча.
**19.45** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**20.05** Дакументальная гадзіна: «Піянеры зменаў. Іспанія», дак. фільм, 2010 г., Францыя.
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.15** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.45** Форум (ток-шоу).
**22.35** Фільматэка майстроў: «Дзяўчо з перлавай завушніцай», маст. фільм, 2004 г., Вялікабрытанія–Люксембург.
**00.10** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**00.30** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**00.45** Жаўтуха (сатырычная праграма).

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый
Бабруйск: (8 029) 628 75 01, Вольга
Мінск: (8 029) 178 31 68, Вольга
Слуцк: (8 044) 755 66 48, Марына

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб.

Дзякуй вам за падтрымку!

«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ______

Всего ______

Кассир

ВЫБАРЫ

# ДАЛОЎ СЛАНА, ДАЛОЎ АСЛА!

Алег НОВІКАЎ

**Хаця ЗША лічацца краінай з двухпартыйная сістэмай, на прэзідэнцкія выбары ідуць кандыдаты ад шматлікіх так званых «трэціх» партый.**




Відавочна, што стаць камусьці з іх прэзідэнтам свеціць не больш, чым беларускаму дэмакрату прайсці на восеньскіх выбарах у Палату прадстаўнікоў. Аднак калі ў нас гутарка ідзе пра байкот, у ЗША ўсё наадварот. Тут самыя маргінальныя палітыкі ўпарта рвуцца ў Белы дом.

Так вылучыць свайго кандыдата Prohibition Party (Партыя забароны) — самая старая пасля дэмакратаў і рэспубліканцаў з дзеючых партый у краіне. Ні адны прэзідэнцкія выбары з 1869 года (год заснавання партыі) не абыходзіліся без кандыдата, які б ні патрабаваў забараніць вытворчасць і продаж алкаголю (галоўны пункт партыйнай праграмы). І не проста патрабаваў. У пачатку 1920-х гадоў партыя мела свайго губернатара і, самае галоўнае, у рамках шырокай кааліцыі дабілася прыняцця сухога закона. Праўда, утрымаць поспех не здолела. Пасля таго, як у 1933 годзе сухі закон адмянілі, партыя хутка стала маргінальнай. Апошні раз дэпутат ад Prohibition Party быў абраны ў 1978 годзе. А на мінулых выбарах прэтэндэнт у Белы дом ад цвярознікаў набраў усяго 643 галасы. Магчыма, на гэты раз паказчык будзе лепшым. Партыю на выбарах прадстаўляе Джэк Фелюр. Дарэчы, ён патрабуе не толькі забароны гарэлкі і піва, аднак таксама цыгарэт і парнаграфіі.

Хаця Prohibition Party лічыцца самай старой трэцяй партыяй у Штатах, галоўная барацьба за бронзу разгорнецца паміж Зялёнымі, лібертарыянцамі (радыкальныя дэмакраты) і кансерватарамі з Канстытуцыйнай партыі.

Зялёных на выбарах–2012 прадставіць псіхіятр Джыл Стэйн. Нягледзячы на тое, што грамадская атмасфера для Зялёных вельмі спрыяльная — шмат маладых левых амерыканцаў шукаюць альтэрнатыву Абаме, — эколагі наўрад ці паўтораць сенсацыйны поспех 2000 года. На тых выбарах іх прадстаўнік Ральф Надэр не толькі атрымаў рэкордную колькасць галасоў (прыкладна 2 800 000), аднак, адцягнуўшы частку электарату дэмакратаў, здолеў не пусціць у Белы дом фаварыта кампаніі дэмакрата Альберта Гора. Аднак тая перамога аказалася для Зялёных піравай, паколькі прэзідэнтам у выніку стаў Джордж Буш-малодшы. З таго часу дэмакратычны электарат баіцца галасаваць на федэральных выбарах за Зялёных, каб трыумфатарам зноў не стаў кандыдат ад рэспубліканцаў. А вось на мясцовых выбарах — калі ласка: у Зялёных ёсць і мэры, і больш за 200 дэпутатаў розных узроўняў.

Яшчэ адзін негатыўны фактар для Джыл Стэйн — раскол Зялёных. На выбары таксама ідзе вядомая ў ЗША камедыйная акторка Розэн Бар. Яна прадстаўляе Партыю міра і свабоды, якую ў 1967 годзе стварылі хіпі-пацыфісты. Праграмныя маніфесты Джыл і Розэн амаль падобныя: праца, справядлівасць, грамадзянскія свабоды. З той розніцай, што Розэн лічыць: прэзідэнт ЗША павінен папулярызаваць медытацыю.

Наступная партыя — лібертарыянцы. Іх вядзе на выбары вельмі каларытная асоба — Гары Джонсан. Ён, былы губернатар штата Нью-Мексіка, спачатку хацеў пазмагацца з Мітам Ромні за намінацыю ад Рэспубліканскай партыі. Аднак пасля першых праймерыз адмовіўся і падаўся да лібертарыянцаў. На першы погляд, дзіўна, што рэспубліканец ідзе ад партыі, якая выступае сярод іншага за легалізацыю марыхуаны, дазвол на аборты, шлюбы для гомасексуалістаў і г.д.

Аднак трэба памятаць, што ў лібертарыянцаў ёсць адваротны бок. Як і большасць кансерватараў, яны лічаць, што неадэкватна вялікі, на іх думку, федэральны апарат трэба скарачаць, што ў сваю чаргу дазволіць скараціць фіскальную нагрузку. Менавіта радыкальнае скарачэнне падаткаў з'яўляецца фішкай выбарчай праграмы Джонсана. Калі праваднік лібертарыянцаў прыйдзе да ўлады, то ён скароціць бюджэт на 40 працэнтаў за кошт адмовы ад замежных вайсковых аперацый і касмічных праграм.

Джонсан не верыць у тое, што іранскі атам прадстаўляе нейкую сур'ёзную пагрозу міру. Гары таксама не супраць дэкрыміналізацыі наркотыкаў. Магчыма, таму, што нейкі час дактары прыпісалі яму паліць марыхуану ў медычных мэтах.

На мінулых выбарах зрабіла сюрпрыз Канстытуцыйная партыя, якая прадстаўляе ўльтраканserватыўны сегмент грамадства. Партыя, якая была заснавана ў 1992 годзе, па колькасці пададзеных за яе кандыдата галасоў стала трэцяй у краіне. Традыцыйна «канстытуцыяналісты» заклікаюць вярнуцца да спадчыны бацькоў-заснавальнікаў ЗША і дэцэнтралізаваць урад. Несці гэтую ідэю ў масы на выбарах будзе іх кандыдат Вірджыл Гуд. Ён не адзіны кандыдат-кансерватар. Другім будзе Том Хофлінг з Амерыканскай партыі, які марыць адмяніць федэральныя падаткі. Падобныя ідэі штурхае Андрэ Барнэт з Партыі рэфармістаў — яе калісьці заснаваў славуты мільянер Рос Перо, які ў 1992 годзе сенсацыйна набраў на выбарах прэзідэнта 18 працэнтаў.

Застаецца адзначыць, што пералічаныя асобы — не самыя правыя кандыдаты. Пальма першынства ў гэтай намінацыі, безумоўна, належыць Мерліну Мілеру, якога выставіла Амерыканская партыя трэцяй пазіцыі. Мерлін — хрэстаматыйны нацыст, які разважае пра місію белай расы і збіраецца знішчыць Галівуд, які, па яго словах, акупавалі яўрэі і касмапаліты. Не чакаючы перамогі, ён пабудаваў у штаце Тэнэсі сваю студыю, дзе працуюць выключна белаcкурыя кіношнікі. Застаецца дадаць, што кандыдат ад партыі трэцяй пазіцыі — асабісты вораг Мадоны і Таранціна, з якімі ён моцна пасварыўся. А вось Мэл Гібсан — яго вялікі сябра.

Годную канкурэнцыю Мерліну злева складае актывістка Пета Ліндсэй, якая, нягледзячы на свае 27 гадоў, таксама змагацца за прапіску ў Белым доме. Пета прадстаўляе марксісцка-ленінскую Партыю за сацыялізм і вызваленне, якая, калі меркаваць па праграме, падтрымліваe маладых эмігрантаў з Лацінскай Амерыкі. У выпадку перамогі Петы на выбарах, усе яны атрымаюць пашпарты і працоўныя месцы.

На левым флангу і кандыдат ад Партыі сацыялізму і роўнасці Джэром Вайт з планам нацыяналізацыі гігантаў амерыканскай аўтаіндустрыі. І трацкіст Джэймс Харыс ад Сацыялістычнай рабочай партыі. Не зразумела толькі, як Харыс вядзе нацыянальную выбарчую кампанію, паколькі яму забаронена, як патэнцыйнаму тэрарысту, лятаць на самалётах. У чорны спіс ён трапіў пасля 9–11 у тым ліку за тое, што ў маладосці ў рамках нейкага міжнароднага студэнцкага атрада дапамагаў будаваць сацыялізм на Кубе.

Ёсць на выбарах–2012 і амаль сектанцкія кандыдаты, кшталту Тома Стывена ад Партыі аб'ектывістаў. Стывен не хавае, што разглядае выбарчую кампанію як сродак для прапаганды філасофіі аб'ектывізму — дактрыны, якую заснавала вядомая антыкамуністка, літаратар і ліберальны філасаф Айн Рэнд.

Не ўсе кандыдаты ад трэціх партый такія арыгіналы, як містэр Стывен. Напрыклад, Партыя сучасных вігаў абараняе інтарэсы актыву розных няўрадавых арганізацый.

Відавочна, што ніводны з пералічаных палітыкаў прэзідэнтам не стане. Аднак выбары–2012 усё роўна ўвойдуць у гісторыю малых партый ЗША. Хаця б таму, што ўпершыню ў гісторыі мела месца спроба абраць альтэрнатыўнага рэспубліканцам і дэмакратам кандыдата праз інтэрнэт. Яшчэ ўзімку грамадзянская ініцыятыва Americans Elect правяла анлайн-галасаванне, у якім прынялі ўдзел каля 300 тысяч чалавек. Былі названыя першыя кандыдатуры. Аднак у выніку выбары зайшлі ў тупік з-за таго, што на форумах пачалася бясконцая лаянка. Давялося адмовіцца ад праэкту.

Аднак гэта не значыць, што на гэтым пастаўлена кропка. Паводле сацыялагічных даследаванняў, каля траціны амерыканцаў жадаюць стварэння трэцяй моцнай партыі ў краіне.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Расія ўступіла ў СГА. Зараз яе партнёрам па Мытным саюзе будзе нашмат цяжэй падтрымліваць неканкурэнтаздольныя галіны за кошт абарончых мыт, а грошай на абнаўленне інфраструктуры і «перавыхаванне» менеджараў у Беларусі няма. Зразумела, калі з-за зніжэння мытных збораў імпартныя прадукты будуць для беларусаў больш даступнымі, спажыўцы зменяць густы. 22 жніўня Мінгандаль Беларусі спыніў выдачу разавых ліцэнзій на імпарт алкагольнай прадукцыі. У ведамстве падкрэсліваюць, што іх рашэнне звязанае з уступленнем Расіі ў СГА. Першыя прыкметы праблемы відавочныя.

**«Росбалт» (Расія)**

Цалкам магчыма, што гэта супадзенне, але супадзенне цікавае — паводле дадзеных Міхаіла Пашкевіча, у адзін і той ж час у кафэ «Грунвальд» заходзіў і Жаныбек Бакіеў, і мясцовы палітолаг, кіраўнік аналітычнага цэнтра ЕСООМ Сяргей Мусіенка. Апошні ў красавіку 2010 года выступіў у абарону экс-прэзідэнта Курманбека Бакіева, заявіўшы, што ў таго «ёсць нямала шанцаў зноў узначаліць Кіргізію».

**«Независимая газета» (Расія)**

Тэрмін паўнамоцтваў Лукашэнкі заканчваецца ў 2015 годзе, прычым наўрад ці першы і адзіны беларускі прэзідэнт пойдзе на пяты «заход». На кандыдатуру пераемніка з боку гаранта пакуль намёкаў ніякіх, аднак Уладзімір Макей відавочна выглядае пераважней за іншых — адносна малады, амбіцыйны, медыйна раскручаны і папулярны ў народзе. У такім кантэксце яго новае месца працы можна лічыць паніжэннем: па ступені ўплыву — пасада начальніка прэзідэнцкай адміністрацыі непараўнальна вышэй. З іншага боку, ва ўмовах частковай знешнепалітычнай ізаляцыі кіраўнік МЗС фактычна становіцца другой асобай краіны пасля Лукашэнкі ў вачах сусветнай супольнасці і саміх беларускіх грамадзян. Калі на міжнароднай ніве атрымаецца дабіцца відавочных поспехаў, перамога на наступных прэзідэнцкіх выбарах Макею гарантаваная.

**«Политком» (Расія)**

Застаючыся ўбаку ад ацэнкі сітуацыі ў Беларусі ў цэлым, Вялікабрытанія выклікала незадаволенасць беларускага кіраўніка, падтрымаўшы візавую забарону ЕС і пазбавіўшы яго магчымасці назіраць за выступам сваёй каманды на Алімпійскіх гульнях у Лондане. Лукашэнка зарэкамендаваў сябе ў якасці запальчывага і непрадказальнага палітыка. Тое, што адбудзецца ў наступных месяцы, у чаргову раз вынесе беларускую тэму на пярэдні план еўрапейскай палітыкі. Малаверагодна, што брытанскі ўрад зможа заставацца ўбаку. Магчыма, хуткім часам мы ўбачым невялікія, але рэальныя крокі нашага ўрада ў падтрымку дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі.

**«New Stateman» (Вялікабрытанія)**

Адкліканне з Мінска амбасадара Кыргызстана — краіны, якая разам з Беларуссю з'яўляецца сябрам АДКБ (гэта значыць фармальна, але з'яўляцца саюзнікам РБ), — можна лічыць чарговай праявай вельмі непажаданай, але адначасова практычна традыцыйнай для афіцыйнага Мінска тэндэнцыі — глабальнай міжнароднай ізаляцыі. Нагадаем, што ўсяго пару тыдняў таму зачынілася беларускае пасольства ў Стакгольме і шведскае дыпламатычнае прадстаўніцтва ў беларускай сталіцы. Беларусь няўхільна ізалюецца па ўсіх вектарах, што з'яўляецца цікавым вынікам неаднаразова дэклараемай за апошнія два дзесяцігоддзі шматвектарнай знешняй палітыкі.

**Politoboz.com (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЛУМБІЯ. ІНДЗЕЙЦЫ ПАТРАБУЮЦЬ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

Мірныя перамовы паміж уладамі і партызанамі з лявацкай групоўкі FARC, здаецца, не дадуць канчатковага міру. Арганізацыі індзейцаў племені Каука абмяркоўваюць ідэю абвяшчэння аўтаноміі. На думку індзейцаў, пераход тэрыторый пад кантроль тубыльцаў не дазволіць ні партызанам, ні дзяржаўным войскам весці тут вайну, заложнікамі якой з'яўляюцца індзейцы. Такая пастаноўка пытання не супярэчыць прынятай у 1991 годзе канстытуцыі, якая абвяшчае Калумбію шматнацыянальнай краінай, і нават прызнае права на аўтаномію для нацмэнаў. З іншага боку, закон забараняе аўтаномным адміністратыўным адзінкам мець свае вайсковыя сілы, што індзейцы разглядаюць як галоўную ўмову сваёй дзяржаўнасці. Лідары Каука цяпер звяртаюць увагу на тое, што калумбійскія законы супярэчаць міжнароднаму праву. У дэкларацыі ААН пра правы карэнных народаў апошнім дазваляецца мець свае вайсковыя фармаванні, калі гэта садзейнічае грамадскаму міру. Як бы тое ні было, дэбаты пра аўтаномію індзейцаў у Калумбіі пачаліся.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. ЦІКАВАЯ ГІСТОРЫЯ МАРДВЫ

Святкаванне тысячагоддзя ўваходжання мардвінаў у склад расійскай дзяржавы, якую 23 жніўня адзначылі ў Саранску (сталіца Мардвінскай аўтаноміі), выклікала шок не толькі з боку гісторыкаў, аднак нават у тых, хто не вельмі разбіраецца ў гісторыі. Справа ў тым, што ў 1985 годзе ў Мардовіі ўжо святкавалі ўваходжанне мардвы ў склад Расійскай дзяржавы. Праўда, тады святкавалі пяцісотгоддзе. Акрамя таго, усім вядома, што Расійская дзяржава пачала фармавацца напрыканцы XV стагоддзя. Зразумела, і да гэтага часу існавалі княствы, аднак яны былі раз'яднаны і не пра якую дзяржаўнасць гаворкі ісці не магло. Аргументацыя прыхільнікаў правядзення свята не вытрымлівае ніякай крытыкі. Яны кажуць пра нейкія магільнікі, дзе роўна тысячу гадоў таму з'явіліся прадметы са знакам аднаго наўгародскага князя. Аднак, на думку гісторыкаў, хутчэй за ўсё, тыя артэфакты трапілі ў Мардву пасля набегу войска Залатой Арды, у склад якой уваходзіла мардва, на Рускія землі. Усе гэтыя нестыкоўкі заканамерна выклікалі плёткі пра тое, што ўлады Саранску проста прыдумалі свята тысячагоддзя, каб атрымаць грошы з федэральнага цэнтру. Называецца лічба ў 19 мільярдаў рублёў. Адмовіць Масква не магла: Мардовія — другі рэгіён у Расіі пасля Чачні па колькасці выбаршчыкаў, якія галасуюць за «Адзіную Расію».

**Паводле расійскай прэсы**

### УКРАІНА. КАТЫ СУПРАЦЬ ЯНУКОВІЧА




Ва Украіне паўстаў апазіцыйны рух, які называецца «Рух катоў». Чыннікам яго стварэння стаў скандал вакол білборда ў Днепрадзяржынску з выявай бабулькі і надпісам: «Даведалася, што ўнук прагаласаваў за «Рэгіёны» — перапісала кватэру на ката». Білборд улады знялі, на яго аўтара завялі крымінальную справу. Гэта выклікала сярод аранжавых павальную моду на катоў. А цяпер справа дайшла да стварэння цэлай кашачай партыі. А аўтары праекта ў сваім устаноўчым дакуменце, які называецца «маніхвост», кажуць, што каты перажылі дыназаўраў і дакладна пераживуць Партыю рэгіёнаў. Застаецца дадаць, што ў якасці сімволікі каты чамусьці выкарыстоўваюць бел-чырвона-белы сцяг. Кажуць, ім проста спадабалася песня «Не будзь скотам» «Ляпіса Трубяцкога», у кліпе якой шмат такіх сцягоў. На думку стваральнікаў партыі, лозунг "Не будзь скотам" добра рыфмуецца з фразай «Будзь котам».

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. ПОМНІК ЛІДАРУ КУ-КЛУС-КЛАНУ

У штаце Алабама ўлады аднаго з гарадоў задумалі паставіць манумент свайму вайскоўцу часоў грамадзянскай вайны Натану Форэсту. На першы погляд, нічога дзіўнага, тым больш, што помнікі яму ёсць у іншых гарадах поўдня ЗША. Справа ў тым, што тыя помнікі ставілі раней, калі расізм не ўспрымаўся як вялікае злачынства. Сам Натан вядомы як адзін з герояў арміі канфедэратаў і заснавальнік расісцкай арганізацыі Ку-Клус-Клан. Нядзіўна, што ў нашы дні спроба ўстанавіць помнік заўзятаму расісту выклікала пратэсты прагрэсіўнай і чарнаскурай грамадскасці. Апошняя кажуць, што паставіць помнік Натану — тое ж самае, што ўстанавіць помнік Гітлеру ў Ізраілі. Яны таксама ўзгадваюць адзін эпізод вайны, калі Натан і яго жаўнеры забілі групу дзяцей і жанчын. Аматары помніка, у сваю чаргу, кажуць, што напрыканцы жыцця Натан адмовіўся ад кантактаў з ККК.

**Паводле амерыканскай прэсы**

ДЫСКУСІЯ

# КАЛІ МЕДАЛЬ НЕ Ў РАДАСЦЬ

**Алег НОВІКАЎ**

**Алімпіяда ў Лондане стала для Казахстана самай лепшай у гісторыі. Аднак усё гэта амаль толькі за кошт легіянераў, што заканамерна выклікала дыскусію, ці патрэбны нацыі такія перамогі. Прапануем агляд казахскай блогасферы і аналітыкі.**



Сем залатых, адзін срэбны і пяць бронзавых медалёў. Адпаведна, 12-е месца ў камандным заліку. У пераліку на колькасць насельніцтва гэта лепшы вынік сярод краін СНД. Здавалася, казахскі патрыёт можа толькі радавацца і ганарыцца алімпійцамі. Нічога падобнага. Трыумфальнае шэсце алімпійцаў Казахстану выклікала незадаволенасць значнай часткі грамадства. Прычына — сярод шасці залатых прызёраў гульняў да апошняга дня не было ніводнага прадстаўніка казахскага этнасу.

«Чыноўнікі, каб задаволіць свае апетыты, купляюць на народныя грошы легіянераў, што не ёсць правільна. Калі гнілы рэжым затрашчыць па швах — будзе перагледжана палітыка. А пакуль акрамя нур-атанаўцаў (Нур Атан — праўладная партыя ў Казахстане), ніхто асабліва не цешыцца гэтымі алімпійскімі перамогамі. Простаму народу не да іх», — адзначыў блогер Агай.

Нават чыноўнікі прызналі перакос наконт колькасці легіянераў. Прэзідэнт Федэрацыі студэнцкага спорту Казахстана Кайрат Закір'янаў адзначыў: «Вынік у параўнанні з Алімпіядай у Пекіне, вядома, каласальны, але я лічу, што гімн Казахстана павінен гучаць у гонар казахаў. У нас з сямі залатых медалёў толькі адзін заваяваў этнічны казах. Дух спорту і патрыятызму ахапіў увесь Казахстан, мы ж жылі Алімпіядай усе гэтыя дні, але ў большасці гэта заслуга легіянераў. Я не прыхільнік чужых спартоўцаў, у далейшым нашу краіну павінны прадстаўляць тыя, для каго Казахстан з'яўляецца радзімай».

Feuerdrachen піша: «Імпарт замежных спартоўцаў прывядзе толькі да ўзмацнення міжнацыянальнай варожасці. Гэтак жа, як і імпарт кітайскай працоўнай сілы прыводзіць да адчування казахамі сваёй непатрэбнасці ва ўласнай краіне».

Здаецца, так і адбываецца, паколькі ў інтэрнэце ўзнікла тэорыя пра тое, што спартыўны дух змагання супярэчыць казахскаму менталітэту. «Правільна сказана, «што пасееш, тое і збярэш». Кожны атрымлівае медалі па сваёй працы. Ні для каго не сакрэт, што лянота — якасць, уласцівая большасці нашых казахаў, да таго ж вядомая карумпаванасць сярод саміх казахаў (гэта значыць, сярод трэнераў). А так у нас нямала здольных барцоў, баксёраў, што могуць заваяваць золата... Таму не маюць сэнсу такія дурныя пытанні: «Чаму не казахі?» — піша нехта Жулдыз Абдыльда.

Як і трэба было чакаць, некаторыя думаюць, што ўлады натуралізавалі так шмат замежных спартсмена, каб любым коштам адцягнуць інтарэс публікі ад судовай расправы над удзельнікамі рабочых пратэстаў у Жанаазене.

Нарэшце, шмат казахскіх патрыётаў пабачылі ў поспехах легіянераў пагрозу асіміляцыі карэннай нацыі. Справа ў тым, што некаторыя аналітыкі трактавалі ў большасці пазітыўную рэакцыю грамадства на перамогі ў Лондане як прыкмету гатоўнасці казахаў прыняць так званую грамадзянскую, а не нацыянальную формулу казахскага нацыяналізму.

«Падчас Алімпіяды выразна выяўляліся прыкметы грамадзянскага нацыяналізму. Гэта значыць, жыхары Казахстана не акцэнтавалі ўвагу на нацыянальнасці пераможцаў і прынялі перамогу прызёраў як агульную для ўсіх. Алімпіяда паказала, што ў Казахстане існуе мадэль грамадзянскага нацыяналізму, — піша палітолаг Рустэм Кадыржанаў.

Такую пазіцыю падтрымалі нават некаторыя лібералы. Так, казахская служба Радыё «Свабода» цытуе аднаго з мясцовых праваабаронцаў. Ён сцвярджае: «Алімпійскія перамогі аб'ядналі казахаў, далі нам магчымасць адчуць сябе адзінай паспяховай нацыяй. Зараз грамадству трэба накіраваць сілы на перамогі ў рэалізацыі правоў чалавека, на дэмакратызацыю палітычнай сістэмы і стварэнне адзінай грамадзянскай нацыі».

Такі падыход да вынікаў Лондана–2012 яшчэ больш насцярожыў нацыяналістаў. Праблема ў тым, што гэта рыторыка пра грамадзянскі нацыяналізм вельмі моцна нагадвае нядаўнюю ініцыятыву ўраду наконт стварэння новай нацыі «казахстанцы», што лагічна патрабуе знішчэння ў пашпарце графы «нацыянальнасць» і тэрміна «казах». Справа ў тым, што ў Казахстане праблема нацыянальнага дуалізму. Рускамоўныя называюць сябе «рускімі», а казахі — «казахамі». Каб аб'яднаць грамадства, і прыдумалі новы народ «казахстанцы».

У спрэчках наконт «казахстанцаў» моцна гучалі галасы пратэсту прадстаўнікоў інтэлігенцыі, якія ўбачылі тут намер асіміляцыі казахаў як асобнага этнасу. У выніку пратэстаў (адзін пісьменнік нават абвясціў галадоўку) ад ідэі стварэння «казахстанцаў», здаецца, адмовіліся. І вось цяпер улада дзякуючы спорту атрымала шанец зноў рэанімаваць стары план. Прычым на гэты раз пры падтрымцы ліберальнай часткі апазіцыі.

Такая перспектыва папросту раз'юшыла свядомых казахаў. «Соплі распусціў? Казахскую мову лепш вучы. Не трэба ісці супраць плыні... а свае тэрміны, накшталт «ура-патрыятызму», пакінь для іншых краін і народаў. Тут Казахстан, а не Амерыка. Нам, казахам, не трэба даказваць, што мы — казахі, і што тут зямля нашых продкаў. Флэш-мобы пакіньце сабе... Не трэба тут жаргон — а-ля дэмакратыя — разводзіць. Казахстан — гэта старажытная зямля са старажытнымі традыцыямі. І вы не ў сілах гэта змяніць, як бы вы ні імкнуліся, тут не Еўропа. Так, я ў адрозненне ад цябе, гарадскога мігранта, капаўся ў гноі ўсё дзяцінства, прыбіраў за каровамі, баранамі, канямі, я — працоўны чалавек, я з аула. Казахстан — толькі па шляху ўмацавання казахскай дзяржаўнасці. Калі табе гэта не падабаецца, гэта твая праблема. Не стой на шляху ў табуну коней...» — піша нехта Алдаспан на адным з форумаў.

Лібералы ў сваю чаргу кажуць, што іншага выйсця, каб забыць пра графу «нацыянальнасць», у Казахстана, калі ён хоча быць дэмакратычнай сучаснай дзяржавай, папросту няма. Блогер Астана піша: «Нідзе ў свеце так пытанне не ставіцца. Толькі ў Казахстане, як заўсёды, пачынаюць выцягваць соплі з ноздраў. Якая розніца, які нацыянальнасці чалавек. Галоўнае, што ён грамадзянін краіны. Паглядзіце на каманду ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі і інш. Галоўным чынам негры прадстаўлены ў гэтых камандах. Але ніхто так пытанне там не ставіць. Час нам пазбаўляцца ад гэтых комплексаў, калі мы жадаем стаць цывілізаванай дзяржавай».

Пакуль што спрэчкі казахаў вакол Лондану–2012 працягваюцца, аднак нават не ведаючы іх фіналу можна казаць пра тое, што пагоня за медалямі згуляла дрэнны жарт з Астаной. Замест эйфарыі і ўгару лаяльнасці і патрыятызму, улады атрымалі яшчэ большы раскол грамадства па нацыянальнаму пытанню і садзейнічалі такой з'яве, як адчужэнне людзей ад дзяржавы, што, з улікам мясцовай спецыфікі, часта спрыяе росту інтарэсу да радыкальных тэорый ісламу.

Хаця нехта Ергенекон ужо прыдумаў хітры план, як зарыраць рускіх і казахаў: «Туркі нас завуць KAZAKiSTAN, разумеючы, што мы казакі, а не казахі. Мне здаецца, што пераход на саманазву «КАЗАК» будзе вітацца нашымі рускімі — яны могуць заганарыцца і сказаць: «Нашу гістарычную назву «казак» нам вярнулі цюркі-казахі».

НАТАТКІ

# АД ВЕДЗЬМАКОЎ ДА КІРОЎЦАЎ ДРАКОНАЎ

Алег НОВІКАЎ

**Мой самы незабыўны эпізод гэтага лета — тусоўка на еўрапейскім сходзе шаманаў, ведзьмакоў і іншых аматараў акультных навук.**

Шабаш, на які знаёмыя ўладкавалі мяне перакладчыкам, адбываўся каля гораду Ньюпарт, што на так званай бельгійскай Рыўеры (курортная паласа ўздоўж Паўночнага мора). Менавіта ідэя адпачыць на халяву на моры прымусіла мяне падмахнуць кантракт. Аднак па прыбыцці мяне чакаў аблом. Тая бельгійская Рыўера — бясконцыя шэрагі гатэляў і катэджаў паміж дзюнамі, адстойнае для адпачынку месца. Вада халодная, не пакупаешся, а публіка — сямейныя з дзяцьмі і пенсіянеры.

Аднак сумаваць па кастрах, гітарах, шашлыках, нудыстах і іншых забабонах нашага турызму не давялося. Усё гэта лёгка кампенсавалі зносіны з удзельнікамі канферэнцыі «Глабальная чалавечая інспірацыя», на якой давялося перакладаць.

Арганізатарам мерапрыемства выступіла Міжнародная сетка дыхання (IBF). IBF, або, як яны самі сябе называюць, «рэбёферы» (ад англійскага «rebirthing» —«перараджэнне»). Гэта адна з шматлікіх фракцый New Age — акультнага руху, які ўтварыўся ў другой палове XX стагоддзя. Галоўную мэту New Age — асабісты імклівы духоўны рост — заснавальнік IBF амерыканец Леанард Ор прапанаваў вырашыць праз дыханне. Ён прыдумаў метад дыхальнай псіхатэхнікі.

Асноўныя ідэі Ора — кожны чалавек перажывае пры нараджэнні псіхічную траўму, памяць пра якую хаваецца ў душы, а гэта мае негатыўны эфект на працягу ўсяго яго жыцця. Вызваленне ад схаваных негатыўных перажыванняў магчыма праз правільнае дыханне. Плюс, па меркаванні прыхільнікаў rebirthing, гэта мае дадатковы тэрапеўтычны эфект. Па словах крытыкаў Ора, увесь сакрэт у тым, што ў выніку змены тэмпу дыхання ў мозг паступае больш кіслароду, што выклікае галюцынацыі.

Хаця, калі верыць Вікіпедыі, дасюль няма пэўных кантраляваных клінічных даследаванняў, якія пацвярджаюць эфектыўнасць rebirthing, прыхільнікаў у гэтага вучэння хапае. У Ньюпарт іх з'ехалася каля 150 чалавек. Геаграфія — ад Новай Зеландыі і Эквадора да ЗША і Кеніі.

Аднак «рэбёферы» — гэта яшчэ не поўная «клініка», некаторыя сцэны сеансаў дыхання шакавалі. Па-першае, людзі ў выніку частага дыхання засынаюць, а ў некаторых выпадках сапраўды ўпадаюць у нейкі транс, падчас якога плачуць, енчаць і нават лезуць абдымацца. Па-другое, выклікаў усмешку аналіз сноў, якія праводзілі інструктары семінараў. Яны патрабавалі, каб удзельнікі мерапрыемства ўзгадвалі самыя



малыя фрагменты сну. Пасля пабачаным у сне прадметам або выявам надаваўся глабальны сэнс. Так, поні чамусьці сімвалізаваў праблемы ў сям'і.

Аднак вернемся да тых, хто наведаў канферэнцыю. Паколькі rebirthing — дастаткова папулярны накірунак New Age, у Ньюпарт заявіліся прадстаўнікі амаль усіх секцый гэтага руху. Яны называлі сябе ведзьмакамі, ёгамі, шаманамі, самураямі, магамі. Адна бабулька з Бельгіі нават прадстаўлялася як Баба Яга. Яна насіла сандалі рознага колеру і патрабавала, каб мы адмовіліся ад сваёй жаночай або мужчынскай прыроды на карысць інтэграцыі абодвух гендэрных полюсаў.

Госці адразу навязалі ўдзельнікам канферэнцыі свае шматлікія культы. Каму мы толькі не маліліся на працягу аднаго тыдня працы канферэнцыі! Кароткі пералік аб'ектаў рэлігійнай пашаны: маці-зямля, сусветны розум, усе чатыры напрамкі свету, бог народу майя з вельмі складаным імем, якое я забыў. Фінішам стаў семінар нейкай мексіканкі. Яна разбіла ўсіх прысутных на пары і прымусіла па чарзе кланяцца адзін аднаму як богу. Давялося і мяне нейкі час пабыць валадаром сусветаў. У прынцыпе, прыемна.

Увесь гэтыідавочны сінкрэтызм чамусьці не выклікаў пратэстаў прысутных. Аматары маці-зямлі маліліся агню, які запалілі на адкрыцці сустрэчы, і наадварот. Склалася ўражанне, што для прысутных гэта своеасаблівая гульня.

Увогуле, прыхільнік эзатэрычных культаў у Еўропе, калі аналізаваць па Ньюпарту, належыць да ніжэйшай часткі сярэдняга класа. Шмат было жанчын сярэдняга ўзросту, якія шукаюць з дапамогай эзатэрыкі і, асабліва, астралогіі сваю другую палову або вырашаюць сямейныя праблемы. Складаецца ўражанне, што асноўная кліентура эзатэрычных кантор знаходзіцца на Захадзе. Моладзі было няшмат. Здаецца, сэнс жыцця ў маладым узросце знайсці працай.

Увогуле, аказваецца, метафізіка ў Еўропе — вялікі бязмежны рынак. На продаж ідзе ўсё — ад талісманаў для знясця чараў да барабанаў афрыканскіх шаманаў. З Галандыі прыехала каманда радыёстанцыі, якая асвятляе выключна гэту тэматыку. Нарэшце, канферэнцыя была папросту завалена рэкламнымі праспектамі розных гуру, якія за невялікую суму абяцалі адкрыць сэнс жыцця і зрабіць вас абсалютна шчаслівым.

Якія толькі фокусы ні выкарыстоўваюць пры гэтым! Прымушаюць лезці голым у нейкую юрту і гадзінаў пяць сядзець унутры, разважаючы пра глабальныя праблемы быцця. Або, напрыклад, танчыць танга з заплюшчанымі вачыма. Стваральнік гэтай школы — немец з Франкфурта-на-Майне — кажа, што сляпое танга дапамагае пабачыць продкаў. Жанчын прымушаюць класціся на рукі мужчын ды плакаць і г.д.

На жаль, не давялося наведаць усе семінары. Так, з-за неабходнасці ўвесь час перакладаць, так і не дайшоў да семінару «Як стаць кіроўцам сваіх драконаў». Думаю, гэта было яшчэ тое шоў. Вядучая семінару хадзіла ў японскім кімано і насіла з сабой самурайскія мячы. А вось на семінар, арганізатар якога абяцаў навучыць цела з дапамогай індзейскіх практык пераносіць холад, як сабака, я сам не пайшоў: быць марозаўстоўлівым, нібы барбос, пачынаглі вучыць а 6-й раніцы.

Яшчэ на адзін семінар мяне не пусцілі з-за палавой сегрэгацыі. Жанчыны правялі вядзьмарскі шабаш. Шабаш меў высакародную задачу — супакоіць душы жаўнераў, якія загінулі ў Першай сусветнай вайне. Ньюпарт, для даведкі, знаходзіўся ў 1914–1918 гадах роўна на лініі фронту паміж немцамі і Антантай. Побач з месцам правядзення канферэнцыі — вядомы са школы горад Іпр, дзе ўпершыню ў гісторыі адбылася хімічная атака. Было цяжка ўявіць, што на месцы, дзе зараз спяваюць нейкія шаманскія мелодыі, калісьці праходзілі траншэі. Хаця тэма ведзьмаў Ньюпарту блізкая. Якраз напярэдадні канферэнцыі ўлады Ньюпарта рэабілітавалі шэсць жанчын, якія ў сярэднявечныя часы сталі ахвярамі палявання на ведзьмаў.

Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, людзі на канферэнцыі пакінулі добрае ўражанне. Падчас фінальнага капусніка яны нават жартавалі з сябе, абыгрываючы падабенства абрэвіятур IBF і FBI — славутай амерыканскай Федэральнай службы вышуку. Па сюжэту мініяцюры агенты ФБР прымушалі нейкага чалавека з дапамогай метадаў спецслужбаў правільна дыхаць. Падчас фінальнага шоу ў зале адчувалася добрая сяброўская атмасфера. З'явілася думка — прысутных ведзьмаў і шаманаў (як правіла, немаладых ужо людзей) сабрала не магія, а банальная патрэба быць у добрай кампаніі.

А ў наступным годзе канферэнцыя IBF пройдзе ў Індыі. Рашэнне пра яе правядзенне прымалі вельмі весела. Адзін з галасуючых перад тым, як прагаласаваць, папрасіў паўзу, каб паслухаць, што яго цела думае наконт паездкі ў Дэлі. Цела трошкі падумала і, як сказаў яго ўладальнік, прагаласавала «за».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ГЕНАДЗЬ МАСКАЛЬ



Народны дэпутат ад партыі «Наша Украіна», здаецца, прыдумаў, як сарваць рэалізацыю новай рэдакцыі Закону аб мовах, які дазваляе на месцах выкарыстоўваць замест украінскай мовы, іншую (як правіла, рускую). Маскаль перадаў на разгляд профільных камітэтаў Вярхоўнай рады праект закона пра наданне гуцульскай мове статуса рэгіянальнай. Ініцыятыва яўна правакацыйная, паколькі гуцулы — гэта субэтнас. Акрамя таго, пра іх ходзяць шмат анекдотаў, што надае законапраекту яўна іранічны каларыт. Пакуль не зразумела, як улада будзе рэагаваць на незвычайную правакацыю. У любым выпадку, яна з новым законам трапіла ў вялікую юрыдычную пастку. Так, статуса рэгіянальнай мовы можа патрабаваць сёння кожны малы народ. Так, напрыклад, у Крыму жадаюць вучыць дзяцей на караімскай, крыма-татарскай і грэчаскай мовах, што пагражае як мінімум бюракратычным хаосам. Далей за ўсіх пайшла кіеўская арганізацыя Партыі рэгіёнаў. Яна прапанавала абвесціць англійскую мовы рэгіянальнай у Ківе.

### ЮРГЕН ТРЫЦЫН



Адзін з лідараў нямецкай партыі Зялёныя, па меркаванні прэсы, хутчэй за ўсё, узначаліць выбарчы спіс партыі на выбарах у бундэстаг у наступным годзе. Гэта значыць, што ў выпадку стварэння па выніках выбараў кааліцыі сацыял-дэмакратаў і Зялёных, Трыцыну, паводле традыцыі, дастанецца партфель дырэктара МЗС або дэпартаменту фінансаў. Якія б пасады ў складзе новага ўраду не дасталіся эколагам, Германію ў выніку прыходу Юргена да ўлады чакаюць цікавыя часы. Справа ў тым, што Трыцын — вельмі каларытная фігура. Ён пачынаў палітычны шлях напрыканцы 1970-х як фанат Мао Цзэдуна. Пасля быў пянерам руху Зялёных і разам з імі трапіў у парламент. У кабінеце Герхарда Шродэра Трыцын адказаў за міністэрства экалогіі і дабіўся рашэння пра паступовы вывад усіх нямецкіх АЭС з эксплуатацыі. Тое, што ён, хоць і быў сябрам вельмі непапулярнага напрыканцы сваёй кадэнцыі кабінета, не страціў папулярнасці, характарызуе яго як сапраўднага прафесійнага палітыка. Дарэчы, шмат хто лічыць, што сваёй неўміручасцю Трыцын абавязаны вывучэнню спадчыны Леніна ў маладосці. Як і Ленін, Трыцын — спецыяліст па заключэнні кампрамісаў, якія ў выніку карысныя толькі яму.

### БАСМА КАДМАНІ

Адна з лідараў сірыйскай апазіцыі, што адказвае ў яе вышэйшым органе — Нацыянальным савеце (CNS) — за міжнародныя кантакты, 28 жніўня падала ў адстаўку. Афіцыйны матыў — адсутнасць даверу паміж сябрамі Нацыянальнага савета. Між тым, шмат хто звязвае дэмарш Кадмані з вылазкай партызанскай Арміі вызвалення Сірыі, якая падазраецца ў выбуху бомбы ў хрысціянскім раёне Дамаска, у выніку якога былі забітыя 27 чалавек. Так ці інакш, сыход Кадмані выкрыў шмат праблем унутры апазіцыі. Нагадаем, што цяпер як мінімум дзве арганізацыі апазіцыі змагаюцца за правы называцца пераходным урадам. Канкуруючы з CNS, Нацыянальны камітэт каардынацыі за дэмакратычныя змены (CNCD) заклікаў Анкару і Захад, якія дапамагаюць CNS, пераарыентавацца на яго. Скарыстаўся сітуацыяй і афіцыйны Дамаск. На 12 верасня ў Дамаску прызначана сустрэча памяркоўнай апазіцыі, якая можа стаць трэцім полюсам сірыйскага апазіцыйнага лагеру.



ЦІКАВА

# НЕВЯДОМАЯ ВАЙНА Ў БЕЛАРУСКІМ ПАЛЕССІ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ,
кандыдат гістарычных навук

**Гісторыя дзейнасці атрадаў Украінскіх нацыяналістаў (АУН — УПА) на тэрыторыі Заходняй Украіны падрабязна даследавана гісторыкамі постсавецкай прасторы. Стаўленне да гэтых ваенізаваных фарміраванняў неадназначнае. Ва Украіне іх называюць змагарамі за незалежнасць, у Польшчы — бандытамі і злачынцамі, у Расіі — фашысцкімі «прыхвастнямі». Архіўныя дакументы сведчаць, што атрады ўкраінскіх нацыяналістаў з канца 1930-х і да сярэдзіны 1950-х гадоў актыўна дзейнічалі на тэрыторыі паўднёвых абласцей Беларусі.**



Баец УПА



Українська Повстанча Армія
Група "Турів"
Зн: 11Б-92/43

Простір, дня 25.XII.43 р.

КАРТА ВІДПУСКУ

На основі наказу Командира Української Повстанчої Армії № 26 з дня 6 грудня 1943 р., відпускається Хорунжий Танкіст до с. Савуниці р. Бережецький на час від 25.XII.43 р. до 9.I 1944р. включно на відпустку.

Означеного дня вищезгаданий зголоситься в Команді Групи до приділу.

Слава Україні!

Шеф Штабу:
в.з./Л.Яворенко/

Командир Групи:
/Рудий/

Дакумент УПА

Украінцы пачалі ствараць свае палітычныя і вайсковыя структуры на Брэстчыне і Піншчыне яшчэ ў 1930-х, калі ўвесь палескі рэгіён знаходзіўся ў складзе адной дзяржавы — Другой Рэчы Паспалітай. Пасля далучэння Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны да СССР у верасні 1939 года ўкраінскія арганізацыі працягвалі актыўна дзейнічаць на тэрыторыі паўднёва-заходніх абласцей БССР. Савецкія рэпрэсіўныя органы займаліся ў асноўным «польскім кантынгентам», таму ўкраінскія нацыяналісты атрымалі некаторы карт-бланш. Дарэчы, у 1940 годзе на тэрыторыі Брэсцкай вобласці дзейнічала 60 украінскіх школ.

У час Вялікай Айчыннай вайны паўднёвыя раёны Беларусі, акупаваныя нацыстамі, былі ўключаныя ў рэйхкамісарыят «Украіна», што справакавала ўсплёск актыўнасці аўнаўцаў на беларускай тэрыторыі. Напрыклад, у адной з разведзводак НКУС БССР за жнівень 1941 года ў прыватнасці адзначалася, што «ўкраінскія нацыяналісты сумесна з нямецкімі акупантамі праводзілі сярод насельніцтва Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці контррэвалюцыйную агітацыю за самасційную Украіну».

У 1941 годзе адзін з лідараў украінскіх нацыяналістаў і кіраўнік «Палескай сечы» Тарас Баравец (Тарас Бульба) прысвоіў сваім ваенізаваным фармаванням назву — Украінская паўстанцкая армія (УПА). У жніўні таго ж 1941-га атрады УПА (каля 10 тысяч) сумесна з падраздзяленнямі Беларускай Самаахovы (БСА) (5 тысяч) правялі «зачыстку» Палесся ад «акружэнцаў». Тады ў палескіх балотах адбывалася па сутнасці грамадзянская вайна, у якой немцы, часцяком, былі толькі назіральнікамі. Пад Мазыром украінскія і беларускія фарміраванні злучыліся, утварыўшы своеасаблівы «крывавы палескі кацёл».

Да моманту вызвалення БССР ад нацысцкай акупацыі ў 1944 года, паўночней Буга дзейнічалі значныя сілы АУН, аб'яднаныя Брэсцкім акруговым провадам пад кодавай назвай «Крычаўскі». У 1948 годзе гэтую структуру перайменавалі ў Беларускі акруговы провад «Ніва», які да 1952-га аб'ядноўваў 3 надраённыя провады: Брэсцкі, Кобрынскі і Пінскі. Акрамя тэрытарыяльных звёнаў АУН на тэрыторыі Брэсцкай, Пінскай і Палескай абласцей БССР у 1944 годзе знаходзіліся падпарадкаваныя ім узброеныя фарміраванні УПА. Усяго да лета 1944 года на тэрыторыі Беларусі фарміраванні АУН — УПА налічвалі прыкладна 12–14 тысяч чалавек. У адной толькі Брэсцкай вобласці ў 1944 годзе дзейнічала 120 невялікіх атрадаў АУН — УПА (па 7–10 чалавек у кожным). Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў украінскія партызаны зрабілі стаўку на ваенныя аперацыі супраць частак савецкай арміі, унутраных войскаў, тэрытарыяльных органаў НКУС і НКДБ, савецкага партактыву. Найбольш інтэнсіўна на тэрыторыі БССР дзейнічалі атрады Дворкі, Ярмака, Канапелькі, Артэмчука, Юшчыка, Саўчука і інш. Атрады УПА актыўна займаліся распаўсюджваннем улётак і розных заклікаў да насельніцтва. На думку некаторых беларускіх даследчыкаў, агітацыйныя матэрыялы друкаваліся ў Пінску. Дарэчы, улёткі распаўсюджваліся не толькі ў вёсках, але і ў гарадах, напрыклад, Іванава і Драгічыне. Тэксты заклікаў у асноўным друкаваліся на ўкраінскай мове, але сустракаліся ўлёткі і на рускай.

Барацьба з украінскім нацыяналістычным падполлем на беларускай тэрыторыі расцягнулася практычна на 10 гадоў. У перыяд з 1944 па 1946 гады УПА здзейсніла на тэрыторыі Савецкай Беларусі 2 384 дыверсіі і тэракты, у выніку якіх загінула 1 012 чалавек. Адной з гучных акцый, праведзеных украінскімі нацыяналістамі, быў падрыў у Пінску гарадскога клуба, у якім праходзіў партыйны сход. У выніку гэтага тэракту загінула значная колькасць савецкіх вайскоўцаў, партработнікаў і грамадзянскіх асоб. У сакавіку 1949 года атрад УПА сумесна з падраздзяленнямі беларускіх нацыяналістаў здзейсніў напад на будынкі дзяржустаноў у Гайнаўцы. Некаторыя ўкраінскія атрады даходзілі нават да Навагрудка. Сакратары райкамаў адпраўлялі ў Мінск просьбы аб узмацненні вайсковых гарнізонаў у гарадах і мястэчках, матывуючы гэта небяспекай нападу на іх арганізаваных і добра падрыхтаваных «баівак» украінскіх нацыяналістаў.

У савецкі час пра гэта не прынята было пісаць, але немалаважным фактарам у дзейнасці УПА на тэрыторыі заходніх абласцей БССР была падтрымка гэтых фарміраванняў з боку мясцовага насельніцтва. Многія даследчыкі падкрэсліваюць, што без спачування з боку насельніцтва ўкраінскія атрады не змаглі б эфектыўна функцыянаваць на працягу 10 гадоў. Да таго ж падраздзяленні УПА папаўняліся не толькі асобамі ўкраінскай нацыянальнасці, але і беларусамі, якія ратаваліся ў лясах ад мабілізацыі ў савецкую армію.

Для барацьбы з украінскімі нацыяналістамі на тэрыторыі БССР савецкія органы ўжывалі «чэкісцка-вайсковыя» аперацыі. Напрыклад, у ходзе спецаперацыі, што доўжылася з 15 студзеня па 20 лютага 1945 года, былі праведзены перагрусы 48 799 падворкаў, прачасаны 12 тысяч квадратных кіламетраў лясоў і балот, у выніку чаго было разгромлена 33 узброеныя групы, забіта 98 і арыштавана 3 808 чалавек. Усяго з ліпеня 1944 па лістапад 1945 года НКУС БССР знішчыў 3 320 украінскіх нацыяналістаў. Акрамя гэтага, было затрымана і арыштавана 97 607 чалавек, сярод якіх былі як баевікі, так і грамадзянскія асобы. Апошніх, часцей за ўсё, цэлымі сем'ямі вывозілі ў Сібір. Так, савецкая ўлада спрабавала пазбавіць украінскіх паўстанцаў падтрымкі з боку мясцовага насельніцтва. Эфектыўнымі былі аперацыі па стварэнні ілжэантысавецкіх атрадаў і груп. Напрыклад, у 1945 годзе невялікая ілжэаўнаўская група, створаная НКУС БССР у Пінскім раёне, увайшла ў давер і знішчыла два буйныя атрады УПА пад кіраўніцтвам Трэчуна і Грэчкі.

У красавіку 1947 года ў Іванаўскім раёне Пінскай вобласці НКУС быў знішчыў штаб Пінскага надраённага провада АУН, пры гэтым было арыштавана 160 удзельнікаў нацыяналістычнага падполля. У траўні-чэрвені 1948 года ў Маларыцкім раёне Брэсцкай вобласці спецгрупай НКДБ быў ліквідаваны буйны атрад УПА. У тым жа 1948 годзе ў Жабінкаўскім раёне Брэсцкай вобласці аператыўна-вайсковая група НКУС БССР знішчыла Брэсцкі надраённы провад АУН. У чэрвені 1949-га быў ліквідаваны штаб Кобрынскага надраённага провада АУН. Пры гэтым, падчас аперацыі былі забіты надраённы праваднік Шах, праваднік па Кобрынскім раёне Ярмак (дарэчы, былы камандзір савецкага партызанскага атрада, які перайшоў на бок нацыяналістаў), праваднік па Дзівінскім раёне Дварко, кіраўнік жаночай секцыі акругова провада Аксана, а таксама сувязны з Львова. Па ўспамінах мясцовых жыхароў, хутар, на якім праходзіла нарада кіраўнікоў штаба надраённага провада, быў аточаны падраздзяленнямі ўнутраных войскаў. Бой працягваўся некалькі гадзін. Затым хата была падпалена, і кіраўнікі УПА, якія знаходзіліся там, загінулі ў агні. Апошняя ўкраінская партызанская група была ліквідаваная ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці ў 1952 года.

Вось некаторыя факты з гісторыі дзейнасці падраздзяленняў АУН — УПА на тэрыторыі паўднёвых абласцей БССР у 1930–1950 гадах. Варта адзначыць, што пры вывучэнні тых падзей нельга дапускаць аднабаковыя ацэнкі. Асноўнай мэтай барацьбы байцоў АУН — УПА было стварэнне незалежнай украінскай дзяржавы. Дзеля гэтага нацыяналісты не спыняліся ні перад чым. Іх ахвярамі на тэрыторыі БССР часам станавіліся не толькі савецкія вайскоўцы, супрацоўнікі НКУС або дзяржслужачыя, але і мірныя жыхары. З іншага боку, многія беларускія сяляне часта падтрымлівалі байцоў Украінскай паўстанцкай арміі ў іх антыфашысцкай і антысавецкай барацьбе. Такая падтрымка УПА з боку беларусаў тлумачылася тым, што занадта жорстка праходзіла саветызацыя Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны. У любым выпадку, эпізоды той невядомай палескай вайны заслугоўваюць глыбокага і ўсебаковага вывучэння і асэнсавання.



Тарас Баравец (Тарас Бульба), камандуючы УПА на беларускім Палессі, 1941 г.

УСПАМІНЫ

# ШКОЛЬНАЯ ПАРА. ПАЧАТКІ

Арсень ЛІС

Працяг. Пачатак у №32


Арсень ЛІС

На той час у маёнтку была нейкая невялікая гаспадарчая ўстанова дзяржаўнага статусу, накшталт саўгасу. Палі паблізу абрабляліся. На іх можна было бачыць і чуць, як тарахцеў невялікі трактар.

Гаспадарыла тут нейкая невялікая каманда з пажылых салдат. Казалі, што гэта аўстрыйцы. Яны неяк не кідаліся ў вочы. Магло здацца, што іх зусім няма. Можа, з-за таго, што былі заняты той гаспадаркай. Праўда, зрэдку іх можна было ўбачыць усіх адразу. Яны вышахоўваліся ў невялікую шарэнгу, чалавек 10–12 пры амуніцыі, з вінтоўкамі, і тупалі гуськом у бок Паніззя. Гэта за кіламетраў 5 на поўдзень ад Залесся Агінскага, у горы. Гарамі называлі ў нас ланцуг узгоркаў, што цягнуўся ад Вільні, Панараў, недзе ў бок Радашковіч. Казалі, што быццам выпраўлялася тая каманда на партызан. Раблілася тое, што называецца, для праформы. Старыя ваякі мусілі неяк дзеля начальства дэманстраваць сваю баявую прысутнасць на акупаванай тэрыторыі. Пастраляўшы пад Французскай гарой ля Паніззя, да абеду, часу нашага сыходу са школы, яны тупалі назад. А яшчэ аднойчы яны засведчылі пра сябе, усчаўшы густую стральбу па вароніных гнёздах на дрэвах. У вайне з птушынай зграяй былі яны паспяховымі.

Што побач з намі вялася немцамі гаспадарка, я зразумеў пазней, у 1944-м, калі яны ўцякалі, а я разам з аднавяскоўцамі заскочыў паглядзець, што там засталося. Пры змене ўлады — так ужо павялося — люд заглядаў у маёнткі, пакінутыя сядзібы, каб, не будзем саромецца гэтага слова, «паграбіць». Я прыняў удзел у гэтай, скажам так, усенароднай акцыі. Але, трэба признацца, з нулявым поспехам. Перад усім з прычыны малалецтва. Хоць як паглядзець на тое: недзе прыблізна ў той час і крыху пачакаўшы, можна было заўважыць на таварняках адчайных гаўрошаў, якія падарожнічалі ў пошуках падобнай удачы аж у самую Прусію.

Але ў сваіх згадках я прыпыніўся дзесь яшчэ на 1942–1943 гадах. Другі школьны клас запомніўся мне болей, чым першы. У першым у нас нават не было буквара. Усе заняткі ў маім першым класе адбываліся на дошцы і пры дошцы. Настаўніца, была гэта маладая дзяўчына, як я цяпер разумею, родам з вёскі Хатуцічы. Спакойная і ласкавая, яна нават не запомнілася. Пісала на дошцы літары, як правільна іх выводзіць. Лічэнне спасцігалі на пальцах ды на палачках, якія адзін час яна наказала нам зрабіць і прынесці ў школу.

Другі клас запомніўся і настаўнікам — жвавым, энергічным Сашкам Быкоўскім з Зарудзіч, і некаторымі асобінамі аднакласнікаў. Настаўнік наш досыць пільна сачыў за чысцінёй: «Пакажы рукі, пакажы ногі...» Вясной, натуральна, хадзілі басяком, і настаўнік пільнаваў, каб не запускалі на нагах «рэпы». Сядзелі мы па траіх за партай: Ліс Пеця, Ліс Геня і Арсень. Настаўнік патрабаваў дружнага адказу на прывітанне: «Жыве Беларусь!». Дрэсіраваў клас па табліцы множання і вусным лічэнні. За значны збой пры адказе табліцы мог даць лінейкай колькі разоў «у лапу». Чытаць ды весці вуснае рахункавае лічэнне часта выводзіў клас на прыроду, балазе здатных мясцін наўкол хапала. Адразу за нашым класамгалерэяй быў млын, а направа — надрэчная мясціна і былы звярынец — на наш час проста купа старых вялікіх дрэў, ліпаў і таполяў. Яшчэ ў 60–70-я гады мінулага веку іх, сведкаў жыцця славутага кампазітара і грамадска-палітычнага дзеяча Агінскага, можна было пагладзіць рукой па шурпатай кары, з удзячнасцю ўспамінаючы свае школьныя гады тут, пад іх засенню.

Пад пышнакронымі дрэвамі нам няблага чыталася і хутка складаліся ў галаве лічбы ў належныя сумы. У вусным лічэнні мы ўдваіх з Колем Кур'яном апярэджвалі ўвесь клас, рашалі за ўсіх. Лёгка давалася і табліца множання. У канцы года я атрымаў ад настаўніка нешта накшталт пахвальнай граматы. На аркушыку паперы са школьнага сшытка было хораша напісана чорным чарнілам: «Вучань вельмі старанны... Прашу не забыцца за лета табліцы множання» і стаяў размашысты роспіс кіраўніка класа. Уласна, той лісток з граматай на выведзеным загалоўкам адрасаваўся больш бацьку, чым мне. Мушу тут, дарэчы, признацца, што нягледзячы лёгкасць запамінання, у тым ліку табліцы множання, імклівую маніпуляцыю ў розуме з лічбамі, матэматыка з мяне не выйшла. У старшых класах з матэматычнымі навукамі меў праблемы.

Другі клас мой стаў багаты на дзве — ажно на дзве! — навучальныя кніжкі. Яны былі для мяне, як, мабыць, для шчырага верніка — малітоўнік. Абедзве гэтыя кніжкі няўзнак прычыніліся да будучага майго выбару ў жыцці, звязанага з філалогіяй. Імёны іх аўтараў, укладальнікаў з вышыні сённяшняга майго разумення свету, лёсу — сакральныя. Гэта Якуб Колас і Леаніла Гарэцкая, укладальнікі чытанак «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» і «Родны край».

Як пазней даведаўся, у 20-я гады передусім у Вільні кааператыўным Беларускім выдавецкім таварыствам, а таксама прыватнымі выдавецтвамі Барыса Клецкіна, Уладзіслава Знамяроўскага ды інш. было выдадзена шмат арыгінальных беларускіх і перакладных падручнікаў. Выдадзена ў перыяд нацыянальнага абуджэння, шукання дарог на патрэбу беларускай школы, якой польская адміністрацыя на гвалт не хацела даць беларусам. Значныя тыражы тых выданняў аселі на складах, у беларускіх кнігарнях Вільні нерэалізаваныя.

У вайну, калі беларуская школа пачала адраджацца, тыя запасы добра выручалі вучняў і настаўнікаў, прынамсі заходняга рэгіёну Беларусі, даўняй Віленшчыны. Новыя гаспадары пачатковую і сярэднюю беларускую адукацыю не абмяжоўвалі. Яна ім як бы не абходзіла. Энтузіясты беларускай асветы маглі скарыстаць момант, і скарыстоўвалі з яго. У Вільні адрадзілася беларуская гімназія, зачыненая ў 1940 годзе. За ёй адкрылася яшчэ і семінарыя, якую палякі закрылі яшчэ ў 1931-м. Моладзь з нашых ваколіц — да Вільні было не так далёка — падалася туды на штудыі.

Праз гімназістаў і семінарыстаў да нас сталі трапляць падручнікі і іншыя беларускія кніжкі тых даваенных выданняў.

У другім класе я вучыўся з Віцем Сенькоўскім, старэйшы брат якога Юра займаўся ў віленскай вучэльні. Аднаго разу Віця сказаў мне, што ў яго ёсць цікавая кніжка «Родны край», і не адна — брат прывёз. Не адкладаючы на заўтра, я, памятаю, у мяцеліцу выправіўся ў засценак, дзе жылі Сенькоўскія. Праз кароткі час нёс да хаты сваю здабычу, прыціскаючы да грудзей ды захінаючы ад замеці, ад чаго далікатная вокладка «Роднага краю» адразу набыла варты жалю выгляд. Але такое не бянтэжыла. Дома мы з маці абгарнулі кніжку газетай. А пачыталі, дык яна спадабалася не менш за «Другое чытанне».

Як на сённяшняе разуменне, з паўвекавой дыстанцыі часу, то былі тыя абедзве чытанкі ўкладзены паводле педагагічнага досведу, правіл педагагічнай навукі пачатку ХХ стагоддзя. Падрыхтаваныя з глыбокім адчуваннем кволай дзіцячай душы, яны вылучаліся тактам, уменнем весці яе ў навакольны свет, паволі разгортваючы перад вачыма вучня праявы жыцця, яго далячыні.

Як падручнікі, прызначаныя да засваення навыкаў чытання, разумовага развіцця дзіцяці, кніжкі Л. Гарэцкай і Я. Коласа мелі, натуральна, шмат супольнага. У той жа час яны даволі прыкметна розніліся. Перш-наперш зместам, сабраным пад іх вокладкамі матэрыялам, агульнай танальнасцю яго гучання. Апальны народны настаўнік Канстанцін Міцкевіч укладваў сваё «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» у надта неадпаведных такому клопату ўмовах. Звольнены з працы ў школе за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе, ён апынуўся ў досыць скрутным становішчы. Коратка прыстаў быў да працы рэдакцыі


РОДНЫ КРАЙ

ДРУГАЯ ПАСЬЛЯ ЛЕМАНТАРА КНІГА ДА ЧЫТАНЬНЯ.

Зложыла Л. ГАРЭЦКАЯ, вучыцелька Віленскай Беларускай Гімназіі,

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ ШКОЛЬНАЙ КАМІСІІ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА Т — ВА.

ВЫДАНЬНЕ ПЕРАРОБЛЕНАЕ І ДАПОЎНЕНАЕ.

„ВІЛЕНСКАЕ ВЫДАВЕЦТВА" Б. КЛЕЦКІНА
1929 БЕЛАРУСКІ АДДЗЕЛ 1929


„Загляне сонца і ў наша ваконца!".

ДРУГОЕ ЧЫТАННЕ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ БЕЛАРУСАЎ.

Напісаў Якуб Колас.

Пераглядзеў і прадмову прыпісаў Л. СЕЎРУК.

ВЫДАЛІ СУПОЛКІ: „Загляне сонца і ў наша ваконца" і „Наша Хата".

ПЕЦЯРБУРХ. 1909.

**Абедзве чытанкі былі падрыхтаваныя з глыбокім адчуваннем дзіцячай душы, вылучаліся тактам, уменнем весці яе ў навакольны свет, паволі разгортваючы перад вачыма вучня праявы жыцця, яго далячыні**

«Нашай нівы», нядоўга настаўнічаў у неафіцыйнай школцы, адкрытай для сялянскіх дзяцей на Талачыншчыне памешчыцай Гардзялкоўскай. А ўжо ўвосень 1908 года яго чакала турэмнае зняволенне ў Пішчаўскім замку ў Мінску.

Агульная танальнасць беларускай чытанкі, выдадзенай у 1909 годзе ў Пецярбургу суполкай «Загляне сонца і ў наша ваконца», мінорная. І гэта зусім не дзіва: асабісты свой лёс паэт-педагог не аддзяляў ад долі народа, які цярпеў ад царскага абсалютызму, імперскай палітыкі. Нядоля народа, краю, спакойнае харастсво беларускай прыроды чуйна агучана ў творах Якуба Коласа гэтай пары, а яны, гэтыя творы, склалі аснову «Другога чытання для дзяцей беларусаў».

Праўдзівасць, шчырасць, мінор, выказаныя пісьменнікам, западалі ў душу, будзілі водгалас.

З ранняга дзяцінства, з Коласавай кнігі асабліва запомніліся вершы «Ярка на камінку смольны корч пылае», «На саломцы тонкай, у траве глухой спее, даспявае колас сіратой...», «Льецца Нёман сярод гораў, светлы чысты, як з расы...».

Чытанкі Леанілы Гарэцкай «Родны край», або, як значылася ў падзагалоўках да іх, «другая», а затым «трэцяя і чацвёртая пасля лемантара кніга для чытання», абапіраліся на шырэйшае кола аўтараў. У яе (асабліва ў «трэцюю і чацвёртую») укладальніца, на той час настаўніца Віленскай беларускай гімназіі Гарэцкая, уключыла шырэйшае кола аўтараў — рускіх, польскіх, англійскіх. Аднак аснову кнігі Гарэцкай, як і Коласа, складалі творы беларускія, аўтарскія ды народныя. У сваe чытанкі ўкладальніца ўлучыла і тое-сёе з чытанак Ластоўскага, змястоўных, аўтэнтычных, ніколі нікім не ацэненых па сёння.

У «Родным краі», акрамя першапачатковых ведаў пра жыццё народа, яго побыт, даваліся звесткі і з гісторыі Беларусі, яе славутых сыноў ды з культуры. Асабліва ў чытанках, прызначаных да трэцяга і чацвёртага класаў. Кніга «Родны край» у шчаслівейшыя для беларусаў 20-я гады цанілася, мела ў Вільні да сямі перавыданняў. Натуральна, дапаўнялася, удасканальвалася — была разлічана на выхаванне нармальнага, гарманічна духоўна развітага чалавека, передусім грамадзяніна сваёй зямлі.

«Родны край» для 4 класа навучання пачынаўся з графічнага партрэта Янкі Купалы, верша паэта:

*Вучыся, нябожа, вучэнне паможа*
*Змагацца з нядоляй, з няволяй...*
*Што мучыць сягоння, што думкі трывожа, —*
*Збяжыць і не прыйдзе ніколі.*
*Жаль згіне, як мара: не будзеш няздарай,*
*Нідзе і ні ў чым не заблудзіш;*
*Ты праўду ў няпраўдзе, як сонца між хмараў,*
*Спазнаеш, як цёмен не будзеш.*

З «Роднага краю» на ўсё жыццё запаміналася і простае Леапольда Родзевіча «Буслы», і энергічнае, як заклік не толькі да земляроба:

*Уставай, сявец, — бяры сяўню,*
*аўса, вады давай у волю*
*Свайму таварышу-каню*
*і едзь паспешна з ім у поле.*
*Прыйшла вясна, і там цябе*
*чакае звольненая ніва,*
*і зазывае ўжо к сабе*
*сяўца-работніка зычліва.*
*За зіму ўспрэўшае зямля*
*Табе аддасць за працу многа!*
*Уставай, сявец! Няхай сяўня*
*Не будзе пуста і ўбога.*

Толькі праз гады даведаешся пра творцаў гэтых упадабаных табою радкоў: Леапольда Родзевіча, Якуба Коласа, Цішку Гартнага, пра іх неласкавы чалавечы лёс.

Запаміналася ў тым далёкім другім класе і нешта больш складанае для тагачаснага разумення, але памятнае чымсьці. Можа, заключаным у паэтавых радках драматызмам, яшчэ нечым неўразумелым?

*— Мамка, мамка!*
*Што так плачаш,*
*і крыжамі неба значыш?*
*Ці ж баішся вельмі неба?*
*То ж яно дае нам хлеба!*
*— Бачыш, сынку: цёмна хмара*
*Залягла, як злая мара,*
*Градам выб'е наша збожжа,*
*Хлеб паводкаю зніштожа...*

Працяг будзе

**Новы Час**
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае унітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1-1234.
Тэл.: +375 29 651 21 12, +375 17 268 52 81
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП "Плутас-Маркет". г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 865

Падпісана да друку 31.08.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.

Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.

Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.